# "Царква", № 2 (53), 2007

## Пілігрымка ў гонар Маці Божай Жыровіцкай

6-7 траўня 2007 году, напярэдадні сьвята Івацэвіцкай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Жыровіцкай, група з 25 івацэвіцкіх і берасьцейскіх грэка-католікаў зьдзейсьніла пешую пілігрымку ў гонар Жыровіцкай іконы Маці Божай. Гэты цудатворны абраз стаў адной з найбольшых хрысьціянскіх сьвятыняў беларускага народу як для праваслаўных, так і для католікаў візантыйскага і лацінскага абрадаў. Таму нездарма дзень 7 траўня, калі ўшаноўваецца гэтая ікона, у нашым календары – гэта яшчэ й Дзень малітваў за БГКЦ. У гэты дзень удзельнікі пілігрымкі маліліся ня толькі за ўмацаваньне ўласнай веры, але і за ўсю нашую Царкву.

Маршрут пілігрымаў пачынаўся ля памятнага крыжа айцам-езуітам з Усходняй Місіі ў Альбярціне, там, дзе некалі служыў беларускі грэка-каталіцкі экзарх а. Антон Неманцэвіч, SJ. Далей шлях пралягаў праз навакольныя вёскі ў Жыровічы і Быцень – мясьціны, зьвязаныя з дзейнасьцю сьв. Язафата.

За два дні вернікі з малітвай, сьпевамі і духоўнымі разважаньнямі прайшлі каля 60 км і завершылі пілігрымку ў Івацэвічах, дзе 8 траўня было парафіяльнае сьвята. Духоўную апеку вернікам на ўсім шляху пілігрымкі аказваў а. Андрэй Буйніч з Менску. Дзяўчаты з супольнасьці “Маран-ата” разам з а.Ігарам Кандрацьевым з Берасьця рупіліся пра забесьпячэньне адпачынку і смачнага харчаваньня пілігрымаў. Пасьля пілігрымкі ўсе яе ўдзельнікі дружна выказалі шчырае жаданьне і ў наступны год прыняць у ёй удзел.

[Версія для друку]

Фотагалерэя













## Пастырскае слова

**_Апостальскага Візітатара «ad nutum Sanctae Sedis» для грэка-каталікаў Беларусі на сьвята Пасхі Гасподняе і на сьвятую Пяцідзясятніцу 2007 году_**

*Пачэсныя Айцы сьвятаслужыцелі!*
*Дарагія Манахі, Манахіні і Браты Семінарысты!*
*Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры! Паважаныя Сябры!*

# I. Сьвятло Хрыста прасьвятляе ўсіх

*Уваскрасеньня дзень! Прасьвятлімся, людзі:*
*Пасха Гасподняя, Пасха!*
*Бо вось ад сьмерці да жыцьця і ад зямлі на неба*
*Хрыстос Бог узьняў нас,*
*якія пяём песьню перамогі.*
*(Сьветлая Ютрань)*



**1.** Сьвята Пасхі Госпада і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста ў 2007 годзе хрысьціяне і ўсходняй, і заходняй традыцыяў – праваслаўныя, грэка-каталікі, рыма-каталікі ды пратэстанты – сьвяткуюць разам. Гэта вялікая Божая ласка для ўсіх хрысьціянаў у Беларусі.

*Уваскрасеньня дзень! Прасьвятлімся, людзі:*
*Пасха Гасподняя, Пасха!*

У еднасьці з усімі хрысьціянамі Беларусі хочам у гэты велікодны час прасьвятліць усё нашае жыцьцё і жыцьцё нашае Бацькаўшчыны сьвятлом Пасхальнай Перамогі Госпада і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста.

*Бо вось ад сьмерці да жыцьця і ад зямлі на неба*
*Хрыстос Бог узьняў нас,*
*Якія пяём песьню перамогі.*

У сьвяточны час Уваскрасеньня Ісуса Хрыста хочам памятаць, што ў 2007 годзе хрысьціяне Еўропы – у тым ліку і хрысьціяне Беларусі – сустрэнуцца разам на III Еўрапейскай Экуменічнай Асамблеі, якая адбудзецца ў горадзе Сібію ў Румыніі 4-9 верасьня 2007 году. Тэма сустрэчы “Сьвятло Хрыста прасьвятляе ўсіх. Надзея на абнаўленьне і еднасьць у

Еўропе”.

Таму вернікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы шчыра моляцца, каб Вялікдзень 2007 году быў блаславёнай нагодай для каталікаў двух абрадаў разам з братамі праваслаўнымі і пратэстантамі асэнсоўваць праўду, што Ісус нясе ўсім жыхарам Беларусі сьвятло няспыннай надзеі.

**2.** На велікоднай Вячэрні ў нашым візантыйскім абрадзе Царква чытае словы сьвятога Евангельля паводле Яна:

*Вечарам таго самага першага дня тыдня,*
*калі дзьверы дому, дзе сабраліся вучні,*
*былі зачыненыя дзеля страху перад габрэямі,*
*прыйшоў Ісус, стаў пасярэдзіне і сказаў ім “Мір вам!” (Ян 20, 19).*

Слова Божае суцяшае нашыя сэрцы сьведчаньнем пра вялікі дар Хрыстовага міру, які перамагае ўсялякі страх.
Гэты дар супакою, які прыносіць Уваскрослы Хрыстос, асабліва патрэбны нам у гэты час, калі адзначаюцца 70-ыя ўгодкі жахлівых сталінскіх рэпрэсіяў, ахвярамі якіх стала больш за 2 мільёны жыхароў Беларусі. Разам з хрысьціянамі іншых канфесіяў узгадваем гэтыя ахвяры перад Зьмёртвыхпаўсталым Госпадам і хочам асабліва маліцца аб дары вечнага супакою для іх душаў у дзень Радаўніцы.

Дар супакою Ўваскрослага Госпада хочам захаваць глыбока ў нашых сэрцах і быць адважнымі сьведкамі Ягонай Пасхальнай Перамогі. Хочам таксама памятаць пра словы Апостальскага блаславеньня Вялікага Папы Слугі Божага Яна Паўла ІІ, якія ён перадаў нам незадоўга да свайго адыходу да дому Айца: “Будзьце мужнымі! Адвагі!”
Хай гэтыя словы стануцца заахвочваньнем для ўсіх беларусаў, як на Бацькаўшчыне так і па-за яе межамі, з нязломнай верай быць сьведкамі надзеі ды любові.

**3.** Дарагія Браты і Сёстры!
Велікодныя пажаданьні хачу перадаць усім вам словамі, якія накіраваў да нас Апостальскі Нунцый у Беларусі, Найдастойны Архібіскуп Марцін Відавіч:

“Сьвяткуючы Пасхальную Таямніцу Ісуса Хрыста, жадаю Вам, Дастойны Ойча, усім прасьвітарам, дыяканам, асобам кансэкраванага жыцьця ды ўсім сьвецкім вернікам візантыйскага абраду, вялікага супакою сэрца, радасьці ды моцы, патрэбных у зьдзяйсьненьні місіі, якую давярае Госпад Бог.

Няхай Уваскрослы Госпад жыцьця і сьмерці напаўняе Сваёй ласкай Вас, Дастойны Ойча, Каталіцкую Царкву візантыйскага абраду ў Беларусі ды ўсіх жыхароў гэтай дарагой Краіны”.

Дзякуем Высокадастойнаму Прадстаўніку Сьвятога Айца Бенядыкта XVI – Апостальскаму Нунцыю і даваяраем ягонае служэньне ў Беларусі Ўваскрасламу Хрысту Чалавекалюбцу.

Усіх вас віншуем з Уваскрасеньнем Хрыстовым і вітаем велікодным вітаньнем:

*Хрыстос уваскрос! – Сапраўды ўваскрос!*

## II. Вялікі дар Божае Міласэрнасьці

**1.** У 2007 годзе хрысьціяне і ўсходняй, і заходняй традыцыяў – праваслаўныя, грэка-католікі, рыма-католікі ды пратэстанты – сьвяткавалі разам сьвята Пасхі Госпада і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста. Разам сьвяткуем і сьвятую

Пяцідзясятніцу – Зыход Сьвятога Духа. Гэта вялікі дар Божае Міласэрнасьці для ўсіх хрысьціянаў Беларусі, гэта крыніца радасьці і надзеі. Гэтую сьвяточную радасьць хочам выказаць словамі старажытнай сьціхіры:

*Сьвяткуем Пяцідзясятніцу і прыйсьце Духа,*
*і спаўненьне абяцаньня, і надзеі зьдзяйсьненьне,*
*і тайну вялікую і пачэсную.*
*Дык усклікнем: "Творча ўсіх Госпадзе, слава Табе!"*
*(Вячэрня Пяцідзясятніцы)*



Час Пяцідзясятніцы — гэта для ўсіх хрысьціянаў час узмоцненай малітвы, час, у якім Царква просіць багатых дароў Духа Сьвятога. Але трэба нам памятаць, што самым вялікім дарам Уваскрослага Хрыста Чалавекалюбца – Хрыста Міласэрнага зьяўляецца сам Дух Сьвяты. Дух, Які ў нашых сэрцах узбуджае веру, надзею і любоў ды навучае нас "пакорлівай мудрасьці" (Кал 3, 12) і паслухмянасьці Паўсюднай Царкве. Ён магутна дзейнічае ў сьвятых Тайнах (Сакрамантах) і напаўняе сэрцы вернікаў мужнасьцю.

"Вера – гэта сапраўды вельмі дарагі талент, вялікі дар Божы",– пісаў у 1934 годзе на старонках часопісу "Да Злучэньня" Экзарх беларускіх грэка-католікаў айцец Антон Неманцэвіч, які праз некалькі гадоў заснаваў Апостальства малітвы за Беларусь. За ягоным прыкладам хочам і мы штодзённа маліцца за нашую Бацькаўшчыну ды любіць Беларусь, беларускую мову і культуру любоўю Божай, што "вылілася ў сэрцы нашыя праз Духа Сьвятога, Які нам дадзены" (Рым 5, 5).

Пяцьдзясят дзён паміж нядзеляй Уваскрасеньня Гасподняга і нядзеляй Сьвятой Тройцы былі для вернікаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы часам інтэнсіўных душпастырскіх ініцыятываў і радасных сьвяткаваньняў, сярод якіх на першым плане стаіць 15-годдзе менскай парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі. Міласэрнага Ісуса Хрыста пакорліва просім, каб гэтая парафія, ды шмат іншых парафіяў БГКЦ, змаглі атрымаць прыстойныя месцы культу, у якіх змогуць узносіць малітвы "за Богам сьцеражоную краіну нашу Беларусь і ўвесь беларускі народ, за стойкасьць у веры, мужнасьць у выпрабаваньнях і вернасьць свайму народу ўсіх нас".

На працягу пяцідзесяці мінулых дзён беларускія хрысьціяне розных канфесіяў сустракаліся разам – на Бацькаўшчыне і па-за яе межамі – на сумесных семінарах і супольных малітвах, дзе асэнсоўвалі пасхальную Перамогу Міласэрнага Хрыста Чалавекалюбца і знаходзілі ў ёй крыніцу духовай сілы "з нязломнай верай быць сьведкамі надзеі ды любові". Выдатным прыкладам супольных духовых ініцыятываў быў актыўны ўдзел міжканфесійнай групы беларускіх хрысьціянаў у міжнароднай сустрэчы, якая 12 траўня 2007 году праходзіла ў нямецкім горадзе Штутгарт і мела назву "Сумесна для Еўропы". Гэтая сустрэча была блаславёнай нагодай паглыбленьня духовай салідарнасьці ды малітоўнай сулучнасьці хрысьціянаў Заходняй і Ўсходняй Еўропы перад выклікамі сучаснага сьвету. Гэта быў

каштоўны этап падрыхтоўкі да III Еўрапейскай Экуменічнай Асамблеі, якая адбудзецца ў горадзе Сібію ў Румыніі 4-9 верасьня гэтага году.

**2.** Абяцаньне Айца – Дух Сьвяты – ёсьць Духам Любові. Ён узбуджае ў сэрцах вернікаў любоў да Бога і да бліжняга, любоў да Царквы і да Бацькаўшчыны, да яе гісторыі і традыцыі.

Трэба памятаць, што гісторыя і час, у які Бог кліча да жыцьця кожнага чалавека, ніколі не зьяўляюцца выпадковымі. Перад кожным пакаленьнем стаіць новае заданьне ня толькі пасіўна жыць у сучасным сьвеце, але разумна яго будаваць, уплываць на працэсы сучаснасьці і быць адказным за заўтрашні дзень. У нашыя дні гэта вялікі выклік для маладога пакаленьня, за якое хочам асабліва маліцца ў гэтыя дні.

Сёньняшняе маладое пакаленьне паклікана быць сьвятлом у цёмных лабірынтах сучаснай цывілізацыі, якая пазначаная шматлікімі маральнымі праблемамі. Гэтыя праблемы патрабуюць ад хрысьціянаў асаблівай мудрасьці і дзейснасьці, вернасьці высокім духовым ідэалам і ахвярнасьці.

Сучасная культура вельмі часта фармуе асобу бяз сувязі з гісторыяй і мінулым. Нельга забываць і пра тое, што ў гэты новы этап культурных зьменаў нашае беларускае грамадзтва трапіла пасьля савецкага часу, які прынёс велізарную шкоду для традыцыі і тоеснасьці нашага народу. Таму, калі сёньня сапраўды хочам абвяшчаць Евангельле маладому чалавеку грунтоўна, трэба зьвяртаць асаблівую ўвагу на ўмацаваньне ў грамадзтве каранёў нашае хрысьціянскае традыцыі і культуры.

**3.** Гісторыя і памяць для хрысьціянаў – гэта ня толькі каталог фактаў з мінулага. Ісус Хрыстос, Сын Божы, Які стаў Чалавекам і жыў у гісторыі і часе, натхняе нас у новым сьвятле пазнаваць і чытаць нашу гісторыю. Хрысьціянская традыцыя нашага народу, вымоўныя сьведчаньні вернасьці Хрысту ў мінулым стагоддзі, постаці сьвятых і мучанікаў Беларускай Зямлі – вось невычэрпныя крыніцы для нашай сёньняшняй духовасьці, значыць новага жыцьця ў Духу Сьвятым. Толькі новы чалавек можа ствараць новую культуру і фармаваць сваё жыцьцё паводле евангельскіх каштоўнасьцяў. Адукацыя і дасканаленьне чалавека ня маюць сэнсу, калі яны накіраваныя толькі на ўласную карысьць. Кожны крок маладога чалавека, які штосьці здабывае, павінен сустракацца з ягоным сьвядомым жаданьнем дзяліцца з іншымі тым, што мае.

На асабістай культуры моладзі грунтуецца культура іхняй будучай сям’і. Менавіта таму Яго Сьвятасьць Папа Ян Павел II, калі сустракаўся з сем’ямі ў 1997 годзе, зьвярнуўся да моладзі, узгадваючы пра іхнюю асабістую культуру жыцьця як пра фундамент іх будучых сем’яў.

“Вы, моладзь,– казаў Сьвяты Айцец,– сёньня з вялікім энтузіязмам рыхтуйце заўтрашні дзень вашых сем’яў. Навучыцеся любіць і быць адкрытымі на іншага чалавека, навучыцеся слухаць і даваць адказы, навучыцеся аддаваць сябе іншаму і рабіць асабістыя ахвяры, урэшце навучыцеся ўзаемнаму разуменьню і прабачэньню” (Ян Павел II, Сустрэча з сем’ямі 04.10.1997).

Будучыня нашае Краіны ствараецца сёньня, і таму згодная, сумесная праца хрысьціянскіх Цэркваў на полі выхаваньня моладзі і духовага фармаваньня сем’яў як сапраўдных “дамовых Цэркваў” – гэта адказнае будаваньне нашага агульнага дому, у якім мы будзем жыць заўтра. Гэты подзьвіг будаваньня агульнага дому на евангельскім падмурку мы можам зьдзейсьніць толькі ў моцы Духа Сьвятога. Таму Яго пакорліва клічам:

*Уладару нябесны, Суцяшальніку, Духу праўды [...]*
*Скарбніца дабра і жыцьця Падаўча, прыйдзі і пасяліся ў нас!*

Толькі ў моцы Духа Сьвятога наш агульны дом – Беларусь – зможа быць “Беларусьсю для Хрыста”, а мы зможам “з нязломнай верай быць сьведкамі надзеі ды любові”.

У малітоўнай сулучнасьці

**+ Архімандрыт СЯРГЕЙ (Гаек)**
**Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі**
Менск, Пасха Хрыстова – сьвятая Пяцідзясятніца 2007 году

## Хрысьціянства ў гістарычным лёсе беларускага народу



Пад такой назвай адбылася рэспубліканская навукова-тэарэтычная канферэнцыя ў Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы 20 красавіка 2007 году. Сярод арганізатараў канферэнцыі – Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, факультэт гісторыі і сацыялогіі і кафедра гісторыі Беларусі Гарадзенскага ўніверсітэту.

Навукоўцы з розных куткоў Беларусі праявілі вялікую цікавасьць да гэтай канферэнцыі. На пленарным паседжаньні былі праслуханы восем дакладаў, а ў шасьці секцыях былі заяўленыя каля ста дваццаці дакладаў і паведамленьняў. Навукоўцы закранулі самыя розныя тэмы – тэарэтычна-метадалагічныя падыходы да вывучэньня хрысьціянства ў гісторыі, узаемасувязь дзяржаўна-палітычных і рэлігійных прыярытэтаў, хрысьціянскае асьветніцтва, этнаканфесійныя стэрэатыпы беларусаў, хрысьціянскія матывы ў літаратуры, тапаніміі, гэральдыцы Беларусі.

Адметнай рысай канферэнцыі стаўся шырокі ўдзел духавенства розных канфесіяў – праваслаўных, каталікоў лацінскага і візантыйскага абрадаў. Тое, што канферэнцыя была арганізаваная сьвецкай навучальнай установай, стварыла магчымасьць сустрэчы розных пунктаў гледжаньня, спрыяла абмену думкамі паміж прадстаўнікамі розных накірункаў – хрысьціянамі і атэістамі, каталікамі і праваслаўнымі. Падобны форум стаўся магчымым, дзякуючы намаганьням арганізатараў канферэнцыі, перадусім дэкана гістарычнага факультэту ГрДзУ сп. Эдмунда Ярмусіка.

Нямала цікавых дакладаў і паведамленьняў на канферэнцыі былі прысьвечаны тэме Уніі і сучаснага грэка-каталіцтва. Сярод іх можна выдзеліць даклад доктара Анджэя Гіля з люблінскага Інстытуту Цэнтральна-Ўсходняй Еўропы “Роля Ўніяцкай Царквы на беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага ў XVII стагоддзі” і цікавае паведамленьне студэнткі

Берасьцейскага дзяржаўнага ўніверсітэту Любові Лукашэвіч “Праца з моладдзю ў сучаснай Грэка-Каталіцкай Царкве на прыкладзе парафіяў Берасьцейскай вобласьці”. Актыўна ўдзельнічалі ў канферэнцыі і самі грэка-каталікі – дыякан Яўген Усошын з Менску, айцец Андрэй Крот з Горадні. Усяго з дакладамі і паведамленьнямі выступіла каля дзясятка грэка-каталіцкіх навукоўцаў з розных навучальных установаў. Доктар гістарычных навук, прафесар Сьвятлана Марозава, якая зьяўляецца адным з вядучых у Беларусі сьпецыялістаў па Уніі, была адным з арганізатараў канферэнцыі.

**а. Андрэй Крот**

***На фота:*** *20.04.2007, Горадня. Сустрэча падчас навуковай канферэнцыі праваслаўнага і грэка-каталіцкага сьвятара.*

“Таямніца любові”
“СТАРЫЯ” І “НОВЫЯ” РЭЧЫ Ў АПОСТАЛЬСКІМ ПАСЛАНЬНІ
“SACRAMENTUM CARITATIS” ПАПЫ БЕНЯДЫКТА XVI

*14 сакавіка ў офісе ватыканскай прэс-службы адбылася прэзентацыя адгартацыі (Апостальскага пасланьня) Бенядыкта XVI “Sacramentum Caritatis” (“Таямніца любові”). Гэты дакумент, які прысьвечаны Еўхарыстыі, зьяўляецца вынікам працы Сіноду Біскупаў, які праходзіў у кастрычніку 2005 году. Дакумент складаецца з трох частак, кожная з каторых закранае розныя асьпекты навукі пра Еўхарыстыю.*

***Repetitio mater studiorum est***

Першая частка “Еўхарыстыя – таямніца веры” ўяўляе сістэматычны багаслоўскі выклад. Пра яе можна сказаць, што гэта спазіраньне праз “акуляры” еўхарыстычнай тэматыкі на паасобныя трактаты дагматычнай тэалогіі. Бачна гэта і з падразьдзелаў узгаданай часткі: “Найсьвятая Тройца: Еўхарыстыя”, “Ісус – праўдзівы Агнец, прынесены ў ахвяру”, “Сьвяты Дух і Еўхарыстыя”, “Еўхарыстыя і Царква”, “Еўхарыстыя і Таямніцы”, “Еўхарыстыя і эсхаталогія”, “Еўхарыстыя і Дзева Марыя”. Такі метадалагічны падыход пакліканы абгрунтаваць сьцьверджаньне, якое знаходзім на пачатку першай часткі: “Вера Царквы зьяўляецца ў сваёй істоце верай еўхарыстычнай і сілкуецца ў асаблівы спосаб ля стала Еўхарыстыі” (SC, 6).

Зьвяртаюць на сябе ўвагу некаторыя пункты, на якіх у сваім пасланьні Папа робіць асаблівы акцэнт, тлумачачы навуку Царквы. Адзін з іх датычыць цэлібату (бязжэнства) рыма-каталіцкіх сьвятароў. Тут Папа пералічвае і зьвяртае ўвагу на актуальнасьць традыцыйных аргументаў, якія абгрунтоўваюць такую царкоўную дысцыплінарную практыку. У іншым месцы гаворка ідзе пра недапушчэньне разьведзеных асобаў да сьв. Таямніцаў. У гэтай справе Сінод “пацьвердзіў практыку Царквы, што грунтуецца на Сьвятым Пісаньні (пар. Мк 10, 2-12), адносна недапушчэньня да Таямніцаў разьведзеных асобаў, якія ўступілі ў новы саюз, бо сваім станам і сітуацыяй аб’ектыўна супрацівяцца таму адзінству ў любові паміж Хрыстом і Царквою, якая акрэсьлена і рэалізавана ў Еўхарыстыі” (SC, 29). Нягледзячы на гэта – як падкрэсьлівае далей адгартацыя – узгаданыя вышэй асобы належаць да Царквы, і Царква – наколькі гэта мажліва – спрыяе ім у іх прагненьні практыкаваць хрысьціянскі стыль жыцьця. Папа ў першай частцы пасланьня таксама нагадвае пра актуальнасьць і сэнс водпустаў (індульгенцыяў) ды заахвочвае карыстацца імі ў духоўным жыцьці (пар. SC, 21).

***Lex orandi est lex credendi***

Другая частка дакументу – “Еўхарыстыя – таямніца богаслужэньня” – мае літургічна-душпастырскі характар і ўказвае на сувязь паміж верай і еўхарыстычным культам Рыма-Каталіцкай Царквы. Можна тут знайсьці падрабязныя ўказаньні, якія датычаць як сьв. Імшы, так і сакральнай архітэктуры. З асаблівай моцай тут падкрэсьліваецца каштоўнасьць грыгарыянскага сьпеву і лацінскай мовы ў рыма-каталіцкай літургіі, больш таго Бенядыкт XVI адзначае: “Ня можна таксама занядбаць магчымасьці, каб самыя вернікі ведалі найбольш ужываныя малітвы на лаціне і сьпявалі некаторыя часткі літургіі ў грыгарыянскі спосаб” (SC, 62). Яшчэ адзін моцны акцэнт, які можна знайсьці ў гэтай частцы дакументу, датычыць удзелу ў Еўхарыстыі хрысьціянаў-некатолікаў. Зьвяртаючы ўвагу на тое, што Еўхарыстыя ня ёсьць толькі выявай нашай асабістай сувязі з Ісусам Хрыстом, але таксама сьведчыць пра поўную еднасьць (communio) з Царквою, Папа кажа: “Гэта ёсьць прычынай, дзеля якой з болем, але не без надзеі, просім хрысьціянаў-некатолікаў, каб зразумелі і паставіліся з пашанай да нашага перакананьня, якое мае падставы ў Бібліі і Традыцыі. Мы сьцьвярджаем, што еўхарыстычная еднасьць і еднасьць Царквы так унутрана адна ад адной залежаць, што ў прынцыпе немагчыма, каб хрысьціяне-некатолікі прыступалі да адной, не карыстаючыся з другой” (SC, 56). Бенядыкт XVI, аднак, ня выключыў цалкам магчымасьці ўдзелу ў Таямніцах для хрысьціянаў-некатолікаў, указваючы на тое, што ў некаторых акалічнасьцях, якія акрэсьлены ў Катэхізісе Каталіцкай Царквы, гэта дапушчальна, але гэтых умоваў належыць дакладна прытрымлівацца. Таксама ў гэтай частцы адгартацыі можна знайсьці шматлікія іншыя літургічныя і пастырскія ўказаньні, што датычаць служэньня Еўхарыстыі і ўдзелу ў ёй.

***“Жыць у стылі дня Гасподняга”***

У трэцяй частцы Апостальскага пасланьня, якая названа “Еўхарыстыя – містэрыя жыцьця”, Папа, словамі сьв. Ігната Антыяхійскага, заклікае “жыць у стылі дня Гасподняга”. Бенядыкт XVI зьвяртае ўвагу на вартасьць “радыкальнай навіны, якую прынёс Хрыстос у Еўхарыстыі” (SC, 71). Азначае гэта, што вера кожнага хрысьціяніна (якая мае еўхарыстычны характар) павінна натуральным чынам знаходзіць адбітак у нашым штодзённым жыцьці. Еўхарыстычная таямніца мае яшчэ і важны грамадзкі асьпект, бо ёсьць “таямніцай еднасьці паміж братамі і сёстрамі”, якія паяднаныя з Ісусам Хрыстом, і таму мы “ня можам мець Хрыста толькі для сябе”.

Да “стылю дня Гасподняга” належыць таксама асабістае сьведчаньне веры кожнага хрысьціяніна: “Нашае веравызнаньне Бога ў істоце не зьяўляецца ніколі чыста прыватным актам, без уплыву на нашыя грамадзкія сувязі: яно вымагае публічнага сьведчаньня нашай веры” (SC, 83). “Хрыстос праз успамін пра сваю ахвяру ўзмацняе еднасьць сярод братоў, а асабліва запрашае тых, якія ёсьць у канфлікце, каб прысьпешылі паяднаньне, адкрываючыся на дыялог і будаваньне справядлівасьці. Няма сумненьня, што ўмоваю пабудовы сапраўднага міру ёсьць аднаўленьне справядлівасьці, паяднаньне і прабачэньне”,– адзначае Папа ў сваім пасланьні (SC, 89). Уласна з усьведамленьня гэтага нараджаецца таксама і “жаданьне перамяненьня несправядлівых структураў, каб зноў вярнуць павагу да годнасьці чалавека, створанага на вобраз і падабенства Бога”. У той жа час Сьвяты Айцец перасьцерагае ад крайнасьцяў: “…Ня ёсьць заданьнем Царквы ўдзел у палітычнай барацьбе, каб збудаваць больш справядлівае грамадзтва; тым ня менш Царква ня можа і нават не павінна заставацца з краю барацьбы за справядлівасьць. Царква “павінна ўключыцца ў яе праз аргументацыю розуму і абудзіць духоўныя сілы, без якіх справядлівасьць, якая заўсёды патрабуе ахвярнасьці, ня можа ўсталявацца ды разьвівацца» (SC, 89).

Напрыканцы Апостальскага пасланьня Папа заклікае ўсіх вернікаў да поўні жыцьця ў

Сьвятым Духу. Бенядыкт XVI узгадвае ды ставіць як узор шматлікіх сьвятых розных часоў, цэнтрам сьвятасьці якіх заўсёды была Еўхарыстыя. Асобна Сьвяты Айцец зьвяртае ўвагу на Багародзіцу: “Ад яе павінны мы вучыцца, як станавіцца людзьмі Еўхарыстыі і Царквы, каб мы маглі, паводле словаў сьв. Паўла, быць “беззаганнымі” перад абліччам Госпада, так як Ён гэтага прагнуў ад пачатку (пар. Кал 1, 21; Эф 1, 4)” (SC, 96).

**а. Андрэй Буйніч**

## Бенядыкт XVI у Бразіліі

**Пяць дзён – з 9 па 13 траўня 2007 году – праходзіў візіт Папы Бенядыкта XVI у Бразілію. Гэта было першае заакіянскае падарожжа Бенядыкта XVI. Папа адзначыў, што бразільскі ды іншыя лацінаамерыканскія народы зьяўляюцца “вартаўнікамі хрысьціянскіх каштоўнасьцяў і надзеяй Каталіцкай Царквы”.**

Сярод публікацыяў, якія можна было сустрэць у СМІ на тэму папскага візіту, настойліва паўставала адно і тое ж пытаньне: чаму для першага падарожжа Папы на іншы кантынент была абрана менавіта Бразілія?

Па-першае, Бразілія – гэта адна з найвялікшых краінаў сьвету з насельніцтвам больш за 180 мільёнаў, з іх – 155 мільёнаў чалавек лічаць сябе каталікамі. Вось жа гэта ёсьць самая вялікая каталіцкая краіна. І адначасова тут існуе незвычайна вялікі разрыў, які датычыць узроўню жыцьця паміж беднымі і багатымі.

Другой важнай прычынай можна назваць разьвіцьцё ў гэтым рэгіёне гэтак званай тэалогіі вызваленьня. Яна была распрацаваная ў 1960-70-ыя гады лацінаамерыканскімі рыма-каталіцкімі сьвятарамі і зьявілася як рэакцыя на велізарную сацыяльна-эканамічную несправядлівасьць, якая панавала ў гэтым рэгіёне. Тэалогія вызваленьня – дактрына з радыкальным левым сацыяльна-палітычным ухілам. У свой час яна выклікала вялікія дыскусіі ў Каталіцкай Царкве, але таксама прымусіла яе заняцца грунтоўнай распрацоўкай сацыяльнай канцэпцыі. Кангрэгацыя навукі веры, якую ўзначальваў кардынал Ёзаф Рацынгер – цяперашні Папа Бенядыкт XVI,– выдала два дакументы, дзе падсумавала вынікі дыскусіі і асудзіла асноўныя палажэньні тэалогіі вызваленьня. Тым ня менш, яна ўсё яшчэ мае нямала прыхільнікаў.

Трэцяя прычына – гэта імклівае разьвіцьцё пратэстантызму і сектанства. Паводле розных ацэнак, ад 15% да 18% бразільцаў зьяўляюцца пасьлядоўнікамі розных пратэстанцкіх дэнамінацыяў і сектаў, а прапаведнікаў-некатолікаў у краіне, як сьцьвярджаюць некаторыя аналітыкі, у 3,7 разы больш, чым каталіцкіх сьвятароў. Адным з першых крокаў Папы па прыезьдзе ў Бразілію была кананізацыя манаха-францішканца Антоніа дэ Сант’Ана Гальвао (Antonio de Sant’Ana Galvao), пра якую Бенядыкт XVI аб’явіў падчас імшы, якую ён адслужыў на галоўным стадыёне Сан-Паўла. Гэткім чынам, Бразілія атрымала першага “тутэйшага” сьвятога. Малітвамі брата Антоніа Гальвао, які жыў у 1739-1822 гг., вось ужо больш за дзьвесьце гадоў бразільцы атрымліваюць ацаленьні ад розных хваробаў. Папа прывёў жыцьцё Гальвао як прыклад для вернікаў і супрацьпаставіў яго сучаснаму сьвету, “перанасычанаму геданізмам”. Да гэтага ён дадаў, што неабходна супрацьстаяць высьмейваньню такіх каштоўнасьцяў, як перадшлюбная чысьціня і таямніца шлюбу.

Наступная навука Папы была сфармулявана падчас Канферэнцыі епіскапату Лацінскай Амерыкі і краінаў Карыбскага басейну ў мястэчку Апарэсіда, што за 170 км ад Сан-Паўла.

Навука закранала вышэйадзначаныя праблемы, і яе можна акрэсьліць як наступныя папскія контрапункты: “не” марксізму, “не” аўтарытарным рэжымам, “не” абортам і наркотыкам, а таксама асьцярога ад манапалізацыі, пагроза якой зьявілася ў кантэксьце сусьветнай глабалізацыі. Папа адзначыў: “Як капіталізм, гэтак і марксізм паабяцалі знайсьці шлях да справядлівага ладу, сьцьвярджаючы, што індывідуальная мараль непатрэбная, бо ёй на зьмену прыйдзе мараль грамадзкая. Як паказалі факты, гэтыя ідэалагічныя абяцаньні былі фальшывымі”. “Марксісцкая сістэма, там дзе была пры ўладзе, пакінула пасьля сябе ня толькі сумную спадчыну ў выглядзе эканамічнага ўпадку і экалагічных бедаў, але і балеснае зруйнаваньне духу”. Тое ж самае мы бачым на Захадзе, дзе павялічваецца разрыў паміж беднымі й багатымі, і дзе пры дапамозе наркотыкаў, алкаголю ды падманлівых міражоў фальшывага шчасьця адбываецца дэградацыя годнасьці чалавечай асобы, якая выклікае непакой”,– дадаў Сьвяты Айцец.

На тэму глабалізацыі Бенядыкт XVI выказаўся наступным чынам: “У сучасным сьвеце феномен глабалізацыі зьяўляецца зьявай планетарнага характару, і хоць у некаторых асьпектах яна ідзе на дабро вялікай чалавечай сям’і і паказвае яе глыбокае імкненьне да еднасьці, тым ня менш, глабалізацыя пагражае рызыкай манапалізацыі і ўзьнясеньня ўзбагачэньня як найвышэйшай каштоўнасьці”.

Паводле электронных СМІ падрыхтаваў<br>а. Андрэй Буйніч

## Сьвята Маці Божай Фацімскай у Горадні

**У нядзелю, 13 траўня 2007 году, гарадзенскія грэка-католікі адзначалі сьвята сваёй парафіі, названай у гонар Маці Божай Фацімскай. Сёлета мінула 90 гадоў з часу Фацімскага пасланьня Маці Божай сьвету, якое яна перадала падчас сваіх зьяўленьняў праз трох маленькіх пастушкоў. Гэтая падзея надала адметнасьць сёлетнім парафіяльным урачыстасьцям. Варта адзначыць, што ў адным з пасланьняў Маці Божай гаварылася пра патрэбу навяртаньня людзей да Бога, асабліва тых, якія жывуць на Ўсходзе Еўропы.**

Маленькая капліца па вуліцы Гараднічанскай, дзе звычайна адбываюцца грэка-каталіцкія набажэнствы, не зьмясьціла б усіх парафіянаў і гасьцей сьвята (іх было каля ста), таму сваю капліцу грэка-каталікам гасьцінна прапанавалі айцы-рэдэмптарысты.

Урачыстую літургію ўзначаліў айцец Андрэй Абламейка з Менску – дэкан Цэнтральна-Заходняга дэканату Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Казаньне з нагоды сьвята сказаў айцец Аляксандр Шаўцоў, неапрасьвітар, які паходзіць з гарадзенскай парафіі. Сваім сьпевам урачыстасьць упрыгожыў беларускі хор “Бацькаўшчына”. Сярод гасьцей былі прадстаўнікі інтэлігенцыі, пратэстанцкіх Цэркваў, грэка-каталікі са Слоніма.



Добрым падарункам для гарадзенскай парафіі стала ікона Маці Божай Вастрабрамскай (на фота), а таксама амафор Уладыкі Ўладзіміра Тарасевіча (1921-1986) – беларускага грэка-каталіцкага біскупа з Чыкага, які родам з-пад Ліды. Яны былі перададзеныя з Беларускай місіі ў Лондане айцом Сяргеем Стасевічам. Пасьля набажэнства парафіяне і госьці сьвята разам накіраваліся на супольны пачастунак, падчас якога мелі магчымасьць лепей пазнаць адзін аднаго.

**а. Андрэй Крот**

## 15-годдзе рэгістрацыі

Сёлета грэка-каталіцкая парафія Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Менску адзначае 15-годдзе сваёй афіцыйнай рэгістрацыі.

З гэтае нагоды ў суботу, 28 красавіка 2007 году, грэка-католікі сабраліся на ўрачыстае набажэнства ў Чырвоным касьцёле. Боскую Літургію ўзначальваў дэкан Цэнтральна-Заходняга протапрасьвітарату а. Андрэй Абламейка. Разам з ім саслужылі сьвятары візантыйскага і лацінскага абрадаў: парах парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі а. Казімір Ляховіч, а. Пахом Кавалёў, два грэка-каталіцкія новапрасьвітары – а. Аляксандр Шаўцоў і а. Андрэй Буйніч, а таксама пробашч рыма-каталіцкай парафіі сьв. Сымона і Алены кс. Уладзіслаў Завальнюк, які ўвесь гэты час шчыра дапамагае менскім грэка-католікам, і а. Антон Ярошка, OFMcap. Дыяканскае служэньне меў навадыякан Яўген Усошын.

Сярод паважаных гасьцей прысутнічаў Яго Эксцэленцыя ксёндз біскуп Антон Дзям’янка, Архіпастыр Менска-Магілёўскай рыма-каталіцкай архідыяцэзіі, які зьвярнуўся да прысутных з пастырскім словам. Урачыстую Боскую Літургію сваім сьпевам аздабляў новастораны хор вернікаў, які складаецца з моладзі. Пасьля малітвы адбыўся канцэрт, які даваў спадар Марыян з Горадні. Ён заграў на шматлікіх беларускіх народных інструм

ентах, якія сам і вырабіў. Камерная атмасфера спрыяла добраму настрою і агульнаму зацікаўленьню і ажыўленьню.

**а. Андрэй Буйніч**

Сумесная радасьць размовы з Богам

***Сёлетняе сьвяткаваньне парафіяльнага сьвята рыма-каталіцкай парафіі ў***

***Маларыце, названай у гонар Дабравешчаньня Найсьвяцейшай Багародзіцы, напэўна, запомніцца надоўга, бо было яно адметнае некалькамі нештодзённымі падзеямі.***



26 сакавіка 2007 году, у дзень, калі рыма-каталікі адзначалі сьвята Дабравешчаньня, да агульнахрысьціянскай духоўнай радасьці вернікаў з нагоды атрыманьня Дзевай Марыяй весткі ад Бога пра тое, што яна хутка народзіць Збаўцу сьвету, дадалася і зямная радасьць: нарэшце ў гэтай маладой і яшчэ невялікай парафіі будзе свой сталы душпастыр. Для таго, каб больш урачыста адзначыць гэтыя падзеі, у Маларыту для дапамогі ў арганізацыі царкоўнага сьпеву запрасілі берасьцейскіх грэка-каталікаў. І гэта стала яшчэ адной адметнай падзеяй, пры чым ня толькі для мясцовых вернікаў. У рэлігійным жыцьці Беларусі яшчэ няшмат фактаў, калі грэка-каталікі дапамагаюць сваім братам лацінскага абраду – звычайна бывае наадварот.

Урачыстую імшу з нагоды сьвята Дабравешчаньня і цырымоніі ўвядзеньня на пасаду пробашча рыма-каталіцкай парафіі ў Маларыце кс.Эдуарда Мігая ўзначальваў дэкан кс. Тадэвуш Альшэўскі з Берасьця, які ўручыў маладому сьвятару ключы ад капліцы. Для сумеснай падзячнай малітвы ля алтара ў гэты дзень сабраліся яшчэ тры ксяндзы рыма-каталіцкага дэканату (кс. Павел Халяўкін – пробашч з парафіі ў Чарнаўчыцах Берасьцейскага р-ну, які апякуецца таксама парафіяй у Пелішчах Камянецкага р-ну, кс. Ян Васілеўскі, які апякуецца парафіямі ў Камянцы і Высокім Камянецкага р-ну, кс. Чэслаў Ёйка з Кобрыня), а таксама грэка-каталіцкі сьвятар а. Ігар Кандрацьеў – парах парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці, душпастыр грэка-каталікаў Берасьцейскай вобласьці. На сьвята прыехала таксама шмат гасьцей з суседніх парафіяў – моладзь, прадстаўнікі розных супольнасьцяў, манахіні кармяліткі і шарыткі з Берасьця, Кобрыня, Бярозы.

Прыемнай нечаканасьцю для маларыцкіх вернікаў і шматлікіх гасьцей стаў той факт, што песьні перад імшой і сьпевы лацінскай сьв. Імшы выконваў хор берасьцейскіх грэка-каталікаў з харызматычнай супольнасьці “Марана-ата”. (Трэба адзначыць, што музычная група супольнасьці “Маран-ата” незадоўга да гэтага ўжо выконвала музычнае служэньне для рыма-каталіцкай моладзі ў Берасьці падчас велікапоснага рэкалекцыйнага спатканьня). Усяго ж на сьвята да маларыцкіх рыма-каталікаў прыехала каля 20 грэка-каталікаў. Душпастыр берасьцейскіх грэка-каталікаў а. Ігар Кандрацьеў меў казаньне з нагоды сьвята Дабравешчаньня.

Вячэра любові была заключнай часткай урачыстасьцяў у Маларыце. Яна зьнішчыла ўсе нашыя абрадавыя адрозьненьні ў выяўленьні падзякі Богу і Яго Маці за радасьць размовы з

Богам і ў Богу паміж людзьмі.

**Вольга ГРАСЬКОВА**

*г.Берасьце*

***На фота:*** *26.03.2007. Хор берасьцейскіх грэка-каталікаў сьпявае падчас сьвята рыма-каталіцкай парафіі ў Маларыце.*

## «Я вельмі хацеў, каб Госпад жыў у маім сэрцы»

*Размова ў Рэдакцыі «Царквы» з новавысьвячаным сьвятаром БГКЦ айцом Андрэем БУЙНІЧАМ з Менску*



**– Айцец Андрэй! Трымаю ў руках Ваш памятны абразок з нагоды атрыманьня дару сьвятарства, на якім выява крыжа сьв. Еўфрасіньні Полацкай і словы з псальму воіна, абраныя Вамі ў якасьці дэвізу: “Блаславёны Госпад, цьвярдыня мая, што навучае рукі мае вайне і пальцы мае – змаганьню” (Пс 143, 1). Што значыць для Вас гэты сымбаль і гэтыя словы з псальму Давіда? Хто ёсьць той Галіаф, з якім Вам належыць весьці змаганьне?**

– Вядома, прыміцыйны абразок сапраўды зьяўляецца дэвізам для сьвятара, гэткім своеасаблівым “крэда”, з якім ён хочаісьці па жыцьці... Што да майго абразка, то здаецца, што тут усё зразумела: крыж сьвятой Еўфрасіньні кажа пра маю прыналежнасьць да ўсходняй традыцыі, да Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, а словы Ісусавай малітвы, напісаныя пад крыжам,– мая любімая малітва, якая таксама падкрэсьлівае маё імкненьне быць у лучнасьці з нашымі духоўнымі каранямі, крыніцай якіх ёсьць наша ўсходняя традыцыя. Словы псальму, напісаныя на адваротным баку абразка,– гэта мая малітва да Госпада, каб даў Ён мне сілаў пераадолець перадусім самога сябе. Таксама і апостал Павел піша пра барацьбу: “Наша барацьба ня супраць крыві й цела, але супраць начальства, супраць уладаў, супраць сусьветных валадароў цемры гэтага веку, супраць духаў злосьці паднябесных” (Эф 6, 12). Так што, як я думаю, Галіаф, з якім трэба весьці вайну,– гэта я сам, мой стары чалавек. Калі атрымаем перамогу над сабою, тады, паводле словаў сьв. Серафіма Сароўскага, вакол нас збавяцца тысячы. Да сказанага магу дадаць, што гэтымі словамі з псальму прашу ў Госпада мужнасьці і падтрымкі ў пераадоленьні жыцьцёвых цяжкасьцяў, якія ёсьць і будуць на маім шляху, бо Ён – крыніца маёй моцы.

**– Як у Вашым жыцьці зьявілася думка пра сьвятарства? Ці былі тыя, хто паўплываў на Ваш выбар?**

– Я сам доўга шукаў Бога і сваю Царкву і ведаю, з якімі цяжкасьцямі сустракаецца чалавек на гэтым шляху... Калі я яшчэ вучыўся ва ўнiверсітэце, то ў інтэрнаце сустракаў шмат маладых людзей, якія таксама, як і я, шукалі сэнсу, Праўды, Бога... Мы шмат блукалі то там, то тут, некаторыя сталіся ахвярамі сектаў. Дагэтуль узгадваю з болем майго знаёмага, што патрапіў у секту Муна... Таму, калі я сустрэў у сваім жыцьці Госпада нашага Ісуса Хрыста (ці лепш сказаць, калі Госпад мяне сустрэў) і прыйшоў у Каталіцкую Царкву, то мне захацелася стаць такім кампетэнтным чалавекам, які б мог дапамагчы людзям, асабліва моладзі, у іх духоўных пошуках. У той момант адпаведную кампетэнтнасьць я ўбачыў у сьвятарах, якія сустрэліся на маім шляху. Магчыма, усё гэта стала першым крокам да зьяўленьня ў мяне думкі пра сьвятарства.

Калі казаць пра канкрэтныя асобы, дзякуючы якім я лепш усьвядоміў свой выбар, то можна тут узгадаць айцоў Міхала Сапеля, Роберта Крывіцкага, Анатоля Ярошку, Пятра Смалінскага, Зьбігнева Грыгарцэвіча, Андрэя Абламейку, а асабліва айца архімандрыта Сяргея (Гаека). З некаторымі я меў дачыненьне толькі раз ці два, а з некаторымі жыцьцё ўжо моцна зьвязала. Ёсьць і іншыя, імёны якіх я ўжо ня памятаю, але якім я вельмі ўдзячны. Таксама я ўдзячны праваслаўнаму сьвятару айцу Міхаілу Бубену, які мяне ахрысьціў у сябе дома ў Навагрудку, калі мне было каля чатырох гадоў. Канешне, я ня памятаю яго, але малюся за яго і адчуваю з ім пэўную духоўную сувязь. Магчыма, яго малітвамі Госпад пачаў дзейнічаць у маім жыцьці.

**– Пайсьці вучыцца ў духоўную семінарыю – гэтая думка зьявілася найперш у Вас ці Вам нехта параіў задумацца пра такі жыцьцёвы выбар?**

Гэта было толькі маё рашэньне, у тым сэнсе, што ніхто мне не прапаноўваў і не падказваў зрабіць такі выбар. Канешне, калі я яго агучыў, то ў маім жаданьні пайсьці вучыцца ў семінарыю мяне падтрымалі і айцец Сяргей (Гаек), якога я ўжо на той момант ведаў, і айцец Андрэй Абламейка, які стаў душпастырам у маёй парафіі пасьля айца Яна Матусевіча.

**– Вядома, ня ўсе, хто пайшоў у семінарыю, сталі сьвятарамі... Ці не было спакусы кінуць?**

– Неразумна было б з майго боку рэальна не ацэньваць тую справу, за якую хачу ўзяцца. Канешне, было разуменьне, што я выбіраю нялёгкі шлях, але адначасова я не ўяўляў сабе іншай дарогі. Думаю, што няма ніводнай асобы, якая б не сумнявалася ў прынятым рашэньні. Вернасьць жа свайму выбару абумоўліваецца сапраўднымі матывацыямі асобы. У маім выпадку, я быў унутрана перакананы, што хачу стаць сьвятаром і што гэта жаданьне ад Госпада. Калі б было інакш, я не вытрымаў бы ў семінарыі нават месяц...

**– Каб быць сёньня вернікам Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, напэўна, трэба мець моцную веру і перакананьні, бо ўмовы для разьвіцьця нашай Царквы досыць сьціплыя: няма ў нас велічных храмаў з пышнымі іканастасамі, замест іх – сьціплыя капліцы ў прыстасаваных памяшканьнях, не хапае сьвятароў, ёсьць і іншыя цяжкасьці. Можна сказаць, жыцьцё як у першых хрысьціянаў. Чаму ж Вы абралі для сябе БГКЦ і служэньне менавіта ў ёй? Якім быў Ваш шлях?**

– Я пераканаўся ў пэўны момант, што поўня ласкі знаходзіцца ў Каталіцкай Царкве. А паколькі я быў ахрышчаны ў Праваслаўнай Царкве, то маёй роднай літургічна-багаслоўскай

Традыцыяй зьяўляецца ўсходняя Традыцыя. Як быць каталікам і адначасова застацца пры праваслаўнай спадчыне? Адзіны варыянт – Грэка-Каталіцкая Царква. На той момант, калі я зрабіў свой выбар, пэўна, я не разважаў такімі катэгорыямі... Але, ведаеце, у Рыма-Каталіцкай Царкве мне дакладна не хацелася быць – я "ня бачыў" сябе там. Тое, што адбывалася ў царкве, для мяне тады было больш "зразумелым", чым тое, што адбывалася ў касьцёле, а "Откровененные рассказы странника" бліжэй, чым "Трактат аб Найсьвятой Дзеве Марыі" Альфонса Лігуоры...

Дарога да Царквы, да БГКЦ была зусім ня лёгкая і не з фундаментальнага багаслоўя трэба тут пачынаць. Пачаць, напэўна, трэба з узгаданага ўжо мною хросту. Ад гэтай падзеі застаўся дзіцячы ўспамін: блікі сьвечак перад сьвятымі абразамі ў зацямнёным пакоі, цьмяныя постаці нешматлікіх прысутных... А таксама нейкая дзівосная атмасфера. Цяпер я разумею, што была атмасфера асабістай прысутнасьці Госпада.

Ёсьць яшчэ адзін дзіцячы ўспамін, які залічваю да гісторыі свайго духоўнага шляху. Нулявы ці першы клас школы. Настаўніца запытвае: "Хто з вас, дзеці, верыць у Бога?" Вядома, паднялі рукі дзеці баптыстаў. І я разам з імі. Чаму?.. Бабуля мая навучыла мяне, што Бог ёсьць. (Валадарства нябеснае ёй і мая ўдзячнасьць! Была яна да канца жыцьця шчырай праваслаўнай верніцай – спавядалася і прымала сьвятыя Тайны). Настаўніца ж мая кажа: "Бога няма. Людзі ў космас паляцелі – Бога там не знайшлі". А я падымаю руку зноў і кажу: "А Ён на Сонцы!" Настаўніца: "Ну, дзеці, гэта сьмешна. На Сонцы такая тэмпература, што ніводная жывая істота ня выжыве". Памятаю дакладна, хацеў адказаць ёй на гэта, што Бог "волшебный" і Яму ўсё роўна, якая на Сонцы тэмпература, але гутарка ўжо была пра іншае... Трэба сказаць, што пасьля гэтага выпадку, хоць я і не атрымаў адказу на свой апошні аргумент, але ў Бога верыць перастаў і сьмяяўся з маёй бабулі... Даруй, Бабуля!

Пытаньне пра Бога нечакана вярнулася да мяне зноў дзесьці ў 10-11 класе. Гэта быў той час, калі я, як і кожны падлетак, хацеў сябе рэалізаваць. Праяўлялася гэта ў тым, што я хацеў "быць самым лепшым". Я шмат чытаў, навучыўся граць на гітары і ўдзельнічаў у ВІА, гуляў у шахматы, добра вучыўся... Але адчуваў, што, нягледзячы на мае высілкі, "быць найлепшым" не атрымліваецца: знаходзяцца асобы, якія прачытваюць болей кніг, якія лепей граюць на гітары, якія абыгрываюць мяне ў шахматы, і ёсьць тыя, якія лепш за мяне вучацца. Прыкладна ў гэты ж час у маёй бабулі зьявіўся "Новы Запавет", які яна атрымала як гуманітарную дапамогу. Я прачытаў яго (быў гэта, здаецца, 1993 год) і пагадзіўся, прынамсі тэарэтычна, што Бог – нейкі Абсалют – напэўна, ёсьць. Тады я ня ведаў, якім чынам датычыць мяне Слова Божае, што я прачытаў. Так ці інакш, але я прыняў у сваю "сістэму" сьветапогляду, які тады пачынаў кшталтавацца, ідэю Бога, узяў Яго, што называецца, "да ўвагі". (Пасьміхаецца – Рэд.) Гэтая "ідэя" прывяла мяне да "веры" ў тое, што напэўна ёсьць-такі нешта ў гэтым жыцьці, дзе я здолею "быць першым". Цяпер я бачу, наколькі тады мае памкненьні і матывацыі былі эгаістычнымі, але тым ня менш, я перакананы, што Госпад выкарыстаў і гэта, каб падштурхнуць мяне праз мае амбіцыі да сапраўднай веры ў Яго.

Потым быў універсітэт – час самастойнага жыцьця і прыняцьця самастойных рашэньняў. У пэўным сэнсе мая новая сітуацыя выклікала ў маім жыцьці крызіс, які вымагаў новага погляду на рэчы. Напрыклад, я пераканаўся, што не зьяўляюся самадастатковым, што ёсьць таксама жыцьцёвыя абставіны, мацнейшыя за мяне, што я не зьяўляюся нейкай звышвыбітнай асобай, як мне здавалася ў школе, а звычайны студэнт сярэдніх здольнасьцяў і г.д. Усё гэта, а асабліва пэўныя бытавыя цяжкасьці ў інтэрнаце, прывяло да таго, што я, не знаходзячы крыніцы моцы ў самім сабе, каб пераадолець розныя жыцьцёвыя сітуацыі, пачаў

шукаць праз малітву іншай Крыніцы моцы. Здаецца, што гэтай першай малітвай і была малітва (па-царкоўнаславянску), якую я зьмясьціў на сваім прыміцыйным абразку: “Госпадзе Ісусе, Хрысьце, Сыне Божы, памілуй мяне, грэшнага”. Так я пачаў маліцца.

У той час, калі я быў на першым курсе ўнівэрсітэту, у Менску была рэлігійная хваля, на якой таксама падняліся і шматлікія секты. Іх адэпты неаднойчы падыходзілі да мяне на вуліцы і распачыналі гутаркі на рэлігійныя тэмы, часта аргументуючы цытатамі з Бібліі. І аднойчы я задаў сабе пытаньне: хто ж мае рацыю? Гэта для мяне стала вельмі важна. Тут Госпад зноў выкарыстаў мае амбіцыі – я пачаў чытаць Сьвятое Пісаньне, каб быць у стане дыскутаваць і перамагаць у дыскусіях з гэтымі асобамі. Так я пачаў свой уласны пошук.

На першым курсе ўнівэрсітэту кожную нядзелю я хадзіў у праваслаўную катэдру, стаяў усю службу з нейкай тугой у сэрцы, намагаючыся зразумець, што адбываецца. Адначасова хадзіў “у госьці” да іншых хрысьціянаў. Памятаю, што некалькі разоў прыходзіў да пяцідзясятнікаў. Напрыканцы іх богаслужэньня пастар звычайна заклікаў: “А цяпер тыя, хто хоча прыняць у сваё сэрца Госпада Ісуса Хрыста, няхай выйдуць наперад і мы будзем маліцца за іх”. І я кожны раз выходзіў. Тады я яшчэ ня ведаў, што Ісуса дастаткова прыняць аднойчы... Але я вельмі хацеў, каб Госпад жыў у маім сэрцы. Таксама хадзіў я ў “American Club”. Гэта была тусоўка, якую арганізоўвалі амерыканскія студэнты-пратэстанты з ЗША. Сустрэчы адбываліся ў Палацы шахмат і шашак і складаліся са сьпеваў пад гітару, невялікага навучаньня ды сьведчаньня аб Ісусе Хрысьце. Прыходзілі ў асноўным студэнты. Большасьць з іх, напэўна, шукала ня Бога, але мажлівасьці папрактыкавацца ў ангельскай мове, а таксама з цікавасьці да сапраўдных амерыканцаў.

У лютым 1997 году, у Дзень закаханых, са мною здарыўся выпадак – я зламаў сабе левую руку. Гэта быў перелом ня толькі рукі, але й перелом у маім жыцьці. Незадоўга да гэтага я пачаў хадзіць на малітоўныя спатканьні каталіцкай харызматычнай Супольнасьці сьв. Яна Хрысьціцеля. Гэткім чынам я першы раз блізка пазнаёміўся з Каталіцкай Царквой і каталіцкай моладдзю. Я навязаў таксама кантакты і з тагачасным колам супрацоўнікаў рэдакцыі рыма-каталіцкага выданьня “Ave Maria”, дзе працавала ды проста тусавалася шмат сябраў супольнасьці і дзе я сам пачаў час ад часу дапамагаць у працы (за гэты, карысны для мяне досьвед, мушу скласьці падзяку спадарыні Аліне Новікавай).

У супольнасьці я прабыў каля году, а калі вырашыў выйсьці з яе, то мяне ўжо, здавалася, нічога ня зьвязвала з Каталіцкай Царквой. (Уласна ў гэты час у Супольнасьці сьв. Яна Хрысьціцеля пачаліся непаразуменьні з царкоўным кіраўніцтвам і праз нейкі час пэўная група на чале з лідарам наогул адыйшла ад Каталіцкай Царквы. – Рэд.) Я пачаў падумваць, ці не пачаць мне зноў шукаць “сваю Царкву”. Але ў той час я ўжо ведаў пра такія важныя крытэрыі праўдзівай Царквы Хрыстовай, як апостальская пераемнасьць, сьв. Тайны, і таму ішлося пра тое, каб знайсьці сваё месца ў Каталіцкай або ў Праваслаўнай Царкве. Лацінскі абрад быў для мяне зусім чужы і далёкі, але і ў Праваслаўнай Царкве я ўсё ж не адчуваў сябе “на сваім месцы”. Тады адзін хлопец з супрацоўнікаў рэдакцыі часопісу “Ave Maria”, з якім я пачаў тады сябраваць і які быў грэка-католікам, падказаў мне, што я магу застацца праваслаўным у Каталіцкай Царкве. Гэта мяне заінтрыгавала, а праз нейкі час я ўжо стаў прыходзіць у грэка-каталіцкую парафію сьв. Язэпа, дзе душпастырам у той час быў а. Ян Матусевіч.

**– Як бы Вы адказалі на пытаньне: “Навошта ў Беларусі адраджаецца Грэка-Каталіцкая Царква? У чым яе адметнасьць?”**

– Гэта нялёгкае пытаньне, вельмі нялёгкае. Не бяруся адказаць на гэтае пытаньне ў поўнай

меры. Аднак магу прапанаваць тут некалькі тэзісаў, якія, на маю думку, павінны легчы ў аснову разважаньняў пра тоеснасьць нашай Царквы і пра тое, дзеля чаго яна існуе. Першы тэзіс: нашая Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква – гэта Ўсходняя Царква. Усходняя Царква – гэта ня толькі абрад, але таксама ўсходняя Традыцыя. Кожнаму з нас, хто лічыць сябе грэка-католікам, належыць ня толькі на словах у гэтым пераканацца. Другі тэзіс – гэта нашая лучнасьць з Апосталам Пятром нашых часоў, з Апостальскай Сталіцай. Папа, як хтосьці трапна сказаў, зьяўляецца для нас сьцягам на полі змаганьня. Ваяр, калі бачыць свой сьцяг, ведае, куды яму ісьці. Трэці тэзіс – гэта беларуская мова ў нашай Царкве. Ісус Хрыстос збаўляе нас у канкрэтнай нашай сітуацыі. А наша сітуацыя – гэта Беларусь, з нашай мовай і культурай. Каб нам збавіцца, нам трэба вярнуцца да саміх сябе, у тым ліку да сваёй мовы. Думаю, праз тое, што нашая Беларуская Грэка- Каталіцкая Царква спалучае гэтыя тры элементы, яна і зьяўляецца ўнікальнай.

**– Вы ўжо ўзгадвалі, што перад тым як пайсьці ў семінарыю, Вы вучыліся ва ўнівэрсітэце. Дзе вучыліся і якую адукацыю атрымалі?**

– Так, з 1995 па 2000 год у Менску я навучаўся на механіка-матэматычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсітэту па сьпецыяльнасьці “Матэматычная электроніка”. Скончыў універсітэт у 2000 годзе і атрымаў дыплом матэматыка-сістэматэхніка.

**– Цікава, а як такая адукацыя стасуецца з Вашым выбарам як сьвятара, ці дапамагае на абраным шляху сьвятарства?**

– Перадусім, я матэматык па адукацыі, але не матэматык па пакліканьні. Што такое матэматыка я пачаў разумець на другім ці трэцім курсе, таксама як зразумеў, што нягледзячы на тое, што яна мне вельмі падабаецца, гэта не маё месца ў жыцьці. Тым ня менш, матэматыка навучыла мяне пасьлядоўнасьці. Менавіта таму я вырашыў даваршыць сваю вучобу на мехмаце, а ня кінуць яе.

Матэматыка – гэта класная навука, і я зусім не шкадую, што пяць гадоў яе вывучаў. Перакананы, што і ў гэтым быў провід Госпада, бо матэматыка вучыла мяне думаць: думаць абстрактна, думаць па-рознаму. А таксама яна вучыла мяне абгрунтоўваць ці даказваць сваё меркаваньне, вучыла слухаць іншых і разумець іх, апісваць зьявы і аналізаваць іх. Матэматыка вучыла мяне дыялогу, а таксама адказнасьці за выказаныя мною сьцьверджаньні. Думаю, пагодзіцеся са мною, што гэтыя здольнасьці патрэбныя ў кожнай галіне чалавечай дзейнасьці.

**– Ці дасягненьні сучаснай навукі і імкненьне чалавецтва да новых ведаў ня ёсьць сёньня перашкодай для веры ў Бога?**

– Не, лічу, што гэта не зьяўляецца перашкодай. Навука займаецца дасьледаваньнем створанага Богам сьвету. Вера ж мае дачыненьне да Бога, які знаходзіцца па-за гэтым створаным сьветам. Гэткім чынам вера і навука знаходзяцца ў розных плоскасьцях, адна другой не супярэчаць.

**– Як ставіліся да веры, да Бога Вашы ўнівэрсітэцкія выкладчыкі?**

– Скажу так: чым больш выкладчык быў дасьведчаны ў сваёй галіне ведаў, тым больш сур’ёзна ён ставіўся да Бога. І гэта цалкам зразумела. Сапраўдны сьпецыяліст разумее сваю абмежаванасьць у пазнаньні. Фізікі з часоў Эйнштэйна няшмат новага адкрылі. Рызыкну нават сказаць, што сучасная фізіка знаходзіцца ў тупіку, бо ня можа патлумачыць тыя

зьявы, якія адкрыты, напрыклад, у квантавай фізіцы.

Ва ўніверсітэце мы мелі факультатыўны курс “Біблія як культурны помнік літаратуры”. Але падача матэрыялу выкладчыкам была аднабокая і вельмі тэндэнцыйная. Гэта быў па сутнасьці курс ваяўнічага атэізму, праз які выкладчык насьміхаўся з Бібліі і веры ў Бога.

На маю думку, існуе такая тэндэнцыя, што людзі, якія займаюцца дакладнымі навукамі, больш схільныя сёньня да веры ў Бога, чым гуманітарыі.

**– На Вашую думку, чаго прагне сёньня моладзь? Ці шукае моладзь Бога?**

– Цяжка мне сказаць пра цяперашнюю моладзь, бо ў сучасным сьвеце розьніца ўжо нават у пару гадоў стварае цалкам новае пакаленьне з іншымі зацікаўленьнямі і новай субкультурай… Але, мяркую, што прадстаўнік кожнага пакаленьня стаіць перад выбарам, якой дарогай пайсьці. У мае студэнцкія часы я назіраў, як такія самыя студэнты, як і я, абіралі кожны сваю дарогу: былі такія, што не выходзілі з чытальнае залы, а былі і тыя, што ніколі ў яе не заходзілі, хтосьці цікавіўся тэатрам і операй, а іншыя цікавіліся выключна моцнымі напоямі. Як сьпяваецца ў адной бардаўскай песьні: “Каждый выбирает по себе: женщину, религию, дорогу. Дьяволу служить или пророку – каждый выбирает по себе”.

Ці шукае моладзь Бога? Думаю, што ў той самай ступені, як і іншыя людзі. Залежыць гэта таксама ад асобы. Мне пашанцавала, бо ў свае студэнцкія гады я сустрэў шмат такіх асобаў, якім не было абыякава тое, куды яны ідуць. У інтэрнаце я і яшчэ некалькі маіх сяброў сябравалі з дзяўчатамі-філолагамі, якія жылі ў адным пакоі, дык усе яны зьвязалі сваё жыцьцё з верай, з Богам. Цікава, што адна з іх стала праваслаўнай манахіняй, а другая – рыма-каталіцкай. З апошняй, сястрой Ігнацiяй, я нядаўна сустракаўся. Разам з прыемнасьцю ўзгадвалі студэнцкія гады… Хлопцы ў манастыр не пайшлі, але ведаю, што яны ідуць у гэтым жыцьці разам з Госпадам нашым Ісусам Хрыстом. Адзін з маіх лепшых сяброў – Алесь Аўдзяюк, з якім мы разам закончылі механіка-матэматычны факультэт і нават жылі напрацягу году ў адным пакоі ў інтэрнаце, пайшоў у семінарыю і цяпер вучыцца ў Нямеччыне ў Айхштэце. Ён ужо грэка-каталіцкі іпадыякан. Няхай Госпад і далей благаслаўляе яго на шляху да сьвятарства.

**– Сярод моладзі сёньня надзвычай папулярныя творы Джона Рона Роўэла Толкіна, асабліва яго “Хобіт”, “Уладар пярсьцёнкаў”. Ведаю, што і Вы далёка неабыякавы да творчасьці Толкіна. Больш за тое, нават сваю магістарскую працу ў семінарыі Вы прысьвяцілі дасьледаваньню яго творчасьці…**

– Так, сапраўды, я напісаў і абараніў магістарскую працу “Указаньне маральных каштоўнасьцяў ва “Уладары пярсьцёнкаў” Дж.Р.Р.Толкіна”.

**– Як і чаму нарадзілася думка абраць такую арыгінальную для выхаванца духоўнай семінарыі тэму навуковай працы? Наогул, што Вас так зацікавіла ў творах Толкіна?**

– “Уладар пярсьцёнкаў” – гэта тая кніга, якая мяне моцна зацікавіла яшчэ ў студэнцкія гады, а па вялікім рахунку – яшчэ раней. Мой сябра быў талкіністам. З ім мы чыталі і абмяркоўвалі Толкіна. Твор Джона Рона Роўэла Толкіна “Уладар пярсьцёнкаў”, напісаны ў 1950-ыя гады, для многіх людзей усё яшчэ асацыюецца хутчэй з лёгкай забавай, з нечым несур’ёзным, чым з указаньнем “нейкіх там” маральных каштоўнасьцяў. Нават сама пастаноўка праблемы ў тэме маёй працы – “Указаньне маральных каштоўнасьцяў ва

“Ўладары пярсьцёнкаў” – можа падацца неўласьцівай, бо ці ж ня ёсьць марнаваньнем часу напісаньне працы, што мае на мэце ўказаньне маральных каштоўнасьцяў у “Чырвоным Каптурку”? Ці ёсьць гэта справа, годная ўвагі тэалогіі?

Сваёй працай я спрабую якраз паказаць, што творчасьць Толкіна можа быць прадметам вывучэньня тэалогіі. А яго “Уладар пярсьцёнкаў” – гэта ня проста адна з кніг гатунку “фэнтэзі”, якіх цяпер шмат у любым шапіку, але вельмі глыбокі твор. Толкін пры дапамозе міталагічнай мовы, якую сам стварыў, абвяшчае Евангельле. Так, у яго вы не сустрэнеце ані слова “Бог”, ані “Хрыстос”, але затое сустрэнецеся з гераізмам. Гераізм – гэта дабрадзейнасьць, на якую накладаецца шмат іншых дабрадзейнасьцяў. І ён у Толкіна па-сапраўднаму хрысьціянскі, бо, як напісаў адзін з дасьледчыкаў Толкіна, “гераізм ва “Уладары пярсьцёнкаў” зьяўляецца гераізмам, даступным ня толькі “вялікім і моцным”, але і “малым і пакорным”.

**– Як паставіліся да Вашага выбару тэмы навуковай працы выкладчыкі духоўнай семінарыі, калегі-семінарысты? Канешне, тэма маёй працы, заўсёды выклікала зьдзіўленьне. Таксама не бракавала і жартаў з боку маіх калегаў па семінарыі, якія любілі запытвацца, наколькі далёка я зайшоў у навуцы “хобіталогіі”. Што да выкладчыкаў, то, напэўна, яны ставіліся падобна – мне здавалася, што ніхто ўсур’ёз не ўспрымаў маю тэму. (Пасьміхаецца – Рэд.). Што да мяне, то пры выбары тэмы я проста хацеў, каб мне самому было цікава займацца маёй магістарскай працай. Вось і атрымалася нешта на мяжы маральнай тэалогіі і літаратуры…**

**– Ці цяжка было знайсьці навуковага кіраўніка для такой працы?**

– Справа ў тым, што я спачатку шукаў навуковага кіраўніка, а потым ужо выбіраў тэму. Я маю досьвед універсітэту і ведаю, што ня важна, на якую тэму ты пішаш, але вельмі важна, у каго ты будзеш яе пісаць. Для мяне галоўным крытэрам было тое, каб можна было размаўляць, абмяркоўваць тэму з маім кіраўніком, атрымліваць ад яго добрыя кансультацыі і парады, і, да таго ж, каб гэты чалавек быў адкрыты на штосьці новае і ўвогуле на студэнта… Айцец доктар Славамір Мазур, прэфект семінарыі ў Драгічыне, цалкам адпавядаў гэтым маім патрабаваньням, і я ўдзячны яму за кіраўніцтва падчас напісаньня працы.

**– Чуў, што пасьля перапісу насельніцтва ў Расеі, дзе кожны самастойна мог вызначыць сваю нацыянальнасьць, “выявілася” шмат хобітаў… Што Вы думаеце пра гэтую зьяву?**

– Думаю, што трэба перадусім даведацца матывацыі тых людзей, якія сябе так акрэсьлілі. У той час, калі Толкін раптам стаў папулярным у ЗША, на сьценах дамоў можна было сустрэць такія надпісы, як “Гэндальфа ў прэзідэнты” і інш. (Гэндальф – чараўнік, адзін з галоўных герояў “Уладара пярсьцёнкаў” – Рэд.). Мяркую, што гэта рэакцыя людзей, якія думаюць і шукаюць, рэакцыя на стан грамадзтва, у пэўным сэнсе пратэст на мяшчанскую абыякавасьць, спроба справакаваць людзей да мысьленьня і сказаць, што яны заўсёды маюць свой выбар. Думаю, падобны намер мела прынамсі частка з тых “хобітаў”. Магчыма, яны з тых нешматлікіх людзей, якія ведаюць, хто яны ёсьць насамрэч…

**– Героем многіх дзяцей і падлеткаў сёньня стаў Гары Потэр – хлопчык, прыгодам якога ангельская пісьменьніца Роўлінг прысьвяціла ўжо шэсьць кніг. Нягледзячы на тое, што яе творы выклікаюць вялікую цікавасьць у дзяцей, з боку некаторых хрысьціянаў – праваслаўных, а таксама каталікоў ды пратэстантаў – можна пачуць**

**рэзкую крытыку гэтых твораў і нават заявы пра шкоднасьць іх для дзяцей, бо там шмат магіі і чараўніцтва. Даводзілася чуць, што ад асобных сьвятароў былі нават прапановы запытваць у дзяцей на споведзі, ці не чыталі яны творы пра Гары Потэра... Што думаеце пра гэты твор і яго такія катэгарычныя ацэнкі?**

– Падчас маёй вучобы ў духоўнай семінарыі была такая сітуацыя ў аўдыторыі, калі адзін сьвятар пачаў ганіць “Гары”. Я запытаў яго: “Ці Вы чыталі кнігу?” На гэта ён адказаў, што не чытаў. Майму зьдзіўленьню не было межаў: выявілася, што свае высновы ён зрабіў на падставе прачытаных адмоўных артыкулаў.

Я прачытаў другую, трэцюю, чацьвёртую і пятую кнігі пра Гары Потэра. Таксама як і розныя крытычныя артыкулы пра кнігі пісьменьніцы Роўлінг. Нават Папы Рымскія не засталіся абыякавымі да гэтага твору: Ян Павел II быў ня супраць, а Бенядыкт XVI – ня за. Я больш схіляюся ў ацэнках да Яна Паўла II. Кніга мне падабаецца. У ёй мовай казкі праўдзіва распавядаецца пра жыцьцё, а таксама сьмерць: у ёй не паміраюць “панарошку”, у ёй паміраюць па-сапраўднаму. Калі ж казаць пра шкоднасьць... Магу адказаць коратка, перафразоўваючы Ўладзіміра Высоцкага: калі вы лічыце, што гэта шкодная кніга – значыць, вы проста не чыталі шкодных кнігаў.

**– Раскажыце трошкі пра сябе, пра Вашу сям’ю і Вашыя карані.**

– Сам я паходжу з Століна Берасьцейскай вобласьці, са звычайнай сям’і. Бацька – Іван Паўлавіч, быў супрацоўнікам столінскай саніпедэмстанцыі, цяпер на пенсіі, маці – Галіна Аляксандраўна, урач-педыятр, на пенсіі, але яшчэ працуе. Сам я жанаты – маю жонку Алену. У нас ёсьць дачка Сафія, якой 8 месяцаў. Алена па адукацыі інжынер-сістэматэхнік. Чакала мяне з семінарыі два з паловай гады.

**– Напрыканцы дазвольце маленькае бліц-апытаньне. Чым Вы любіце займацца ў вольны час?**

– Вольны час я праводжу з сям’ёй. Люблю чытаць кнігі, глядзець анімэ, гуляць у інтэлектуальныя гульні – шахматы, го-вэйцы (праўда, апошні час гуляць няма з кім).

**– Які Ваш любімы від спорту?**

– Рэгбі. Іграў аднойчы ў семінарыі, а палюбіў на ўсё жыцьцё. (Сьмяецца – Рэд.).

**– Якую музыку Вы любіце слухаць?**

– Беларускі і расейкі рок. Бардаў.

**– Хто Вашыя ўлюбёныя пісьменьнікі? Пра стаўленьне да Толкіна можаце не распавядаць, мы ўжо ведаем...**

– Любімы пісьменьнік той, кнігу якога ў дадзены момант чытаю. Люблю вяртацца да ўлюбёных англамоўных аўтараў: Артура Конан Дойля, Клайва Льюіса, Марка Твэна...

**– Што Вы цяпер чытаеце і якія з апошніх прачытаных кніг Вы б асабліва параілі прачытаць чытачам “Царквы”?**

– Варта прачытаць Томаса Мэртана “Разважаньні на самоце” (“Одинокие думы”), сам чытаю цяпер “Сіла і слава” Грэма Грына. Яе таксама раю прачытаць.

**– Якая падзея ў хрысьціянскім жыцьці сьвету ў апошні час падалася Вам найбольш цікавай і вартай увагі?**

– Зьяўленьне адгартацыі “Sacramentum Caritatis” Бенядыкта XVI.

**– Якія словы з Сьвятога Пісаньня прымусілі Вас нядаўна задумацца або па-іншаму глянуць на іх значэньне?**

– “Назірайце ж за тым, як вы слухаеце; бо хто мае, таму дадзена будзе, а хто ня мае, у таго адымецца й тое, што ён думае мець” (Лк 8, 18).

**– Дзякуй за размову!**

*Гутарыў* ***Ігар БАРАНОЎСКІ***

**На фота:** Андрэй Буйніч.
Нарадзіўся 19.04.1978 у г.Столін Берасьцейскай вобласьці.
Жанаты, мае жонку Алену і дачку Сафію.
У 1995-2000 гг. навучаўся ў Менску ў БДУ
на механіка-матэматычным факультэце па сьпецыяльнасьці “Матэматычная электроніка”.
Атрымаў дыплом матэматыка-сістэматэхніка. З 2000 г. – семінарыст БГКЦ.
Быў адказным за падрыхтоўку і выпуск старонак грэка-каталіцкіх семінарыстаў “Разам”.
У 2006 г. скончыў Вышэйшую духоўную рыма-каталіцкую семінарыю ў Драгічыне (Польшча). Магістар багаслоўя.
Дыяканскія сьвячаньні атрымаў 12 чэрвеня 2006 г. з рук біскупа Сафрона Мудрага.
17 сьнежня 2006 г. у Івана-Франкоўску (Украіна) гэты ж Уладыка ўдзяліў яму і сьв. Тайну Сьвятарства.

## Пачуць і адгукнуцца на сваё праўдзівае імя

**9 траўня 2007 году ў Берасьці, у касьцёле ў гонар Маці Божай (на Кіеўцы), адбылася другая рэгіянальная сустрэча-зьезд жанчын – удзельніц руху “Маці ў малітве”. Тэма, якой была прысьвечана гэтая сустрэча,– “Малітва як дар і дзеяньне Бога”. Разважаньне для сваіх сясьцёр лацінскага абраду падрыхтавала жонка параха грэка-каталіцкай парафіі ў Берасьці спн. Вольга Граськова.**

Гэты рух паўстаў у Англіі ў канцы XX стагоддзя і мае сваёй мэтай сумесную заступніцкую малітву маці за сваіх і чужых дзяцей. Жанчыны, якія зразумелі і прынялі ў сваё сэрца малітву хананэянкі “Зьмілуйся нада мною, Госпадзе, Сыне Давідаў, бо дачку маю цяжка мучыць дэман” (Мц 15, 22), рашуча й адважна ўсталі на шлях уласнага ачышчэньня дзеля выратаваньня сваіх дзяцей ва ўсім сьвеце.

Дзякуючы малітвам кс. Эдуарда Мігая, плябана рыма-каталіцкай парафіі ў Маларыце, яго пастырскай апецы і кіраўніцтву, рух “Маці ў малітве” разьвіваецца й набірае моц і на Берасьцейшчыне. Гэта была ўжо другая рэгіянальная сустрэча ўдзельніц руху. Каля 50 верніц з Маларыты, Бярозы, Жабінкі й двух рыма-каталіцкіх парафіяў Берасьця згуртавана й салідарна прадэманстравалі ў Дзень Перамогі сваю асабістую перамогу над эгаізмам і ўладай зямной мітусьні. Адклаўшы “ўсе жыцьцёвыя клопаты”, яны на працягу 7 гадзінаў з прагнасьцю і асалодай смакавалі магчымасьць яднаньня з Богам і Яго Словам, дзяліліся сваімі адкрыцьцямі і праблемамі, маліліся й проста размаўлялі адна з адной.

Сустрэча пачалася з прывітальнага слова да ўдзельніц кс. Эдуарда Мігая і песьні “Радасны, хвалебны дзень!” Затым са сьвежым і як заўсёды арыгінальным словам – мідрашом* пра стварэньне Богам жанчыны з сэрца першароднага Адама – выступіў а. Ігар (Кандрацьеў), грэка-каталіцкі сьвятар з парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя. На сустрэчу ён прыйшоў разам з сваёй жонкай, якая затым зрабіла выклады на тэму “Малітва як дар і дзеяньне Бога”. Асноўнай тэмай гэтых выкладаў была думка пра тое, што галоўная роля і ініцыятыва ў малітве належыць не чалавеку, а Богу: чалавек толькі садзейнічае Яму, як той, што загарае пад сонцам, можа садзейнічаць свайму загару тым, што распранаецца і паварочваецца, падстаўляючы промням гэтага сонца розныя месцы свайго цела. Такім садзейнічаньнем чалавека ў Божай справе (малітве) зьяўляюцца яго пакора і паслухмянасьць волі Бога – якасьці, найболей уласьцівыя жаночай палове чалавецтва (гэта думка дадала ўдзельніцам нямала аптымізму!). Была выказана таксама цікавая думка пра імя, якое Адам надаў сваёй жонцы. У старажытных габрэяў кожнае імя заўсёды дакладна характарызавала канкрэтнага чалавека. Імя Ева па-габрэйску азначае крыніца жыцьця. Цікава, што гучаньне гэтага імя па-габрэйску сугучна з біблійным выразам “Вось я – слуга”. Вядома, што падобныя словы прамовіла Марыя з Назарэту, калі да яе зьявіўся анёл ад Бога: “Вось я – слуга Гасподняя” (Лк 1, 8). Вось жа, можа, толькі жанчына на імя Марыя з Назарэту, якая паверыла і даверылася Богу, урэшце пачула й адгукнулася на тое сваё праўдзівае імя-прызначэньне, якое ёй хацеў надаць Госпад? А Адам, які надаваў імя сваёй жонцы ўжо пасьля таго, як зграшыў і калі Бог ужо ня ўдзельнічаў у гэтым, ня здолеў дакладна адчуць і не зразумеў праўдзівую сутнасьць і прызначэньне жанчыны, якое задумаў для яе Бог… Можа, гэтая думка дазволіць сучасным Евам задумацца над сваім прызначэньнем, што сёньня яны мусяць быць ня толькі прадаўжальніцамі роду для сучасных Адамаў, але, найперш, як і Марыя з Назарэту,– слугамі Гасподнімі…

Пасьля нядоўгага экскурсу ў тэорыю асабістай і заступніцкай малітвы на аснове біблійных прыкладаў наступіў перапынак на гарбату з бутэрбродамі, салодкім “шармэлем” і далікатна-павучальнымі досьціпамі кс.Эдуарда. Затым жанчыны паглыбіліся ў практыку медытацыі са Сьвятым Пісаньнем і ў малітву ў групах, пасьля чаго падзяліліся з усімі сваімі разважаньнямі і адкрыцьцямі на агульнай заключнай канферэнцыі. Скончылася сустрэча літаніяй да Маці Божай і сьвятой Імшой. На працягу ўсяго дня ўдзельніцы мелі магчымасьць споведзі, якую прымалі кс.Тадэвуш Альшэўскі, плябан касьцёлу на Кіеўцы, кс. Уладзімір Буклярэвіч з Бярозы і кс. Эдуард Мігай.

Хай блаславіць Бог усякае шчырае імкненьне да чыстага Неба, парыў кожнага сэрца да Яго Самога!

* Мідраш – прыпавесьць, павучальны аповед на біблійную тэму, часта пра падзеі, якія не адлюстраваны ў кананічным тэксьце Сьвятога Пісаньня.

**Вольга ГРАСЬКОВА** г.Берасьце

## “Я была вельмі пакрыўджаная на Госпада…”

**Аднойчы сьпякотным летнім днём маленькі хлопчык забег у нашую царкву ў Берасьці. Як і ўсе дзеці ў такім узросьце, быў мурзаты, і нам нават падалося, што ён згубіўся ды патрабуе нашай увагі. Мы запыталіся ў яго, ці ведае, дзе яго дом…**



І ён нам распавёў, што ў яго ёсьць мама, якая шмат працуе, і бабуля – яна таксама на працы, што жыве ён у шматпавярховым доме па нашай вуліцы, што любіць гуляць і яшчэ шмат чаго. Наогул Кірыла (так звалі хлопчыка) аказаўся вельмі гаманкім і шустрым, а ў царкве яму яўна спадабалася, і ён па-свойску пачаў яе “дасьледаваць”. Мы пакармілі хлопчыка, пагулялі з ім, і ўсё ж вырашылі самыя адвесьці яго дадому.

Напэўна, гэтае рашэньне было ад Бога. Чаму? Ды таму, што ад гэтага моманту, калі мы прыйшлі і пазнаёміліся з сям’ёй Кірылы, пачалася гісторыя навяртаньня да Госпада яго маці.

Яе завуць Наташа. З таго часу мінула ўжо амаль шэсьць гадоў… Яна шмат чаго перагледзела ў сваім жыцьці, хоць далося ёй гэта вельмі няпроста. Знаёмыя кажуць, што моцна зьмянілася. Так, бо яна стала рэгулярна маліцца і хадзіць у царкву. Сьпявае ў хоры, піша вершы.

Ня так даўно ў нашай царкве мы сьвяткавалі дзесяць гадоў з дня народзінаў Кірылы. На Літургію, каб памаліцца за яго, прышлі ўсе ягоныя родныя, і для многіх з іх гэта, напэўна, таксама былі першыя, яшчэ няпэўныя крокі да Бога. І зноў праз Кірылу…

А вось што кажа пра сваё мінулае жыцьцё сама Натальля Амельянюк:

“Так склалася, што вось ужо 9 гадоў я выхоўваю сваё дзіця адна. Доўгі час я была вельмі пакрыўджаная на Госпада за тое, што Ён, так бы мовіць, мучыўся ўсяго 3 дні, а потым уваскрос, узьнёсься і сядзіць праваруч Айца ў вечнай асалодзе, а я тут, на зямлі, мучаюся дзень за днём, і няма канца маім цярпеньням і пакутам… Калі я пачала штодзённа чытаць Біблію разам з грэка-каталіцкай супольнасьцю “Маран-ата”, было цяжка і не заўсёды хацелася гэта рабіць, але я прыняла рашэньне і працягвала “бульдозерыць” Сьвятое Пісаньне ў пошуках надзённых адказаў. Я не задавала Госпаду пытаньне ў лоб “За што?” або “Чаму ў мяне ня так, як у Цябе?”, але ў глыбіні сэрца яно было, і Госпад яго пачуў і адказаў мне Сам.

“Праўду, праўду кажу вам: хто верыць у Мяне, дзеі, якія раблю Я, і ён зробіць, і болей за іх зробіць; бо Я да Айца Майго іду”,– прачытала я неяк у Евангельлі ад Яна (Ян 14, 12). Я зразумела, пра што гэта: не пра тое, што я пакліканая зьдзейсьніць у гэтым сьвеце больш справаў, чым Ён,– аздараўленьняў, уваскрасеньняў, вызваленьняў… Больш пакут і цярпеньняў належыць мне пераадолець, больш зьдзейсьніць перамог над уласным целам,

каб уваскрэснуць. Тое, што Ён зьдзейсьніў на крыжы аднойчы, я буду рабіць зноў і зноў, шмат разоў, і гэтага ня ўнікнеш аніяк, бо Ён пайшоў да Айца Свайго і вось цяпер надышла мая чарга.

Я раблю гэта кожны дзень, таму што Ён так сказаў, і толькі Яго сіла, якую Ён спасылае мне звыш, падтрымлівае мяне. Слава Богу, што Ён узышоў і сядзіць праваруч Айца!”

***На фота:*** *Натальля Амельянюк з сваім сынам Кірылам.*

Рух “Маці ў малітве” паўстаў у 1995 годзе. Яго заснавальніцы – дзьве жанчыны-каталічкі з Велікабрытаніі, Вераніка й Сандра. Яны адчулі асаблівую патрэбу маліцца за сваіх дзяцей і ўнукаў, бо ніякім іншым чынам не маглі дапамагчы сваім родным, якія згубілі сябе ў жыцьці. Неўзабаве да заснавальніц руху далучыліся яшчэ некалькі жанчын, пачалі ўзьнікаць новыя групы, і, на працягу некалькіх гадоў, рух “Маці ў малітве” распаўсюдзіўся па ўсім сьвеце.

Праз мацярынскую малітву адбываліся шматлікія цуды. Вырашаліся праблемы, якія падаваліся невырашальнымі: дзеці навярталіся да веры, знаходзілі працу й жыльлё, вярталіся дадому пасьля працяглай адсутнасьці, ацаляліся ад цяжкіх хваробаў, у тым ліку ад наркаманіі.

Узначальвае гэты рух сёньня спн. Вераніка Ўільямс. На эмблеме гэтага міжнароднага руху запісаны такія словы: “Аб’яднаўшыся ў малітве, маці ўратуюць сьвет”.

Асноўнае пакліканьне руху “Маці ў малітве” заснавальніцы бачаць у малітве і паслухмянасьці волі Божай. Акрамя магчымасьці аддаць Богу свае ўласныя праблемы, удзельніцы руху вельмі цэняць малітву ў супольнасьці з іншымі маці, а таксама ўзаемную прыязнасьць і суперажываньне, якое ўзьнікае ў такіх супольнасьцях. Да малітвы запрашаюцца ўсе жынчыны: маці і бязьдзетныя, практыкуючыя хрысьціянкі (любога веравызнаньня) і тыя, што ўпершыню зьвярнуліся да Бога ад безнадзейнасьці.

Адным з адказаў на малітвы маці можна лічыць узьнікненьне руху айцоў “Айцы ў малітве” і дзіцячых малітоўных груп “Дзеці веры”.

У Беларусі групы “Маці ў малітве” існуюць пры рыма-каталіцкіх парафіях у Менску і ў Магілёўскай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Бялыніцкай.

Мне давялося пабываць на спатканьні суполкі руху “Маці ў малітве” ў Магілёве. Ва ўтульнай сучаснай кватэры ў цэнтры Магілёва сабраліся жанчыны рознага веку. Кватэра спн. Людмілы – можна сказаць, сталае месца спатканьняў жанчынаў з гэтай суполкі, і зьбіраюцца яны ўжо больш за год. Сёстры (так яны называюць адна адну) якраз сабраліся за гарбатай і ахвотна пачынаюць размову са мной.

## Малітва вучыць нас адказнасьці

Вечар з суполкай руху “Маці ў малітве”



**– Як у вас зьявілася ідэя арганізаваць малітоўную групу “Маці ў малітве”?**

**Алена:** Ідэя арганізаваць малітоўную групу “Маці ў малітве”, можна сказаць, была дадзеная нам “звыш”. Зімой 2006 году ў Магілёве апынуліся дзьве прадстаўніцы гэтага руху – з Калугі й Менску. Яны захацелі сустрэцца з жанчынамі нашай парафіі, і мы з цікавасьцю іх выслухалі.

**Натальля:** Я адразу зразумела, што гэта для мяне, бо маліцца сама я была ня ў стане, мне неабходная была падтрымка. Я была няўпэўненая ў моцы маёй малітвы.

**Алена:** Я маю траіх дзяцей, але спачатку мне падалося, што такая форма малітвы не для мяне, яна больш падыходзіць для маці, якія маюць шмат сямейных праблемаў, цяжкасьцяў з дзецьмі і праз такія малітоўныя спатканьні спрабуюць іх вырашыць.

У той час я асабіста адчувала патрэбу супольнай малітвы, але ня думала, што рух “Маці ў малітве” можа праблему вырашыць, бо гэта вельмі сьпецыфічная форма. У нас нават зьявілася думка выкарыстаць некаторыя ідэі “Маці ў малітве” для стварэньня малітоўнай групы пры нашай грэка-каталіцкай парафіі.

**Вераніка:** Існавалі пэўныя парафіяльныя праблемы, і мы шукалі шляхоў іх вырашэньня. Мы зразумелі, што парафія мусіць быць супольнасьцю, і таму шукалі формы, як нам жыць разам далей. Атрымалася, што гэтая форма нам была дадзеная своечасова. Бо праблемы трэба было вырашаць. Ня толькі з дзецьмі, ня толькі прыватныя, але і такія агульныя праблемы.

**– Чаму вы вырашылі стварыць малітоўную групу толькі для жанчын?**

**Людміла Б.:** Аднойчы пасьля сьв. Літургіі мы прапанавалі ўсім ахвотным раз на тыдзень зьбірацца для малітвы. Мы запрашалі ўсіх парафіянаў, але пачалі маліцца тыя, хто быў гатовы: толькі некалькі жанчын. Мы прапанавалі мужчынам маліцца разам, але ніхто не згадзіўся. Так атрымалася.

**– Каб далучыцца да вашай групы жанчына абавязкова павінна быць маці?**

**Вераніка:** У нас палова сясьцёр зьяўляецца маці, а палова – не, але гэта зусім не перашкаджае нам адчуваць еднасьць. Назва руху “Маці ў малітве” ўзьнікла праз жанчын, якія ў свой час адчулі патрэбу малітвы за сваіх дзяцей, асабліва дарослых. Можа, яна больш ім адпавядала. Але сэнс нашай супольнай малітвы ў тым, каб навучыцца аддаваць свае праблемы Богу. Тыя праблемы, якія цябе больш за ўсё хвалююць. Магчыма, некаторых жанчын больш за ўсё хвалююць праблемы з дзецьмі, на якіх яны не могуць паўплываць. Але

ў кожнага ёсьць такія праблемы, вырашыць якія ён хацеў бы, але выйсьця ня бачыць. Выйсце – гэта цалкам даверыцца Богу і аддаць Яму тыя праблемы. Людміла П.: Ня толькі ўласныя праблемы, але і праблемы родных, блізкіх. Ёсьць мацярынства ня толькі фізічнае, але й духовае. Яно аб’ядноўвае жанчын, нават калі тыя ня маюць дзяцей. Група нашая адкрытая, да яе можа далучыцца кожны.

**– Якія праблемы ўласна вы аддаеце Богу?**

**Вераніка:** Я давяраю Богу адносіны з бацькамі, хваробу хрэсьніка, хваробу калегі па працы, сваіх сяброў, з якімі хачу мець больш разуменьня, малюся, каб мы былі больш блізкія адзін аднаму. Кожны моліцца за вырашэньне сваіх асабістых праблем. Таксама молімся за нашу парафію, аддаем Богу тых людзей, якія пэўны час былі ў нашымі парафіянамі, а потым адышлі, але мы хочам бачыць іх у царкве. Аддаем Богу праблемы нашай Царквы, молімся за яе сьвятароў. Таксама молімся за парафіяльную катэхізацыю, за тэалагічныя курсы, якія праводзяцца ў Івацэвічах.

**– Ці адчуваеце вы духоўны плён вашых малітваў?**

**Людміла П.:** Часам лічыцца, калі чалавек ходзіць на нядзельную Боскую Літургію, посьціць, спавядаецца – гэтага дастаткова. Гэтая група дапамагла мне па-іншаму адчуць Літургію, і ўсё хрысьціянскае жыцьцё пачало набываць новы сэнс.

Малітоўная група вучыць мяне адказнасьці ня толькі за сваё жыцьцё, але й за праблемы ўсёй Царквы. Была патрэба нешта зрабіць для Царквы, а ня толькі прыходзіць на нядзельнае богаслужэньне і маліцца дома. Канечне ж, усьведамляць гэтую адказнасьць мы пачалі паступова. Мы адчулі, што мы – Царква, і нас датычыць усё, што адбываецца ў гэтай Царкве. Праз малітву я магу рабіць нешта для парафіі, для ўсёй Царквы, і не адна, а разам з сёстрамі.

**Алена:** Яшчэ мы навучыліся называць праблемы. Вось, казалі “молімся за нашую Царкву”, а што адбываецца ў нашай Царкве, якія праблемы? Спачатку такая малітва гучала вельмі абстрактна. Потым пачалі задаваць сабе пытаньне: за што мы молімся, чаго просім ад Бога? Якім духам мы жывем? Мусілі азірнуцца на ўласнае жыцьцё, ацаніць, сказаць, чаго нам не хапае, у чым мы памыляемся.

**Натальля:** Напачатку цяжка было аддаць нешта Богу. Мы самі прапаноўвалі Богу рашэньні: зрабі так і так, прымі рашэньне, якое падабаецца мне. Але паступова прыходзіць разуменьне: можа, усё ж такі варта прыслухацца да Яго. Бог вырашаў нашыя праблемы, але часам не выкарыстоўваў ніводзін з прапанаваных намі варыянтаў, потым мы зьдзіўляліся, што праблема вырашаная, але Бог не скарыстаўся ніводнаю з нашых прапаноў.

**Кацярына:** Калі гаварыць пра вынікі нашай малітвы, мне здаецца, што мы вучымся прымаць адзін аднаго, а таксама прымаць Бога такім, якім Ён ёсьць. Нам адкрываецца Яго воля, і яна нам падабаецца. Хочацца ведаць Яго волю і жыць паводле яе.

Калі мы на малітве альбо нават проста размаўляем – адчуваем прысутнасьць Бога, Ён уступае з намі ў дыялог. Падчас сустрэчы мы чытаем Евангельле – проста адкрываем на любым месцы. Падчас гэтага я бачу, як Госпад прамаўляе да нас, адказвае на нашыя пытаньні. Пэўна, Ён бачыць, што мы сапраўды хочам ведаць Ягоную волю.

**Алена:** Калі мы пачалі маліцца за іншых, у першую чаргу зьмяніліся нашыя адносіны да

гэтых людзей. Гэта, можна сказаць, быў першы плён нашай малітвы. Мы пачалі ставіцца да іх больш далікатна, уважліва. Шляхі Госпада дзіўныя. Раней я ведала гэта тэарэтычна, а цяпер спазнала практычна. Пабачыла сапраўдную радасьць у Госпадзе.

Таксама сустрэчы дапамаглі ўбачыць праблемы ў сабе. Напрыклад, молімся за еднасьць парафіі, і паступова Бог нам адкрывае, што ў кожным з нас перашкаджае гэтай еднасьці. Бачым, што кожны з нас зрабіў недастаткова для яе.

**– А ці ёсьць нейкія бачныя вынікі вашай малітвы?**

**Вераніка:** Плёнам нашай малітвы сталася парафіяльная катэхізацыя. Мы маліліся, казалі, што хочам пазнаць Бога такім, якім Ён ёсьць. Адначасова некаторыя з нас удзельнічалі ў катэхізацыйных курсах у Івацэвічах, Алена вучылася на тэалагічным факультэце ў Маскве, расказвала нешта. Яна расказвала гэта і раней, але, калі мы пачалі маліцца, пачалі і прыслухоўвацца, стала цікава: што новага можна даведацца, чаго нам не хапае. І ў размовах нашых усё часьцей мы пачалі прызнавацца, што чагосьці нам не хапае. Напрыклад, калі мы адкрывалі Сьвятое Пісаньне, то пачалі разумець, што не заўсёды можам над ім паразважаць, бо не разумеем некаторых рэчаў, ня ведаем кантэксту.

Паступова пачалася размова, што мы маем патрэбу ў спатканьнях, якія дапамаглі б нам пазнаць Бога, мы хочам катэхізацыі. Такое жаданьне выказалі й мужчыны. У выніку гэтая катэхізацыя сталася больш шырокай, парафіяльнай. Былі нават канкрэтныя аздараўленьні. Мы маліліся за маю калегу па працы, пра якую лекары казалі, што яна ня выжыве. Яна зараз знаходзіцца ў цяжкім стане, але ніхто нават не чакаў, што яна будзе жыць. Увогуле цяжка сказаць, праз мае малітвы ці не адбываецца тое ці іншае аздараўленьне, нешта вырашаецца. Ня хочацца прысвойваць гэта сабе…

**– А як выглядае звычайная малітоўная сустрэча ў вашай суполцы “Маці ў малітве”?**

**Натальля:** Нашая сустрэча пачынаецца з гарбаты, бо мы ў большасьці прыходзім пасьля працы, галодныя. Была небясьпека, што ўсё гэта ператворыцца ў звычайныя сяброўскія пасядзелкі, такі жаночы клуб – выпіць гарбаткі, пагаварыць пра жыцьцё. Мы пачалі з гэтым змагацца, пэўны час адмянілі гарбату, альбо пілі яе пасьля сустрэчы. Потым мы навучыліся сумяшчаць: цяпер сустрэча з Хрыстом адбываецца ў нас і падчас малітвы, і падчас гарбаты таксама.

**Людміла П.:** Зьбіраемся вакол стала. На ім белы абрус, абавязкова крыж, Евангельле і кошычак. У яго мы складаем кружкі, на якіх напісаныя імёны тых, за каго мы молімся. Мы агучваем тую праблему, за якую молімся. Молімся спачатку пра еднасьць, прабачэньне, прыняцьце адзін аднаго. Бяз гэтага немагчыма малітоўная сустрэча. Тады зьвяртаемся да Духа Сьвятога. Потым падзяка і праслаўленьне – альбо словамі, альбо сьпевам. Затым чытаем Сьвятое Пісаньне, Евангельле. Гэта вельмі радасны і адначасова вельмі адказны момант. Кожнае слова мае вялікае значэньне, успрымаецца вельмі адказна. Таксама дзелімся тым, што Госпад адкрыў нам праз Евангельле. Часамі нам ёсьць што сказаць, часамі – не.

**Людміла Б.:** Пасьля бывае малітва – мы молімся за людзей, праблемы, кладзем запіскі ў кошык. Кожны можа гаварыць свае просьбы ўслых. Гэта важны момант, бо мы адкрываемся адзін перад адным. Ты гаворыш пра свае цяжкасьці, свае просьбы, а ўсе ў гэты момант моляцца за цябе. Таму ёсьць такое правіла, што ўся інфармацыя не выходзіць па-за межы

групы. І ёсьць у нас яшчэ адно правіла – падчас малітоўнай сустрэчы стараемся не даваць адна адной парадаў. Парады, рашэньні дае Бог. Галоўнае – пачуць Яго.

**Алена:** Напрыканцы мы молімся малітвамі, якія склалі заснавальніцы руху “Маці ў малітве”. Часамі адчуваем патрэбу абнаўляць гэтыя малітоўныя формы, тады абіраем толькі некаторыя малітвы альбо молімся сваімі словамі.

**– Як вы лічыце, ці патрэбныя такія групы ў іншых парафіях?**

**Натальля:** Мне здаецца, што ў кожнай парафіі неабходная супольная малітва, акрамя літургічнай. Не абавязкова, каб гэта былі групы “Маці ў малітве”, можна назваць гэта парафіяльнымі малітоўнымі сустрэчамі – момант, калі ты молішся з іншым. Калі ты молішся адкрыта, вучышся бачыць свае праблемы, гаварыць пра іх, аддаваць іх Богу, бо гэта пачатак адносінаў з Богам, каб давяраць Яму нешта цяжкае, скрытае, і прасіць у Яго рашэньня.
Людміла Б.: Калі б у нас была магчымасьць маліцца ўсёй парафіяй альбо калі б было некалькі груп, якія таксама, як і мы, маглі б зьбірацца і дзяліцца ўласным вопытам – гэта было б цудоўна. Яшчэ я мару пра тое, каб арганізаваць дзіцячую малітоўную групу “Дзеці веры”. Бачу, як дзеці растуць і пачынаюць адыходзіць ад Царквы. Мяне гэта вельмі непакоіць.

**– Вялікі дзякуй за размову.**

Гутарыў **Андрэй ГОМАН**

***На фота:***
*Магілёўскія ўдзельніцы руху “Маці ў малітве”*
*ў час сяброўскай размовы за гарбатай.*




“Вялікая цішыня” і “Востраў” –
сустрэча Захаду з Усходам
***Два фільмы пра нябачную рэчаіснасьць***

Пасьля фільму “Цярпеньні Хрыстовы” Мэла Гібсана ў апошні час зьявіліся яшчэ дзьве хрысьціянскія кінастужкі, якія выклікалі надзвычайную цікавасьць у гледача: фільм расейскага рэжысёра Паўла Лунгіна “Востраў”, прэм’ерны паказ якога прайшоў напрыканцы 2006 году, і нямецка-швайцарска-французскі фільм “Вялікая цішыня” Філіпа Гронінга. Паводле словаў рэжысёра фільма “Востраў” Паўла Лунгіна, “аўдыторыя гэтага фільму – гэта пакутлівыя людзі, тыя, што не згубілі надзеі знайсьці сэнс жыцьця”. “Мне

здаецца, што самазадаволеныя хрысьціяне таксама ня прымуць гэты фільм, як і самазадаволеныя атэісты,– гаворыць кінарэжысёр.– Яшчэ Бярдзяеў сказаў, што ў наш час яму падаецца, што атэіст, які перажывае і пакутуе, бліжэй да Бога, чым самазадаволены хрысьціянін”.

Фільм “Вялікая цішыня” нямецкага рэжысёра Ф.Гронінга Еўрапейская кінаакадэмія адзначыла прэміяй Arte і палічыла яго найлепшым еўрапейскім дакументальным фільмам 2006 году. Пасьля прагляду фільму адзін з журналістаў-крытыкаў з “New York Times” выказаўся пра яго так: “Я не называю гэтую карціну “найлепшым фільмам” году толькі таму, што яна настолькі адрозьніваецца ад усіх астатніх, што я ня ўпэўнены, ці мае “Вялікая цішыня” прамыя адносіны да кіно”. Іншы амерыканскі журналіст, сутыкнуўшыся з нечуваным наплывам гледачоў у кінатэатры на гэты фільм, слушна назваў гэты феномен “абнадзейлівай прыкметаю духоўнага голаду, настальгіяй па невыпадковым жыцьці, тугой па адухоўленым быце”.

Прапануем два водгукі нашых чытачоў на гэтыя кінастужкі, якія сталі адметнай зьявай у грамадзкім і рэлігійным жыцьці, якія прымушаюць сучаснага чалавека спыніцца і задумацца над сэнсам яго існаваньня.

Іншы чалавек і іншая рэчаіснасьць у фільме “Востраў”



*Ня будучы вялікім аматарам і знаўцам кінематографу, зрэдку ўсё ж такі заходжу ў кінатэатр. Напэўна, праходзячы каля афішаў і пабачыўшы назву “Востраў”, я падумаў бы, што гэта нейкі прыгодніцкі фільм і наўрад ці пайшоў бы на яго. Сталася, аднак, так, што параіў мне схадзіць на яго сябра. Так я патрапіў на яго прэм’ерны паказ у адным з сталічных кінатэатраў.*

Другая Сусьветная вайна… У моры ў паўночных шыротах на савецкую баржу ўначы натрапіў нямецкі вайсковы карабель. Увесь экіпаж баржы – гэта шкіпер і качагар. Каб выжыць, аднаму з іх прапануецца ўчыніць здраду і забойства свайго таварыша. Бачыш дзьве асобы: капітан – мужны і шляхетны, і не тое, каб кепскі, а хутчэй проста шэры і слабавольны звычайны савецкі пралетарый. І вось, перад абліччам сьмерці, качагар пагаджаецца страляць у свайго таварыша. Зразумела, што ў нас выклікае павагу першы (шкіпер Ціхан) – гэта тып годнага чалавека, мужчыны. А другі – яго хіба можна пашкадаваць, тут няма месца павазе.

Пасьля такога эмацыйна напружанага пачатку дзеі фільма пераносяцца на некалькі дзесяцігоддзяў наперад. На суворых прасторах поўначы Расеі, на востраве, у савецкія часы існуе маленькі манастыр. Няма тут ані асабліва шанаваных сьвятыняў, ані архітэктурных шэдэўраў. Але людзі з мацерыка цягнуцца сюды. Бо тут жыве старац, які бачыць глыбіню

сэрца іншага чалавека, які можа дапамагчы людзям. І яны ідуць да яго па параду, з просьбай, каб ён сваімі малітвамі ацаліў іх ад хваробаў. Гэты манах – а. Анатоль – просты і нават дзівакаваты. Спаміж манастырскай брацііі многія не разумеюць яго, некаторыя лічаць сьвятым, а нехта нават зайздросьціць і ненавідзіць. Старац ня ўпісваецца ў прынятыя ў манастыры нормы паводзінаў. У манастыры ён выконвае самую цяжкую і брудную працу – топіць кацёл і дзеля гэтага штодня возіць у тачцы вугаль з затанулай ля марскога берага яшчэ ў вайну баржы. Хутка пазнаем у гэтым дзіўным манаху таго самага качагара з баржы... І хоць увесь час ён жыве ў пакаяннай малітве, дапамагае людзям словам, а дзякуючы яго малітвам адбываюцца цудоўныя аздараўленьні, усё ж ня можа ён забыць пра ўчыненую ім шмат гадоў таму здраду і, як ён лічыць, забойства таварыша. Няма ў ягонай душы таго, што называецца мірам, супакоем. Людзі ж, якія так настойліва шукаюць дапамогі старца, ня бачаць цярпеньняў і пакаянных малітваў таго, каго лічаць сьвятым. Гэта бачыць толькі Бог...

У фільме ёсьць некалькі эпізодаў, дзе моцна адчуваеш раздвоенасьць, непасьлядоўнасьць, слабасьць, няшчырасьць чалавека перад Богам і самім сабой. Напрыклад, у адным з іх жанчына прывозіць да манаха а. Анатоля свайго хлопчыка, які ня можа хадзіць без дапамогі мыліцаў. Хворае дзіця, якому не змаглі дапамагчы лекары, ацаляецца па малітвах айца Анатоля. Манах настойліва раіць жанчыне застацца ў манастыры ўсяго на адзін дзень дзеля таго, каб прычасьціць хлопчыка на Літургіі і падзякаваць Богу за цуд ацаленьня, але яна... сьпяшаецца на працу прыбіральніцы! Чалавек перад абліччам вялікіх дароў бывае такі няўдзячны і дробязны...

Фільм гэты можна назваць іканічным. Ікона мае мінімум дэталяў, умоўныя колеры, якія маюць сваю сымболіку; няма ценяў і аб’ёмнасьці. Падобна і тут. Просты сюжэт, абмежаваная прастора для падзеяў (амаль усе яны адбываюцца на маленькім востраве), спрошчана паказаныя рысы асобаў герояў, якія часам выглядаюць нават гратэскава. Мяркую, што рэжысёр кінастужкі Павел Лунгін зрабіў гэта сьвядома, бо “Востраў” пакліканы данесьці пэўнае пасланьне да гледача. На маю думку, рэжысёру гэта ўдалося. Удалося сказаць гледачу, што побач з гэтым сьветам (“міром сім”) з яго каштоўнасьцямі: пагоняй за посьпехам, дабрабытам, сілай, якія людзям здаюцца такімі “рэальнымі”, існуе таксама іншая рэчаіснасьць. Гэтая рэчаіснасьць духоўная, і яна насамрэч больш магутная. Доказ яе дзейснасьці й моцы – галоўны герой фільму манах айцец Анатоль, які з пасрэднасьці, шэрасьці, стаўся сапраўдным Чалавекам. Напрыканцы фільму яны такі сустракаюцца – шляхетнасьць чалавечая (той, хто ў вайну быў здраджаны, і каго спрабаваў застрэліць малады качагар) і прыгажосьць ад Бога (новы чалавек у асобе манаха а. Анатоля). Капітан, у якога страляў малады качагар, насамрэч не загінуў. І вось ён, які выжыў у вайну і дабіўся ў гэтым жыцьці многага (мае высокі адміральскі чын), едзе ў маленькі манастыр на Поўначы да ўбогага старца ў спадзяваньні вылечыць сваю псіхічна хворую (а на справе – апантаную) дачку. Яго чалавечая моц выяўляецца поўнай бязраднасьцю перад абліччам сямейнай бяды. Забойца і ахвяра пазналі адзін аднаго. Адбылося прабачэньне, словы якога столькі гадоў прагнула пачуць сэрца айца Анатоля. Цяпер ён можа пакінуць гэты сьвет...



І толькі адной рэчы, на мой погляд, тут не хапае – Уваскрасеньня. Так, ёсьць у гэтай стужцы і гумар, і радасьць… Але нашае, як мы кажам, “зямное” жыцьцё ў асобе сьвятога чалавека айца Анатоля, паказана як “юдоль плачевная” (даліна плачу). Суворы фон паўночнай прыроды не пакідае гледача на працягу ўсяго фільму. Уваскрасеньне ёсьць, але не цяпер, ня ў гэтым жыцьці, а толькі дзесьці “там”, за гробам. “Уся рэлігія… – па іншы бок труны”,– казаў расейскі рэлігійны мысьляр В.Розанаў, які лічыў гэта асноўнай праблемай духоўнасьці ўсходніх славянаў. Аднак на фоне таго, што ідзе цяпер у кінапракаце, гэткі папрок фільму можа выглядаць, магчыма, як перабольшаная патрабавальнасьць.

Можна парадавацца за нашых суседзяў у Расеі, што ў новыя, постсавецкія часы ў іх зьяўляюцца ня толькі бандыцка-мянтоўскія і офісна-менэджэраўскія серыялы, але і такія добрыя фільмы, як “Востраў”. І ўсё ж шкада, што не хапае ў фільме Ўваскрасеньня.

***Андрэй ЛАТЫШ*** *г.Менск*

## “Вялікая цішыня” – захапляльны дакумент пра манахаў картузаў



**Час ад часу, седзячы ў фатэлі кінатэатру, атрымоўваем магчымасьць сутыкнуцца з чымсьці вялікім. Так было ў выпадку шэдэўраў, зробленых майстрамі кіно, такімі, як Антаніёні, Бэргман, Таркоўскі. “Вялікая цішыня” (“Le Grand Silence”, “Into Great Silence”) – гэта, аднак, ня толькі вялікі фільм. Гэта запісаная на стужцы медытацыя, у якой мы самі можам прыняць удзел.**

Амаль трохгадзінны кінадакумент пра жыцьцё манахаў-маўчальнікаў, напэўна, не такі відовішчны, як тыя фільмы пра манахаў з манастыра Шаолінь. Да таго ж фільм амаль нямы, і ня толькі таму, што манахі падпарадкоўваюцца сувораму правілу маўчаньня. А яшчэ ў створаных вобразах рэжысёр абыходзіцца без якой-кольвек музычнай аправы ці каментару. Ці здольны сучасны чалавек, звыклы да таго, што яго пастаянна забаўляюць, махаючы яму

перад носам усялякімі атракцыёнамі і прыцягваючы яго ўвагу на кожным кроку, глядзець штосьці такое і не ашалець ад нуды? Напэўна так, калі ў Нямеччыне фільм ужо паглядзелі 150 тысячаў чалавек, а ў Францыі яшчэ 120 тысячаў. Адным словам, гэты досыць патрабавальны вобраз аказаўся гітом! На чым грунтуецца яго моц?




Бачым манаха ў кельлі, які моліцца ў цішыні. Хвіліны мінаюць, ён стаіць на каленях, заглыблены ў малітву. Шамацяць карткі часаслова. Скрыпяць дошкі кленчніка. Пылінкі танчаць у сьвятле, якое падае праз акно кельлі. Цішыня. Засяроджанасьць. Спакой. Бачым братоў-манахаў падчас іх штодзённых, часам незразумелых для нас заняткаў, дзеяньняў і рытуалаў. Камера падоўгу застывае ў статычным становішчы. Ня чуем нічога, акрамя натуральных адгалоскаў манастыра: супольны сьпеў падчас багаслужбы, рэдкія нагоды для размоваў паміж братамі ў часе штотыднёвых шпацыраў, паседжаньні капітула. Па-за тым цішыня, у якой кожны шэлест становіцца шумам, цішыня, у якой уласныя думкі пачынаюць гучаць трывожна голасна. “Лічым, што няма нічога больш працаёмкага ў досьведзе манастырскага жыцьця, чым спакой, цішыня і самотнасьць”,– напісаў некалькі стагоддзяў таму Гюга, пяты абат Вялікай Картузіі (La Grande Chartreuse). “Вялікая цішыня” дае нам прысмак гэтага досьведу.

Рэжысёр Філіп Гронінг стварыў, несумненна, нязвыклы фільм. Нязвыклым ёсьць у ім тое, што магчымасьці здымаць гэты фільм у Гранд Шартрэз (першай і галоўнай супольнасьці картузаў, заснаванай у 1084 годзе ў Альпах, каля Грэноблю), рэжысёр дабіваўся з 1984 году. Калі пасьля шматгадовага абмену лістамі з абатам атрымаў нарэшце дазвол, то на паўгады зачыніўся ў манастыры, каб дзяліць з манахамі іх жыцьцё – маліўся, працаваў, еў і спаў у рытме, у якім манахі дзейнічаюць вякамі.



Картузы – гэта закон з адным з самых строгіх уставаў у Каталіцкай Царкве, у якім спалучаюць усходнюю традыцыю пустэльнікаў (ерамітаў) з заходняй традыцыяй манаства бенядыктынскага тыпу. Манахаў абавязвае малітва, праца, вучоба – усё ў самотнасьці і маўчаньні. Дзень манаха-картуза праходзіць у дзеяньнях, якія паўтараюцца так, як бы дзень ня меў ні пачатку, ні заканчэньня, бо пакліканьне манахаў, як раіў сьвяты Бруна з Кёльну, заснавальнік закону картузаў, – “няспынна чуваць у Божай прысутнасьці”.

Заданьне, якое паставіў перад сабой рэжысёр, не палягала, аднак, на апавяданьні гісторыі ордэну ці апісаньні манастырскага жыцьця – гэты фільм павінен быў паказаць унутраны сэнс і сутнасьць гэтага жыцьця: пошук Бога. Таямніца, да якой ён спрабаваў дакрануцца такім чынам, гаворыць аб моцы фільму і абумоўлівае тое, што гледачы паддаюцца выпраменьваньню Абсалюта, якое зыходзіць на іх з экрану. Больш за тое, Гронінг уводзіць нас у недасягальныя на штодзень абшары манаскай экзістэнцыі, у якой праходзіць іх прысьвечанае Богу жыцьцё, ён стварыў настрой сапраўды сузіральны і даў нам амаль тры гадзіны часу і цішы, каб мы ёй падпарадкаваліся. Тры гадзіны сьвятога супакою вартыя значна болей, чым квіток у кіно.

Кацярына НАВАКОЎСКАЯ г.Менск

***На фота:*** *Кадры з фільму “Востраў” і “Вялікая цішыня”.*

Браты Іван і Антон Луцкевічы – знакавыя асобы ў беларускім нацыянальным руху. Для нашай Грэка-Каталіцкай Царквы асабліва варта адзначыць, што менавіта браты Луцкевічы спрычыніліся да ідэі адраджэньня Уніі ў Беларусі на пачатку XX стагоддзя. Кантактам Антона Луцкевіча з мітрапалітам Галіцкім Андрэем Шаптыцкім прысьвечана другая частка рэферату (які друкуем з невялікімі скарачэньнямі) гісторыка Анатоля Сідарэвіча. (Пачатак матэрыялу гл. у “Царква”, № 1 (52), 2007, с. 18-19).

Разам з баптысцкім прапаведнікам з Берасьця Лукашом Дзекуць-Малеем Антон Луцкевіч спрычыніўся да зьяўленьня першага перакладу Новага Запавету і Псальмаў на беларускую мову. Гэты пераклад і сёньня карыстаецца папулярнасьцю ў многіх вернікаў розных канфесіяў, але, на жаль, беларускія хрысьціяне ніяк не адзначылі летась 75-годдзе гэтай важнай падзеі.

Гэты артыкул А.Сідарэвіча мы прысьвячаем памяці Антона Луцкевіча, які загінуў у ГУЛАГу, у 65-ыя ўгодкі яго сьмерці, а таксама памяці яго брата Івана.

Анатоль СІДАРЭВІЧ

Унія, браты Луцкевічы і мітрапаліт Шаптыцкі<br>(Рэферат, прачытаны на паседжаньні клубу каталіцкае інтэлігенцыі імя сьв.Кірылы Тураўскага ў Менску 16 лютага 2006 г.)

Калі ж працягваць падтэму “Іван Луцкевіч і мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі”, дык з публікацыяў А.Луцкевіча вынікае, што ягоны брат езьдзіў у Львоў ня раз. І менавіта “ў часе даволі частых паездак Ів. Луцкевіча дасьпеў і быў распрацаваны вялікі плян”, які закранаў ня толькі справу Уніі. Выкананьне гэтага плану прынесла б і “вялікія эканамічныя карысьці беларускаму сялянству незалежна ад рэалізацыі ідэі аб узнаўленьні Уніі”. У тым плане, удакладняе А.Луцкевіч, паядналіся “ідэя парцэляцыі вялікіх зямельных абшараў на Беларусі між сялянамі – праз адумысна створанае акцыйнае таварыства, фінансаванае перадусім мітрапалітам Шаптыцкім, і ідэя перасяленьня на парцэляваную зямлю некаторае лічбы ўкраінскіх сялян-уніятаў, якія зьяўляліся бы прапагандыстамі ідэі Уніі”. Але план гэты ня

быў зьдзейсьнены таму, што супроць яго інтрыгавалі абшарнікі, і “Сталыпін адмовіўся зацьвярдзіць праектаванае парцэляцыйнае таварыства...”.

Такая інфармацыя зьмешчана ў артыкуле “Мітрапаліт Шаптыцкі і беларускі рух”.

Далей А. Луцкевіч піша: “Справа працы на Беларусі так захапіла мітрапаліта, што ў 1908 г. архіўладыка адважыўся на дужа небясьпечны крок: адпусьціўшы дзеля непазнакі бараду за час лячэньня ў санаторыі Лямана, мітрапаліт Шаптыцкі інкогніта – з пашпартам на імя д-ра Алясьніцкага – едзе ў Вільню, хаця ведае, што ў прыпадку раскрыцьця яго інкогніта яму пагражаюць вялікія прыкрасьці. У Вільні высокі госьць блізка знаёміцца зь невялікай на той час жменькай беларускіх працаўнікоў, будзячы ў усіх шчырую любоў да сваей асобы як высокакультурнага і глыбока ідэйнага чалавека. Згэтуль разам з Ів. Луцкевічам архіўладыка едзе ў Менск, а стуль – на Случчыну, знаёмячыся з настроямі грамадзянства на вельмі мнагалюднай сельскагспадарскай выстаўцы. Зь Беларусі мітрапаліт едзе ў Маскву і ў Пецярбург, стараючыся ў асабістых гутарках з расейскімі палітычнымі верхаводамі таго часу выясьніць магчымасьць рэалізацыі ягоных шырокіх плянаў адносна да працы на Беларусі”.

І пра такое здарэньне паведамляе А. Луцкевіч: “У часе падарожы мітрапаліта быў мамэнт, які пагражаў раскрыцьцём яго інкогніта. Едучы зь Менску ў Вільню яго абакралі, узяўшы ня толькі грошы, але і дакумэнты. Толькі зь вялікім трудом удалося папярэдзіць пагражаўшую ад гэтага бяду...”

Адкуль жа царскім уладам стала вядома, што мітрапаліт прыяжджаў у Беларусь і Расею? Луцкевіч піша: “У той час вінавацілі ў гэтым аднаго, зь якім архіўладыка быў лішне шчыры...”

4.

У сваіх працах пра ўнійную праблематыку і мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага А. Луцкевіч адзначаў чатыры факты: расейскі ўрад заўсёды, як агню, баяўся Уніі, якую сам зьніштожыў у межах сваёй дзяржавы; “ідэя касьцельнай еднасьці ад гэтага [зьніштажэньня] не памерла”; “унія далей трывала за граніцамі Расеі”, а галоўны цэнтр яе “станавіла Галіччына”; асабліва ж “непакоіў маскалёў уніяцкі мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі, чалавек высокай культуры, энэргічны, зь вялікай ініцыятывай, каторы аказаў як усяму ўкраінскаму дзелу, так і справе нацыянальнага касьцёла ўкраінцаў – уніі – непамерна вялікія ўслугі”.

У цытаваным ужо артыкуле “Мітрапаліт Шаптыцкі ў Беларусі” чытаем: “Уплыў гэтага папраўдзе выдатнага чалавека быў вельмі шырокі і даходзіў ажно да глыбі Расеі. Да слоў мітрапаліта прыслухіваліся і некаторыя праваслаўныя гіэрархі, і прадстаўнікі расейскай інтэлігенцыі. Думка аб злучэньні касьцёлаў знайшла водклік між арыстакратычнымі кругамі Пецярбурга і Масквы ды ў Пецярбурзе нават залажылася ўніяцкая капліца і пры ёй невялікая парахвія. І гэта прыпісывалі стараньням мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага.

Што староньнікі уніі ў Расеі і пераконаныя, ідэйныя уніяты стараліся паддзержываць зьвязь з галавой Уніяцкага касьцёла, гэта зусім зразумела. Але расейскае правіцельства ўва ўсім гэтым бачыла “інтрыгі” мітрапаліта і сачыла кожын яго крок”.

Ды вось пачынаецца першая сусьветная вайна. На тэрыторыі Беларусі лінія фронту, пачынаючы з восені 1915 г., больш-менш стабілізуецца да 16 лютага 1918 г. На акупаваных немцамі тэрыторыях складваюцца параўнальна спрыяльныя палітычныя ўмовы для

беларускае культурна-нацыянальнае працы, у тым ліку і для ўнійнае акцыі, тым больш, што, паводле А. Луцкевіча, на гэтай тэрыторыі засталіся толькі 3-4 праваслаўныя сьвятары[1]. Аднак посьпех акцыі амаль цалкам залежаў ад Львова, дзе знаходзіўся “некаранаваны кароль” Украіны архіўладыка Андрэй і адкуль магло прыехаць уніяцкае духавенства. Але ў заходняй частцы Ўкраіны справы складваліся не зусім спрыяльна для Уніі, для Грэка-Каталіцкай Царквы. На пачатку вайны расейская армія ўрываецца ў Прусію, а на Паўднёва-Заходнім фронце больш за месяц доўжыцца Галіцыйская бітва. І калі ў Прусіі царскае войска церпіць паразу, у Заходняй Украіне яно затрымліваецца даўжэй, захоплівае Львоў, ідзе да Перамышля.

Адным з наступстваў часовага посьпеху царскай арміі было зьняволеньне мітрапаліта Андрэя, якога, як вядома, вывезьлі ў Расею. Каб даведацца, у прыватнасьці, з кім архіўладыка меў кантакты ў Расеі да вайны, царскія ўлады вывезьлі з палаца мітрапаліта ягоны архіў.

“Цяпер... спэцыяльная камісія пры дэпартамэнце паліцыі пад кіраўніцтвам генэрала Клімовіча працуе над разборкай гэтага архіву”,– пісаў А. Луцкевіч. А Клімовіч служыў раней у Вільні паліцмайстрам і меў многа супольнага з ахранным аддзяленьнем. Адсюль Луцкевіч рабіў выснову: “Выбар яго, трэба думаць, затым і зроблен, што Клімовіч добра знае нашы краёвыя справы і пэўне энэргічна возьмецца да “выясьненьня”, хто з тутэйшых людзей быў замешан у “праступнай” справе уніі”. Такое было другое наступства часовага посьпеху царскага войска. Праўда, А.Луцкевіч ня вельмі гэтым перажмаўся, бо быў упэўнены, што Беларусь “ужо ня вернецца ў старую няволю”[2].

Трэцім наступствам часовага посьпеху царскага войска была спроба зьнішчыць Грэка-Каталіцкую Царкву ў Галіччыне. Пачаўся гвалт над уніяцкім духавенствам і вернікамі. Асабліва дзікія былі, як піша пра гэта А.Луцкевіч, “расправы... з уніяцкімі папамі, якім вырывалі бароды і рабілі йшчэ горшыя рэчы”[3].

Весткі пра гэтае дзікунства даходзілі і да Масквы, і да Пецярбурга, і да Вільні. У 1931 годзе, успамінаючы тыя падзеі, Луцкевіч нагадаў лёс аднаго свайго знаёмца – расейскага ліберала, дэпутата I Дзяржаўнае Думы Віктара Обнінскага. “Обнінскі,– пісаў Луцкевіч,– быў гарачым патрыётам [Расеі], шчыра верыў у неабходнасьць “вайны да пабеднага канца”, у высокую “цывілізацыйную місію” дзяржаў Антанты”. Каб праверыць жудасныя весткі з Галіччыны, гэты чалавек вырашыў паехаць туды і ўсё пабачыць сваімі вачамі. “І вось,– працягвае Луцкевіч,– ён сваімі вачыма угледзеў, як выглядала на дзеле – у Галіччыне – гэная “цывілізацыйная місія”... Угледзеў, вярнуўся ў Маскву і... налажыў на сябе рукі”.

Напісаць пра ўсё гэта ў 1915 годзе Луцкевіч ня мог. Зрэшты, напісаць мог – ня мог надрукаваць, бо лютавала вайсковая цэнзура, якая ахоўвала “честь России” і “военные тайны”. Але вось у Вільню прыходзяць немцы. З лютага 1916 году пачынае выходзіць газета “Homan”. 26 сакавіка 1916 году Луцкевіч друкуе ў ёй артыкул “Зваротная хваля”, які я ўжо цытаваў. З гэтае публікацыі беларускі чытач мог даведацца і пра арышт мітрапаліта, і пра тое, што “калі ў пачатку вайны маскалём удалося на некалькі месяцаў запанаваць у Галіччыне, яны ў першы чарод навязьлі туды праваслаўных сьвяшчэньнікаў і, выганаючы ўніяцкіх ксяндзоў, пачалі забіраць у свае рукі ўніяцкія цэрквы”. “Што пры гэтым тамака рабілася,– дадае аўтар,– цяжка пераказаць! Але такі ўкраінскі народ крэпка дзяржаўся за сваю веру, ды на яго шчасьце хутка скончылася тамака панаваньне маскалёў”.

А свой артыкул А.Луцкевіч завяршае гэтак: “Жыцьцё часам любіць пасьмяяцца над тымі, хто хоча яго павярнуць проці яго натуральнага цячэньня. Гэтак выйшла і цяпер. Мала таго,

што маскалём не ўдалося зьвясьці са сьвету галіцкіх уніятаў ды самым ім прыйшлося ўцячы з Галіччыны: Унія пайшла сьледам за імі, пераступіла зачыненую перад ею расейскую граніцу і пачала нанова шырыцца між жыхарамі расейскай Украіны!

Лёгка зразумець, які гнеў узьняўся ў душах тых людзей, што яшчэ так нядаўна “гаспадарылі” ў Галіччыне. Але гнеў той будзе яшчэ большы, калі вернецца Унія і на Беларускую зямлю, гдзе памяць аб ей ня шчэзла дагэтуль у народзе...”

Артыкул “Зваротная хваля”, нагадаю, быў надрукаваны 26 сакавіка, а 20 чэрвеня 1916 году Антон Луцкевіч публікуе наступны артыкул – “Перад новай бядой”. Яго зьяўленьне ў газеце было выклікана чарговым наступам Паўднёва-Заходняга фронту, які ўвайшоў у гісторыю як Брусілаўскі прарыў (4 чэрвеня – 13 жніўня 1916 г.). Пасьля адходу расейскіх войск з Галіччыны ў 1915 годзе, піша Луцкевіч, украінцы ізноў вольна ўздыхнулі і пачалі працаваць дзеля адбудовы зруйнаванага жыцьця, але ім “гразіць новая бяда: новае расейскае наступленьне”.

Аўтар пералічвае дасягненьні ўкраінцаў “пад аўстрыйскім панаваньнем”: свае школы, свае гімназіі, навучаньне ў роднай мове ва ўніверсітэце, поўная свабода веры, доступнасьць пасадаў у самакіраваньні і дзяржаўных органах. Здабыткамі сваёй культурнай працы заходнія ўкраінцы дзяліліся з братамі пад расейскім панаваньнем, “дзе трываў безупынны ўціск, дзе руйнавалі ўсё тое, на чым украінскі народ мог бы аснаваць сваю будучыну, сваю культурную работу”. “І вось у галавах “абрусіцеляў”,– працягвае А. Луцкевіч,– здаўна нарадзілася думка заваяваць Галіччыну, зьніштожыць “гняздо ўкраінскага сэпаратызму” дый тады абмасковіць увесь украінскі народ – і тамтэйшы, і пражываючый цяпер пад Расеяй”. З пачаткам першае сусьветнае вайны царызм атрымаў магчымасьць рэалізаваць свой план. Падчас першае акупацыі часткі Заходняе Ўкраіны “Галіччына была страшэньне спустошана”, а “новы прыход расейскіх акупантаў, на думку А.Луцкевіча, “вынішчыў бы да званьня ўсё, што яшчэ ўцалела ад таго разу”. Хоць новы наступ расейскай арміі прынёс шмат шкоды насельніцтву Галіччыны, ён, на шчасьце, захлынуўся, зноў узяць Львоў царскаму войску не ўдалося.

5.

Праз месяц пасьля таго, як стала відавочна, што расейская армія вычарпала свой наступальны імпэт, у Вільню прыйшла жалобная вестка: “У Расеі, у Курску, памёр уніяцкі мітрапаліт гр. Андрэй Шаптыцкі”. У некралогу “Андрэй Шаптыцкі”, напісаным з гэтае прычыны, мы чытаем: “Яго сьмерць – самы цяжкі ўдар як для ўкраінскага народу, так і для справы касьцельнай еднасьці, для каторай гэтак многа зрабіў гэты галава уніяцкай цэрквы.

Мы, беларусы, дзелім гора братоў нашых украінцаў ня толькі затым, што ўтраты гэтага праўдзівага, шчырага сына ўкраінскага народу пакіне па сабе глыбокі сьлед на ўсей ўкраінскай культурна-нацыянальнай рабоце, так цесна за апошнія дзясяткі гадоў зьвязанай зь імем мітрапаліта Шаптыцкага: Андрэй Шаптыцкі і сам па сабе быў вельмі блізкі беларускаму народу”[4].

Аўтар гэтага некралогу – а ім без сумневаў быў Антон Луцкевіч – піша і пра паездку архіўладыкі ў Беларусь, Маскву і Пецярбург, і пра яго падтрымку беларускіх эмігрантаў, і пра беларускі аддзел у музеі. З некралогу мы даведваемся, што мітрапаліт Галіцкі “стараўся памагаць беларусам, друкуючы ў Львове беларускія кніжкі”. І тут нам на памяць прыходзяць два зборнічкі вершаў Цёткі, надрукаваныя ў базыльянскім манастыры ў Жоўкве. Натуральна, манахі не маглі надрукаваць іх без блаславеньня царкоўных уладаў. З артыкулу

“Мітрапаліт Шаптыцкі і беларускі рух” мы даведваемся, што наша слаўная паэтка, асьветніца і рэвалюцыянерка была ў шэрагу тых, хто атрымліваў “асабістае падтрыманьне з боку мітрапаліта ў часе сваеі прымусовай эміграцы з царскае Расеі”. У 1926 годзе А.Луцкевіч успамінаў, што пасьля атрыманьня весткі пра сьмерць архіўладыкі “Беларускі камітэт зьвярнуўся да тагачаснага кіраўніка Віленскае дыяцэзіі кс. Міхалькевіча з просьбай аб арганізацыю жалобнага набажэнства, але той наадрэз адмовіў у гэтым…” І дадаваў: “На шчасьце, сум і жалоба беларусаў аказалася беспадстаўнай!”

Як жа мог зьявіцца на старонках “Гоману” некралог з партрэтам архіўладыкі? Справа ў тым, што з Курска мітрапаліт Галіцкі прапаў. І газета “Polnische Blätter”, што выходзіла ў Берліне, прыйшла да высновы пра сьмерць галавы Царквы. Абапіраючыся на паведамленьне “Polnische Blätter”, тэлеграф разьнёс гэтую вестку па сьвеце. Так яна дайшла і да Вільні. Аднак з часам газета “Dziennik Polski” апублікавала паведамленьне, якое прыйшло з Расеі праз Стакгольм. З гэтага паведамленьня вынікала, што на загад Сіноду мітрапаліт быў высланы ў суздальскі Спаса-Яўфім’еўскі манастыр пад нагляд ўладыкі Паўла, вікарыя Ўладзімерскай япархіі.

Друкуючы “Весткі аб мітрапаліце Шаптыцкім” у нумары за 17 кастрычніка 1916 году, газета “Гоман” з радасьцю дзялілася імі са сваімі чытачамі, бо яны, гэтыя весткі, давалі надзею, што “Галава Украінскай Нацыянальнай Цэркве, дасьць Бог, вернецца ў свой родны край і будзе далей вясьці спыненую насільствам ворагаў збожную работу”.

6.

Надзея А. Луцкевіча на тое, што мітрапаліт вернецца ў родны край, спраўдзілася. Ня спраўдзілася спадзяваньне на працяг унійнай акцыі ў Беларусі. Пасьля Рыжскага трактату Заходняя Беларусь і Заходняя Ўкраіна апынуліся ў складзе іншае дзяржавы, якая мела на мэце тыя ж мэты – асіміляцыю беларусаў і ўкраінцаў. І Грэка-Каталіцкая Царква стаяла ім на перашкодзе. У Заходняй жа Беларусі ўнійная акцыя была аддадзена на водкуп ворагу беларушчыны, Віленскаму архібіскупу Рамуальду Ялбжыкоўскаму і Пінскаму біскупу Зыгмунту Лазінскаму, таксама не прыяцелю беларушчыны. І калі ў Заходняй Украіне пачаліся знакамітыя пацыфікацыі, скіраваныя і супраць Уніяцкай Царквы, Луцкевіч, ня могучы адкрыта асудзіць варварства пілсудчыкаў, у артыкуле “Хворае сумленьне” нагадаў пра зьверствы царскіх акупантаў у Галіччыне. Гэта была ўсім зразумелая эзопава мова.

У тым самым 1931 годзе, калі зьявіўся артыкул “Хворае сумленьне”, Луцкевіч разам з баптысцкім пастарам Лукашом Дзекуцем-Малеем выдаў у Хэльсінкі беларускі пераклад Новага Запавету і Псальмаў. Гэтак была завершана шматгадовая праца. Асобныя ж Евангельлі пачалі выходзіць яшчэ з сярэдзіны 1920-х гадоў. У Цэнтральнай бібліятэцы Літоўскай акадэміі навук (ф. 21, спр. 346, арк. 17) захоўваецца й візітоўка, на якой мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі “сердечно дякує анонімному перекладачеві Евангелія на білоруську мову за його цінну працю”.

Такія зьвесткі на тэму “Унія, браты Луцкевічы і мітрапаліт Шаптыцкі”, якімі я валодаю на сёньня. Мы ведаем, што напісанае застаецца. І трэба спадзявацца, што гісторыкі знойдуць новыя сьведчаньні супрацы братоў Луцкевічаў і мітрапаліта Шаптыцкага, якія дазволяць раскрыць тэму глыбей і грунтоўней.

1 – Гл.: Прот. Міхал Галянкевіч // Сялянская Праўда. 1924. 14 лістапада.
Гісторык Уладзімір Ляхоўскі паведаміў мне, што сьвятароў было роўна дзесяць.
2 – Homan. 1916. 14 красавіка.

3 – Фалькевіч К. Хворае сумленьне // Беларускі Звон. 1931. 6 студзеня.
4 – † Андрэй Шаптыцкі // Гоман. 1916. 15 верасьня.

## “Я – дарога...”

“Я – дарога...” – кажа Ісус. Шматлікія людзі на працягу ўжо двух тысячагоддзяў чулі гэтыя словы і разумелі іх. Яны ішлі дарогай, якой ёсьць Хрыстос, яны нам пакінулі сьведчаньне. Сьведчаньне сваёй веры – спадчыну сваім нашчадкам. Гэта наша спадчына і заданьне для нас, новага пакаленьня, свой сьлед пакінуць у гісторыі сьвету. Пакіньма гэты сьлед, за папярэднікамі, крочачы РАЗАМ!

***Рэдакцыя***

## 100-ыя ўгодкі грэка-каталіцкай семінарыі ў Івана-Франкоўску

**На Сьветлым тыдні 2007 году адбыліся афіцыйныя ўрачыстасьці з нагоды сьвяткаваньня 100-гадовага юбілею Івана-Франкоўскай вышэйшай духоўнай семінарыі імя сьв. сьвятамучаніка Язафата, якія працягваліся два дні. Акрамя семінарыстаў БГКЦ Віталя Быстрова і Сяргея Леурдо, якія праходзяць у Івана-Франкоўску духоўную фармацыю й навучаньне, ад Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы ўдзел ва ўрачыстасьцях узялі дэкан Усходняга протапрасьвітарату ераманах Лявонці (Тумоўскі) і старшыня парафіі з Івацэвічаў Вячаслаў Гарчакоў.**




Урачыстасьці распачаліся 12 красавіка 2007 году падзячным малебнам да іванафранкоўскіх мучанікаў Рыгора (Хамішына), Івана (Сьлезюка) і Сымона (Лукача), які ўзначалілі біскупы Івана-Франкоўскай япархіі Ўладзімір Війтышын ды Сафрон Мудры супольна з Мукачыўскім уладыкам Міланам Шашыкам.

Напрыканцы малебну Кір Сафрон у сваёй прамове ўсхваліў дзіўны провід, які дазволіў дачакацца 100-гадовага юбілею Івана-Франкоўскай семінарыі, і нагадаў семінарыстам пра абранасьць іх Госпадам для служэньня сваёй Царкве, бо, як сказаў Госпад на Тайнай вячэры, “...ня вы Мяне выбралі, але Я вас абраў”.

Пасьля малебну правячы біскуп Івана-Франкоўскай япархіі Кір Уладзімір Війтышын урачыста ўзнагародзіў васьмярых сьвятароў-выкладчыкаў духоўнай семінарыі залатымі нагруднымі крыжамі, а ўсіх супрацоўнікаў семінарыі граматамі і сьпецыяльнымі юбілейнымі медалямі.

Прыняўшы архіпастырскае блаславеньне ад Кір Уладзіміра, семінарысты і ўдзельнікі ўрачыстасьцяў распачалі навуковую канферэнцыю, прысьвечаную 100-годдзю Івана-Франкоўскай духоўнай семінарыі. Была ўзгадана яе гісторыя, паіменна ўспомнілі і ўсіх выкладчыкаў, якія ўжо адыйшлі з гэтага сьвету і тых, што яшчэ сёньня служаць. Кір Сафрон

Мудры, які быў рэктарам гэтай семінарыі з 1994 па 2000 год (у свой час ён меў таксама багаты досьвед працы рэктарам у Рыме ў Папскай Калегіі сьв. Язафата), характарызуючы сутнасьць духоўнай семінарыі, зазначыў, што яна зьяўляецца не інтэрнатам, але ёсьць унутраным глыбокім спосабам царкоўнага жыцьця, жыцьця паводле вобразу Хрыста з поўнай заангажаванасьцю чалавека ў ім.

Уладыка Сафрон паказаў таксама гістарычныя перадумовы існаваньня семінарыі, правёўшы экскурс у традыцыю выхаваньня працаўнікоў Божае нівы. Апосталы хадзілі з Госпадам тры гады, увесь час вучыліся ў Яго. Пазьней былі заснаваныя багаслоўскія школы ў Антыёхіі, Александрыі, Эдэсе. На Русі яны існавалі пры манастырах. Кір Сафрон узгадаўпра фармаваньне сучаснае сістэмы семінарыяў ад Трыдэнцкага сабору, пра заснаваньне Папскай усходняй калегіі ў Рыме. І вось у такі кантэкст шляху пераемства багаслоўскіх ведаў досыць арганічна ўпісваецца вышэйшая духоўная грэка-каталіцкая семінарыя і ў Івана-Франкоўску.

З нагоды ўрачыстае даты намаганьнямі семінарыстаў была падрыхтавана і выдадзена вельмі цікавая кніга “Нарыс гісторыі Івана-Франкоўскай (Станіславаўскай) Духоўнай Семінарыі імя сьвятога сьвятамучаніка Язафата (1907-2007 гг.)”. Канферэнцыя скончылася прэзентацыяй гэтай кнігі. Затым адбылася прэзентацыя выставы кніг семінарыйнага выдавецтва. На цяперашні час выдадзена 87 кніг выкладчыкаў семінарыі. Разам са старымі царкоўнымі паштоўкамі іх можна было пабачыць на выставе. Акрамя ўжо згаданай кнігі па гісторыі семінарыі трэба адзначыць яшчэ адну навінку семінарыйнага выдавецтва, якую чакалі амаль 300 гадоў – пераклад актаў Замойскага Сіноду, якія складаюць канстытуцыю, падмурак партыкулярнага права УГКЦ. У прапанаваным выданьні падаецца паралельна лацінскі і ўкраінскі тэкст актаў.

У другі дзень урачыстасьцяў сьвяточную Літургію ў катэдральным саборы Івана-Франкоўску ўзначаліў Першаярарх УГКЦ Кір Любамір Гузар. Яму саслужылі 12 біскупаў з усяе Ўкраіны ды мноства сьвятароў, у тым ліку а. Лявонці (Тумоўскі) з Беларусі. Старажылы распавядаюць, што столькі ўладык разам не было ў Івана-Франкоўску з часоў біскупскай хіратоніі Сафрона Мудрага.

На самым пачатку Літургіі Зьверхнік УГКЦ Кір Любамір удзяліў блаславеньне семінарыі яшчэ на наступныя 100 гадоў. Таксама ён узнагародзіў найвышэйшымі ўзнагародамі Царквы – мітрамі цяперашняга рэктара семінарыі а. д-ра Алега Каськіва, віцэ-рэктара Тэалагічнай Акадэміі а.Барыса Гобыра і а. Івана Казовіка, дэкана філасофска-багаслоўскага факультэту.

Адразу з катэдры ўрачыстай працэсіяй уладыкі са сьвятарамі ўва ўсіх літургічных пасхальных рызах разам з усімі прысутнымі пайшлі па вуліцы Шаўчэнкі да будынку, дзе сёньня знаходзіцца ваенкамат і дзе раней знаходзілася семінарыя. Было выказана спадзяваньне, што будынак гэты будзе ўсё ж вернуты Царкве. Зьверхнік УГКЦ асьвяціў мемарыяльную дошку на сьцяне былога семінарыйнага будынку.

На ўрачыстасьцях 100-годдзя Івана-Франкоўскай духоўнай семінарыі прысутнічалі таксама былыя прэфекты семінарыі, якія цяпер на студыях у Рыме. Яны перадалі блаславеньне для семінарыі ад Папы Рымскага Бенядыкта XVI. семінарыст Віталь Быстроў

***На фота:*** Семінарысты сустракаюць Першаярарха УГКЦ Любаміра Гузара.

д-р Вячаслаў Стэцко

## Гэтае напісана, каб вы паверылі (Ян 20, 31)

Калі нават часамі мы з вамі і задумваемся, дзеля чаго былі напісаныя Евангельлі, то аўтар чацьвёртага Евангельля не пакідае нам сумніваў і адказвае на ўсе пытаньні й пошукі: "А гэтае напісана, каб вы паверылі, што Ісус ёсьць Хрыстос, Сын Божы, і, веруючы, мелі жыцьцё ў імя Яго" (Ян 20, 31). Гэта ня толькі заканчэньне або падсумаваньне справы, якую называем Добрай Навіной, але гэта зьяўляецца галоўнай мэтай напісаньня Евангельля паводле Яна. Евангеліст, імя якога ведаем – Ян, самы блізкі вучань Хрыста, пішучы сваё Евангельле, набліжае нам сэнс усялякага абвяшчэньня і распавяданьня пра Хрыста, які можна праінтэрпрэтаваць наступным чынам: вера ў Ісуса, Які ёсьць Месіяй, павінна быць цэнтрам нашага жыцьця, нашай дзейнасьці і нашай жыцьцёвай актыўнасьці. Гэтак зфармуляваная мэта чацьвёртага Евангельля зьяўляецца адначасова скарочаным яе падсумаваньнем, паказваючы ня толькі вялікую містэрыю жыцьця і дзейнасьці Ісуса Хрыста, але таксама містэрыю паўстаньня супольнасьці людзей веры, тых, якія калісьці яго сустрэлі, пазналі і паверылі. Гэта містэрыя кшталтаваньня веры ў Таго, хто прыйшоў паказаць усяму сьвету Айца і Яго планы адносна чалавецтва. Што ж тады, гледзячы з персьпектывы ўсяго Евангельля паводле Яна, значыць верыць?

Для евангеліста Яна вельмі характэрна, што амаль заўсёды рэчаіснасьць веры выказвае ён пры дапамозе дзеясловаў. Гэткім чынам, кажучы пра веру, ён кажа перад усім аб працэсе, аб дынаміцы веры. Верыць – гэта ня ёсьць штосьці аднаразовае, штосьці, што можа здарацца час ад часу. Ёсьць гэта працэс прыходу да веры, працэс узрастаньня ў веры. "Верыць" – мае на ўвазе трываласьць. Вось толькі некаторыя выбраныя фрагменты: "І, як Майсей падняў зьмея ў пустыні, так мусіць быць падняты Сын Чалавечы, каб усякі, хто веруе ў Яго, ня згінуў, але меў жыцьцё вечнае" (Ян 3, 14-15); "Праўду, праўду кажу вам: хто слухае слова Маё і верыць у Таго, Хто паслаў Мяне, мае жыцьцё вечнае, і на суд ня йдзе, а перайшоў ад сьмерці ў жыцьцё" (Ян 5, 24); "А жанчыне гэтай казалі: ужо не дзеля тваіх гутарак верым, бо самі чулі і даведаліся, што гэта сапраўды Збаўца сьвету – Хрыстос" (Ян 4, 42); "Але Я сказаў вам, што вы і бачылі Мяне, і ня верыце" (Ян 6, 36); "Воля паслаўшага Мяне ёсьць тая, каб кожны, хто бачыць Сына і веруе ў Яго, меў жыцьцё вечнае, і Я ўваскрашу Яго ў апошні дзень" (Ян 6, 40); "Цяпер бачым, што Ты ведаеш усё і ня маеш патрэбы, каб хто пытаўся ў Цябе. Дзеля гэтага верым, што Ты ад Бога зыйшоў" (Ян 16, 30). Аналіз гэтых і шэрагу іншых месцаў у Евангельлі Яна, што датычаць веры, паказвае нам незвычайную глыбіню працэсу веры. Вера, перадусім, спалучана са збаўленьнем і вечным жыцьцём. Вера вядзе да збаўленьня. Для евангеліста Яна вера не зьяўляецца чымсьці, што даецца незалежна ад высілку чалавека, не ёсьць звычайным прадметам, які можна атрымаць амаль механічна. Збаўленьне, што ў вялікай ступені залежыць ад веры, паказвае патрэбу нястомнага дыялогу з Богам і Яго Сынам, Які прыйшоў, каб прынесьці збаўленьне і паказаць Таго, хто мае моц яго даць. Бог у асобе Ісуса Хрыста дае абяцаньне збаўленьня, чалавек жа павінен адказаць на гэты дар Божы менавіта сваёй верай. Больш таго, праз веру, або інакш праз нястомнае трываньне ў веры, чалавек прыходзіць да жыцьця вечнага, якое ёсьць незвычайным дарам Божым. Паводле Яна, жыцьцё вечнае чалавек, які верыць, атрымлівае ўжо ў момант, калі аддае сваё жыцьцё Месіі. Вернік ужо цяпер мае жыцьцё, якое ёсьць дарам збаўленьня: "Праўду, праўду кажу вам: хто слухае слова Маё і верыць у Таго, Хто паслаў Мяне, мае жыцьцё вечнае, і на суд ня йдзе, а перайшоў ад сьмерці ў жыцьцё" (Ян 5, 24). Вечнае жыцьцё ж ёсьць нічым іншым, як супольнасьцю з Хрыстом. Гэтае вечнае жыцьцё веруючы чалавек, вучань Хрыста, атрымлівае праз пасярэдніцтва збаўчых здарэньняў: уцелаўленьня, сьмерці і ўваскрасеньня Ісуса Хрыста. Дзякуючы таямніцы ўцелаўленьня стала магчымым адкрыцьцё Айца і Яго праўды. Праз гэтае адкрыцьцё Хрыстос дае чалавечай асобе магчымасьць наблізіцца да Айца, быць у супольнасьці і еднасьці з Ім і Яго Сынам: "Няхай

будуць усе адно: як Ты, Айцец, ува Мне, і Я ў Табе, так і яны няхай будуць адно, каб паверыў сьвет, што Ты паслаў Мяне” (Ян 17, 21). А таямніца сьмерці і ўваскрасеньня адкрывае дарогу канчатковага паяднаньня са Збаўцам: “І калі пайду і падрыхтую вам месца, прыйду зноў і вазьму вас да Сябе, каб і вы былі, дзе Я” (Ян 14, 3). Гэта значыць, што збаўленьне і жыцьцё вечнае, хоць ужо і дадзеныя верніку ў момант прыходу Ісуса Хрыста, канчаткова рэалізуюцца ў эсхаталагічным часе (“у часе апошнім”).

У працэсе веры, згодна з чацьвёртым евангелістам, незвычайную ролю мае таксама слуханьне і бачаньне. “Праўду, праўду кажу вам: хто слухае слова Маё і верыць у Таго, Хто паслаў Мяне, мае жыцьцё вечнае, і на суд ня йдзе, а перайшоў ад сьмерці ў жыцьцё” (Ян 5, 24). Вера не прыходзіць “проста так”, вера прыходзіць ад слуханьня словаў Госпада. Шматразова сустракаем у Евангельлях моманты, калі Ісус вучыць вучняў, кажа прамовы, якія слухаюць натоўпы; і неаднаразова словы, сказаныя Ім, маюць моц вызваленьня ад грахоў, моц аздараўленьня, моц асьвячэньня і ажыўленьня памерлых. Паводле Яна, ёсьць дзьве магчымасьці слуханьня: слуханьне як дзея звычайная, якая не вядзе да ўзрастаньня веры і не дае ніякіх пладоў, і слуханьне, якое вядзе да веры. Слуханьне, якое вядзе да ўзрастаньня ў веры, мае на ўвазе прыняцьце словаў Хрыста, Ягонай навукі. І ня толькі прыняцьце словаў ды навукі, але й жыцьцё паводле іх. Гэта не адбываецца ў адзін момант, але зьяўляецца працэсам, які можна назваць працэсам дасьпяваньня ў веры, яе разуменьня і паглыбленьня. Сёньня слуханьне – гэта перадусім чытаньне і прыманьне слова, якое ёсьць у Сьвятым Пісаньні, слуханьне слова, што абвяшчаецца ў Царкве і праз Царкву.

Іншым чыньнікам працэсу паглыбленьня веры ёсьць бачаньне: “Воля Таго, Хто паслаў Мяне, ёсьць тая, каб кожны, хто бачыць Сына і верыць у Яго, меў жыцьцё вечнае; і Я ўваскрашу яго ў апошні дзень” (Ян 6, 40). “Бачаньне” Яна, спалучанае з верай, заўсёды вядзе да жыцьця (пар. Ян 3, 15; 19, 37). Гэтае “бачаньне” ў багаслоўі Яна папярэджвае ўдзел у вечным жыцьці і як бы імплікуе (выклікае) у веруючага чалавека сьвядомы ўдзел у збаўленьні й вечным жыцьці. Чацьвёрты евангеліст падае некалькі вымярэньняў “пункту гледжаньня” або “бачаньня” рэчаіснасьці, якія аўтар апісвае пры дапамозе розных дзеясловаў. Асноўным значэньнем “бачаньня” зьяўляецца звычайная зрокавая дзейнасьць (blepein), характэрная для штодзённага жыцьця. Вучні бачаць камень, адвалены ад магілы (Ян 20, 1), бачаць рыбу і хлеб (Ян 21, 9). Адначасова існуе таксама і іншы род “бачаньня” (theomai, horao), бачаньне рэчаіснасьці на першы погляд незаўважнай. Гэта дазваляе ўгледзець Хрыста як Божага пасланьніка, Месію, Які прыходзіць, каб абдарыць чалавека жыцьцём, якое вядзе да еднасьці з Ім і Айцом. Гэткае “бачаньне” вядзе да веры, і ёсьць гэта ўжо ня толькі вера, але дынаміка жыцьця верай. Ужытае аўтарам чацьвёртага Евангельля слова “бачаньне” (horao) звычайна прыводзіць да веры: “І я бачыў і засьведчыў, што гэты ёсьць Сын Божы” (Ян 1, 34), але ня толькі; пры дапамозе гэтага слова евангеліст апісвае ўзаемную сувязь паміж верай і бачаньнем (пар. Ян 11, 40), нявераньнем і нябачаньнем (пар. Ян 3, 36). Асабліва важнымі для нас могуць аказацца словы Ісуса Хрыста, скіраваныя да вучняў ужо пасьля яго Ўваскрасеньня: “Ісус кажа яму: ты, Тамаш, паверыў, бо бачыў Мяне; шчасьлівыя тыя, што ня бачыўшы – паверылі” (Ян 20, 29). Гэта ёсьць словы, якія былі скіраваныя ня толькі да вучняў – сьведкаў жыцьця Хрыста, але скіраваныя таксама і да нас. Мы не зьяўляемся непасрэднымі сьведкамі нараджэньня, жыцьця і ўваскрасеньня Ісуса. Але, дзякуючы ўважліваму слуханьню словаў Госпада, кшталтаваньню духоўнай чуйнасьці і духоўнага зроку на падставе Сьвятога Пісаньня, якія вядуць нас да веры, мы можам асягнуць асаблівую блізкасьць з нашым Богам і Збаўцам. Уласна Ён зрабіў для нас магчымым жыцьцё ў Божым сьвятле, крыніцай якога ёсьць абяцаньне збаўленьня й вечнага жыцьця, якое пачынаецца ўжо ў гэтым жыцьці, тут на зямлі.

Абапіраючыся на вышэй згаданае сцьверджаньне, як падсумаваньне, можна паставіць пытаньне: чаму паводле евангеліста Яна варта верыць у Хрыста? Вядома, у такім кароткім разважаньні на тэму веры ў Евангельлі сьв. Яна немажліва зрабіць абсалютна поўнае і падрабязнае дасьледаваньне па гэтай тэме. Чытач газеты "Царква" пры дапамозе сімфоніі і Сьвятога Пісаньня можа самастойна разгледзець усе месцы ў Евангельлі, дзе размова ідзе пра веру, і пабачыць усё багацьце кантэкстаў, у якіх выступаюць дзеясловы, што акрэсьліваюць працэс кшталтаваньня веры сярод вучняў Хрыста. Затое на падставе чытаньня ўзгаданых у гэтым артыкуле фрагментаў з Евангельля ад Яна, якія ў вялікай ступені адлюстроўваюць галоўны кірунак думкі евангеліста, можна сказаць, што вера – гэта тая рэчаіснасьць, якая можа цалкам зьмяніць жыцьцё кожнага чалавека. Ёсьць яна той сілай, што вядзе да супакою, радасьці і шчасьця кожнага чалавека, які верыць у Ісуса Хрыста. Яна вядзе ня толькі да жыцьця вечнага й вечнага шчасьця ў будучыні, але ўжо цяпер дае ўпэўненасьць, што нашыя намаганьні на нашай дарозе веры ня ёсьць дарэмнымі, што з намі крочыць таксама Ісус Хрыстос. І ўласна з Ім, Ісусам, мы, злучаныя любоўю і надзеяй на канчатковае паяднаньне з Ім.

## Мінулае і сучаснасьць

***грэка-каталіцкай семінарыі ў Івана-Франкоўску***

**Сёлета споўнілася 100 гадоў з часу заснаваньня грэка-каталіцкай духоўнай семінарыі ў Івана-Франкоўску.**



Погляд у мінулае дазваляе ўбачыць нялёгкі шлях выпрабаваньняў, стойкасьці й мужнасьці, шлях, на якім былі ганеньні, часы падпольля, вайны з бяжбожным сьветам, пераемства ў духоўнай спадчыне. Функцыянаваньне духоўнай семінарыі ў Івана-Франкоўску было перарванае ў пасьляваеннае ліхалецьце да 1990 году. У варунках вымушанага падпольля падрыхтоўка сьвятароў Грэка-Каталіцкай Царквы зьдзяйсьнялася праз навучаньне кандыдатаў у старэйшых ды найбольш дасьведчаных сьвятароў.

Але пярэрва ў афіцыйнай дзейнасьці семінарыі не перавысіла паўстагоддзя, таму сучасная Івана-Франкоўская вышэйшая духоўная семінарыя імя сьвятамучаніка Язафата зьяўляеццца паўнапраўнай пераемніцай той самай, заснаванай яшчэ ў Станіслававе (старадаўняя назва Івана-Франкоўска) у студзені 1907 году тагачасным епархіяльным біскупам Станіславаўскай япархіі ўладыкам Андрэем Шаптыцкім.

Яшчэ ў 1899 годзе ён купіў насупраць свайго палацу на вул.Ліпавай (цяпер Шаўчэнкі) зямельны пляц і атрымаў у наступным годзе ад аўстрыйскага ўраду дазвол на будаўніцтва духоўнай семінарыі для грэка-католікаў. Будаўніцтва семінарыі распачалося ў чэрвені 1902 году, а 14 студзеня 1907 году першыя 19 семінарыстаў пачалі тут сваё навучаньне.

Адкрыцьцё духоўнай семінарыі адбылося ўжо пры біскупе-ардынарыі Станіслававa блаславёным мучаніку Кір Грыгорыі Хамішыне, які заступіў на гэтую катэдру пасьля прызначэньня ўладыкі Андрэя Шаптыцкага на Львоўскі мітрапалічы пасад.

Першым рэктарам семінарыі стаў а. Ерамія Ламніцкі, ЧСВВ, які працаваў на гэтай пасадзе да 1915 году, калі падчас 1-й Сусьветнай вайны семінарыя была зачынена расейскімі вайскамі. Увосень 1917 году семінарыя аднавіла сваё існаваньне і з таго часу дзейнічала бесьперапынку ажно да 1945 году. З прыходам савецкае ўлады ў 1945 годзе духоўная семінарыя была зачыненая, рэктар і амаль усе выкладчыкі ды семінарысты былі арыштаваныя, а ўся матэрыяльная маёмасьць разам з вялікімі бібліятэчнымі фондамі была канфіскаваная.

Новы этап у жыцьці духоўнай семінарыі пачаўся 12 ліпеня 1990 году, калі па ініцыятыве Івана-Франкоўскага біскупа-ардынарыя Сафрона Дмытэркі, ЧСВВ, яна аднавіла сваю дзейнасьць як Івана-Франкоўская вышэйшая духоўная семінарыя імя сьвятамучаніка Язафата. За гэты час тут выхавана 687 семінарыстаў-сьвятароў.

Сёньня ў Івана-Франкоўскай духоўнай семінарыі навучаецца 270 семінарыстаў з 9-ці япархіяў-экзархатаў ня толькі з УГКЦ, але таксама з нашае Беларускае Грэка-Каталіцкае Царквы. Пачынаючы з 1990-ых, шэраг беларускіх сьвятароў і катэхетаў цалкам або частку сваёй фармацыі й навучаньня праходзілі менавіта ў Івана-Франкоўскай семінарыі. Таксама і сёньня ў гэтай духоўнай семінарыі навучаюцца два беларускія грэка-каталікі – Віталь Быстроў з Берасьця, а таксама Сяргей Леурдо з Менску.

Тэрмін навучаньня ў семінарыі – 7 гадоў. За гэты час семінарысты маюць магчымасьць прайсьці поўнае навучаньне, духоўную фармацыю ў падрыхтоўцы ды выпрабаваньні пакліканьня да сьвятарства. Першыя 3 гады навучаньня ў семінарыі ахопліваюць філасофска-гуманітарны цыкл прадметаў, у астатнія гады навучаньня семінарысты вывучаюць багаслоўскія прадметы ды завяршаюць сваё навучаньне абаронай магістарскай працы.

Семінарысты жывуць паводле сьпецыяльнага раскладу дня, які прадугледжвае, акрамя вывучэньня гуманітарных, філасофскіх, багаслоўскіх прадметаў, таксама літургічную практыку, якой жыве Царква.



Званок склікае семінарыстаў і нашых настаўнікаў да капліцы на малітву, цудоўным харавым антыфонным перасьпевам лунаюць набажэнствы; глыбокая цішыня пануе ў часе разважаньняў ды духоўнага чытаньня. Малітва ў нашым семінарыйным жыцьці займае

прыярытэтнае месца. Моц семінарыі палягае ў духоўным змаганьні кожнага семінарыста, супольным жыцьці, узаемадапамозе ды ўзаемнай павазе адзін да аднаго. Семінарыя – гэта нібы духоўны Назарэт, дзе кожны мае нагоду навучыцца лагоднасьці, стрыманасьці, пакоры духу, каб потым быць у стане несьці Хрыстовае Евангельле ўсім верным, прапаведуючы яго ня толькі словам, але й уласным прыкладам.

Сярод тых, хто мае вялікія заслугі перад семінарыяй сёньня, асабліва хочацца адзначыць постаці двух івана-франкоўскіх уладыкаў: Кір Сафрона Дмытэркі і Кір Сафрона Мудрага. Абодва гэтыя біскупы дзейна спрычыніліся да адраджэньня нашае Беларускае Грэка-Каталіцкае Царквы, спрыяючы нам сваім бацькоўскім клопатам і сталай апекай. 7 чэрвеня 2007 году Ўладыку Сафрону Дмытэрку споўнілася 90 гадоў. З гэтае нагоды мы, беларускія грэка-католікі, сардэчна віншуем яго ды ўзносім Богу малітвы падзякі за Ягонага архірэя, праз якога Госпад так шмат зрабіў, умацаваўшы на многія леты.

*семінарыст* ***Віталь БЫСТРОЎ***

***На фота:***
1. Будынак Івана-Франкоўскай Вышэйшай духоўнай семінарыі імя сьвятамучаніка Язафата.
2. У семінарыйнай капліцы сьв. Язафата.

Андрэй Баболя – непераможны змагар Хрыста



*16 траўня 2007 году ў Янаў, што на Берасьцейшчыне, зьехалася мноства вернікаў і каля 130 каталіцкіх сьвятароў з Беларусі, Польшчы і Ўкраіны. Такой колькасьці сьвятароў невялікі палескі Янаў, напэўна, ніколі ня бачыў у сваёй гісторыі. А сабраліся яны на ўрачыстасьць з нагоды 350-ых угодкаў мучаніцкай сьмерці місіянера Палесься Андрэя Баболі.*

Сьвяты Андрэй Баболя паходзіў з шляхецкага роду Баболяў, які ў XIII ст. прыбыў з Чэхіі ў Польшчу. Нарадзіўся Андрэй 30 лістапада 1591 г. у Страхоціне, што на Саноцкай зямлі. Выхоўваўся ў сям'і з моцнымі каталіцкімі традыцыямі. Бацькі, клапоцячыся аб тым, каб іх сын атрымаў адпаведнае выхаваньне і найлепшую адукацыю, у 1606 г. адалі яго ў езуіцкую школу ў Браневе. Скончыўшы пяцігадовы курс, 31 ліпеня 1611 г. Андрэй вырашыў уступіць

у закон езуітаў у Вільні. 10 жніўня 1611 г. ён атрымаў габіт і распачаў навіцыят. Пасьля навіцыяту стаў студэнтам Віленскай акадэміі, дзе на працягу 1613-1616 гг. вывучаў філасофію.

Дата яго сьвятарскіх сьвячаньняў супала з вялікай падзеяй у Рыме, дзе 12 сакавіка 1622 г. адбылася кананізацыя Ігнацыя Лаёлы і Францішка Ксаверыя, можна сказаць патрыярхаў закону езуітаў. У той самы дзень у Вільні біскуп Яўстах Валовіч высьвяціў Андрэя Баболю на сьвятара.

Пасьля заканчэньня вучобы згодна з канстытуцыяй Таварыства Ісуса Андрэй Баболя быў адпраўлены ў Нясьвіж на год трэцяй прабацыі. Гэта быў час на тое, каб падбаць пра выпрацоўку волі, стараннасьці і асабістай сьвятасьці. Пасьля прабацыі ён правёў у Нясьвіжы першы год сваёй апостальскай працы. Стаў рэктарам касьцёлу. Праявіў сябе як дасканалы адміністратар, а таксама старанны душпастыр: быў выдатным спаведнікам і прапаведнікам. Усе зьвярталі ўвагу на яго жывы розум, добрую адукацыю, цьвярозасьць суджэньняў, адміністрацыйныя здольнасьці, вялікі ўплыў, які ён меў на людзей.

У 1624 г. Андрэя Баболю як выдатнага прапаведніка перавялі ў Вільню, у касьцёл сьв. Казіміра. З 1630 г. на тры гады ён стаў суперыёрам новазаснаванага кляштару ў Бабруйску. Затым нейкі час працаваў сярод моладзі і прапаведнікам у розных гарадах Польшчы і ў Вільні. У канцы 1642 г. Баболю накіравалі ў Пінск, дзе ён навярнуў на каталіцызм шмат мясцовай шляхты і ўмацаваў марыйны культ. У 1646-52 гг. ён выехаў у Вільню, каб паправіць здароўе. А з лета 1652 г. Андрэй Баболя зноў у Пінску, дзе быў ужо да канца сваіх дзён.

На Палесьсі а. Андрэй Баболя зьдзяйсьняў перадусім місійныя выправы ў ваколіцы паміж Пінскам і Янавам Палескім. Вёскі, па якіх хадзіў, былі маладаступныя – вакол іх былі лес і багна. Рэлігійны стан гэтых “лясных” людзей быў мізэрны, былі распаўсюджаны забабоны. З вялікай ахвярнасьцю працаваў ён над падвышэньнем іх рэлігійнага ўзроўню. Прапаведнік вучыў, што толькі Евангельле можа паказаць адзіную правільную дарогу да праўды, да справядлівасьці. Працы сярод тых людзей Андрэй Баболя аддаў апошнія гады свайго жыцьця. Абыходячы гэтыя землі, Андрэй Баболя заходзіў у вясковыя хаткі, навучаў людзей праўдам веры, паказваў як трэба жыць, хрысьціў людзей, злучаў праз шлюб сужэнскія пары, спавядаў, прычашчаў. Асабліва клапаціўся Андрэй Баболя пра палескую моладзь. Заглядаў у хаты і цэрквы перасьледаваных у той час уніятаў. Уздымаў іх дух, заахвочваў да захаваньня каталіцкай веры. Шмат высілкаў прысьвяціў ён праваслаўным. Андрэй Баболя абвяшчаў Евангельле паводле спосабаў таго часу: з дапамогай тэалагічных аргументаў, асабістай стараннасьці і малітвы. Самым вялікім яго дасягненьнем стала навяртаньне жыхароў дзьвюх вёсак – Баландычы і Ўдрожын (цяпер в.Адрыжын). За свае заслугі Андрэя Баболю пачалі называць апосталам Піншчыны. За такі багаты плён місіянерскай працы трэба было плаціць. Андрэй Баболя вызначаўся вялікай пакорай, цярплівасьцю, панаваньнем над сабой і паслушэнствам. Вельмі многа пасьціўся, асабліва падчас місійных выпраў, задавальняўся часам толькі хлебам і вадою. Заўсёдны добры настрой і адкрытасьць пракладалі яму дарогу да людзкіх душаў.

Часы, у якіх прыйшлося працаваць Андрэю Баболю, былі вельмі цяжкія. Няспынныя войны з Расеяй, Швецыяй, казакамі, татарамі зьнішчалі краіну, вымíралі цэлыя ваколіцы. Да палітычных канфліктаў далучыліся рэлігійныя. Знаходжаньне а. Андрэя Баболі на Палесьсі прыпала на гады вялікіх пагрозаў Уніяцкай Царкве, прыхільнікам якой ён быў. Падчас аднаго з казацкіх наездаў на Піншчыну прапаведнік быў схоплены. У мястэчку Янаў казакі ўчынілі над ім крывавыя зьдзекі, прымушаючы адрачыся ад каталіцкае веры. З яго зьдзерлі

скуру, выразалі на галаве танзуру, выкалалі вока і зьнявечылі твар. Жудасныя катаваньні доўжыліся каля дзьвюх гадзінаў. Адбывалася гэта 16 траўня 1657 году (гэтая дата пазьней стала днём ушанаваньня памяці мучаніка). Нечакана ў ваколіцы Янава прыбылі часткі польскага войска. Уцякаючы ў паніцы, казакі пакінулі зьнявечанае цела прапаведніка. Уніяцкі сьвятар з Янава Ян Залескі падабраў цела мучаніка, а пасьля езуіты перавезлі яго ў свой кляштар у Пінску.

У 1853 годзе папа Пій IX абвясьціў Андрэя Баболю блаславёным, адзначаючы, што ён – найвялікшы мучанік Сьвятой Царквы. А з 1938 г., згодна з дэкрэтам папы Пія XI, Каталіцкая Царква вызнае Андрэя Баболю за сьвятога. Папа Пій XII у 1957 г. у сваёй энцыкліцы, прысьвечанай 300-годдзю мучаніцкай сьмерці Андрэя Баболі, назваў яго неператможным змагаром Хрыста. Мошчы сьв. Андрэя Баболі ў розныя часы знаходзіліся ў Пінску, Полацку, Маскве, Рыме. Цяпер яны захоўваюцца ў Варшаве. Часьцінка яго мошчаў ёсьць таксама і ў Янаве.

Вядома, што сьвятымі не нараджаюцца, сьвятымі становяцца. І Андрэй Баболя не выключэньне. Сярод іншых вучняў не вызначаўся ён у пабожнасьці, пакорнасьці, паслухмянасьці, сьціпласьці і ў захаваньні правілаў. Нават пасьля доўгіх гадоў манаскага жыцьця часам яго дакаралі ў недахопах. Сьцьвярджалі, што звыш меры прывязаны да асабістага меркаваньня, лёгка запальваўся, частымі былі праявы нецярплівасьці. Але адначасова тыя ж самыя людзі выдзялялі яго сярод іншых, падкрэсьліваючы высілкі Андрэя Баболі ў змаганьні з самім сабою, а таксама яго выразны прагрэс у любові да бліжняга, у прастаце і адкрытасьці, у любові да ўбоства і свайго закону. Толькі з дапамогай ласкі Божай, праз няспынную барацьбу з самім сабой Баболя змог дасягнуць такіх вышыняў. Упартасьць, якая раней перашкаджала яму спаўняць Божую волю, аказалася ня толькі слабасьцю, але і сілаю будучага сьвятога. Дзякуючы ўпартаму трываньню з Ісусам, ён змог вытрымаць аж да канца ў найвялікшым выпрабаваньні, якім стала яго мучаніцкая сьмерць. Яго паслушэнства жывілася праз малітву. І, напэўна, ён ня стаў бы сьвятым, калі б не адбыўся прагрэс у тым, што залежала ад яго.

На жыцьцёвай дарозе Андрэя Баболю спаткала шмат цяжкасьцяў. Можа здавацца, што яны былі вялікай перашкодай, а ў той жа час, калі ён прыняў іх у духу веры, яны сталіся прыступкай, якая падняла яго на ўзровень вышэй, да мэты, вызначанай самім Богам. У гэтым сьвятле няўдача, якая ў свой час зачыніла для Андрэя Баболі навуковую дарогу, не была чымсьці негатыўным, але адкрыла шырокае поле душпастырскай працы, якая ў будучым стала праўдзівым пакліканьнем сьвятога.

Калі па 27 гадах упартай працы над сабою Андрэй Баболя набліжаўся да дня сваёй мучаніцкай сьмерці, сьведкі яго змаганьняў і перамог бачылі ўжо ў ім сьвятога, які ў значнай ступені адзначаўся шчырай пабожнасьцю, пакорай, цярплівасьцю, панаваньнем над сабою і ахвярнасьцю. Называлі яго ў гэты час чалавекам сьвятым, “лоўцам душ”. Сьвяты Андрэй Баболя ў любых абставінах умеў быць сьведкам евангельскай праўды і таму, нягледзячы на абрадавыя ці культавыя адрозьненьні, прыцягвае сэрцы ўсіх, хто хоча быць сьведкам Хрыстовай мукі і Яго ўваскрасеньня.

**семінарыст Андрэй ГАЙДУКЕВІЧ**

## Пілігрымка ў гонар Маці Божай Жыровіцкай

Паніхіда ў Альбярціне.
Чапялёва. Тут служыў а. А.Неманцэвіч.

Песьняй славім Яго!
Малітва ля былой уніяцкай царквы ў Шылавічах.
У Жыровіцкім манастыры.
На паклон да Маці Божай.
Экскурсія з праваслаўным братам-семінарыстам.
Малітва ля цудатворнай іконы.
Жыровіцкі манастыр.
Смачны абед чакае пілігрымаў.
Малітва ля вясковых могілак.
Сабака-пілігрым (прайшоў з намі паўдарогі).
Жыровіцкія ўражаньні.
Ля студні з крынічнай вадою ў Міроніме.
Праз палі і лясы.
Літургія ў хаце.
“А вось і прывал!..”
“А цяпер у працы перапынак: малітва да Маці Божай!”
Пілігрымам і дождж у радасьць.
Малітва каля вясковага крыжа.
Малітва на месцы старой царквы.
Эх, дарогі...
Добры пастыр.
Добрая вестка для рыбакоў.
Парафіяльнае сьвята ў Івацэвічах.

## 7 траўня – сьвята<br>Жыровіцкай іконы Маці Божай<br>і дзень малітваў за БГКЦ

Абраз Маці Божай Жыровіцкай стаў адной з найбольшых хрысьціянскіх сьвятыняў беларускага народу, якую ўшаноўваюць як праваслаўныя, так і каталікі візантыйскага і лацінскага абрадаў. У самыя цяжкія для нашай Айчыны часы, калі пасьля шматлікіх войнаў, што ня раз руйнавалі краіну і вынішчалі народ, паўсюль чарнелі папялішчы і пусткі, Маці Божая зноў і зноў зьяўлялася нашым продкам, каб прынесьці ў гэты сьвет надзею і дапамогу ды ўказаць на сапраўднае Сьвятло, якое дае веру ў адраджэньне. Менавіта Ёй, Маці Божай Жыровіцкай, дзякавалі нашыя продкі за цудоўную лёсавырашальную перамогу ў бітве пад Палонкай (Баранавіцкі р-н) у страшным 1660-ым, калі магутны вораг з Усходу захапіў амаль усю нашу краіну і шанцаў на выратаваньне, здавалася, ужо не было.

На знак удзячнасьці за атрыманыя шматлікія ласкі для нашага народу гэты цудатворны абраз Маці Божай быў каранаваны залатымі каронамі з каштоўнымі камянямі ў 1730 годзе ўніяцкім Кіеўскім мітрапалітам Апанасам Шаптыцкім. Унікальнасьць гэтай іконы Маці Божай яшчэ і ў тым, што, акрамя маленькага цудатворнага абразка на камяні з выявай Багародзіцы з Дзіцяткам Ісусам, што захоўваецца ў Жыровіцкім манастыры, існуе яшчэ дзьве вельмі знакамітыя і шанаваныя вернікамі копіі, якія таксама цудатворныя! Адна з гэтых цудатворных іконаў Маці Божай Жыровіцкай ужо некалькі стагоддзяў знаходзіцца ў Рыме, у грэка-каталіцкай царкве сьв. Сяргея і Вакха. Знаходзячыся ў Рыме – Сталіцы апосталаў, яна тым самым сымбалічна яднае нас, беларусаў, з Паўсюднай Царквой, з усімі хрысьціянамі сьвету. Іншая цудатворная копія іконы сёньня належыць нашым братам – католікам лацінскага абраду. Яна знаходзіцца ў Слоніме, у касьцёле сьв. Андрэя – апостала і апекуна хрысьціянскага Ўсходу.

Вось жа Маці Божая, што зьявілася нам у Жыровіцах, па-сапраўднаму глыбока яднае ўсіх у пашане да Яе і Яе Сына – Госпада і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста. І ўжо не адно стагоддзе свае ласкі Яна шчодра раздае адданым вернікам – праваслаўным, уніятам, рыма-католікам – не зважаючы на ўсе нашыя канфесійныя падзелы.

І менавіта таму для нашага беларускага народу абраз Маці Божай Жыровіцкай – гэта сапраўдны сымбаль экуменізму і запрашэньне для брацкай любові ў Хрысьце.

**“Даручаю ўсіх апецы Найсьвяцейшай Панны Марыі, якая ўшаноўваецца на вашай зямлі пад імем Маці Божай Жыровіцкай. Прашу Яе быць заступніцай вас. [...] Няхай на ўсіх і на кожнага прасьцягне Яна разам са сьвятымі Заступнікамі вашай зямлі, сваю матчыну апеку.”**

**Усіх, што прыбягаюць да цудатворнага вобразу Твайго, шукаючы дапамогі, Ты, Уладарка, не адкінь ад сябе, але ў суме суцеш і плач на радасьць перамяні: Табе адной нашы цяжкасьці вядомыя, на Цябе спадзяемся, Крыніца міласэрнасьці, Умацаваньне і Ахова душаў нашых. (Трапар у сьвята Жыровіцкай іконы Маці Божай)**

Трапар у сьвята Жыровіцкай іконы Маці Божай

Усіх, што прыбягаюць да цудатворнага вобразу Твайго, шукаючы дапамогі,
Ты, Уладарка, не адкінь ад сябе, але ў суме суцеш і плач на радасьць перамяні:
Табе адной нашы цяжкасьці вядомыя, на Цябе спадзяемся,
Крыніца міласэрнасьці, Умацаваньне і Ахова душаў нашых.

Блаславеньне Папы

“Даручаю ўсіх апецы Найсьвяцейшай Панны Марыі, якая ўшаноўваецца на вашай зямлі пад імем Маці Божай Жыровіцкай. Прашу Яе быць заступніцай вас. [...]
Няхай на ўсіх і на кожнага прасьцягне Яна разам са сьвятымі Заступнікамі вашай зямлі, сваю матчыну апеку.”

**Папа Рымскі Ян Павел ІІ, 10 лютага 2003 году на аўдыенцыі для беларускіх біскупаў падчас візіту “ad limina apostolorum”.**

## ***Каралева Беларускага народу***

*Цудатворны абраз Маці Божай Жыровіцкай*
*у гісторыі і лёсе беларускага народу*

З даўна славіцца сваімі шматлікімі лас-камі цудатворны абраз Маці Божай у Жыровіцах. Вось ужо больш за пяць стагоддзяў мноства вернікаў з самых розных куткоў нашай краіны — з-пад Слоніму і Горадні, з Берасьця і Пінску, з Менску, Віцебску ды Гомеля, а нават і з Польшчы, Украіны, Расеі імкнуцца ў гэтае маленькае мястэчка ў самым сэрцы Беларусі, каб прасіць заступніцтва ў нашай нябеснай Апякункі Найсьвяцейшай Дзевы Марыі ды ўзьнесьці малітвы падзякі за атрыманыя ласкі і дабрадзействы.

**Ж**ыровіцкі абраз уяўляе сабой авал з яшмы, на адным баку якога рэльефная выява Багародзіцы тыпу Замілаваньня з Дзіцяткам Ісусам на правай руцэ. Паводле выдадзенай у часы Уніі «Гісторыі...» Ф.Баравіка (Вільня, 1622; 1628), гэтую сьвятыню знайшлі ў лясным гушчары на квітнеючай грушы-дзічцы ў другой палове XV стагоддзя, калі ўладальнікам Жыровіцаў быў падскарбій Вялікага Княства Літоўскага Аляксандр Солтан, ягоныя пастушкі. У пачатку XVIII стагоддзя І.Нардзі акрэсьліў больш дакладна час, калі быў

знойдзены абраз Маці Божай — 1470 год, і сёньня ад гэтай даты звычайна і выводзяць гісторыю цудатворнага абраза. Праўда, праваслаўны царкоўны гісторык П.Жуковіч лічыў больш верагодным часам знаходкі абраза 1493-1495 гг.

**П**аданьне гаворыць, што спачатку Аляксандр Солтан, якому прынесьлі пастушкі сваю знаходку, меў намер захоўваць маленькі абразок з выявай Божай Маці ў куфэрку, аднак ён адтуль дзіўным чынам прапаў, калі падскарбій захацеў паказаць яго сваім гасьцям. Абразок зноў знайшлі па промнях сьвятла на той самай грушцы. Пабачыўшы ў гэтым здарэньні пэўны знак Нябеснай Уладаркі, Солтан вырашае пабудаваць драўляны храм Божы ў гонар Найсьвятой Багародзіцы на тым самым месцы, дзе сярод лясных дрэваў упершыню зазьзяў промнямі на грушцы абраз Божай Маці. Сам каменны абраз упрыгожваецца срэбрам і выстаўляецца для агульнага ўслаўленьня.

**М**ала, аднак, хто ведае, што менавіта ў тыя часы (калі яшчэ жыла памяць пра Фларэнцкую Унію, і калі беларуска-ўкраінская частка Кіеўскай мітраполіі канчаткова адасобілася ад маскоўскай) некаторыя праваслаўныя ярархі Вялікага Княства Літоўскага і шэраг радавітых баяраў думалі пра тое, каб паяднаць разьяднаных хрысьціянаў Усходняй і Заходняй Царквы, бо бачылі, якую шкоду дзяржаве і Царкве Хрыстовай прыносіць узаемная варожасьць вызнаўцаў розных традыцыяў. Былі сярод тых шчырых хрысьціянаў і два браты Солтаны — Іван (Івашка) і Аляксандр, якія ў 1471 годзе нават прынялі унію. У 1476 годзе, калі з Масквы праз ВКЛ вяртаўся апостальскі нунцый папы Сікста IV, яны разам з іншымі баярамі і духоўнымі асобамі падпісалі ліст, у якім прапаноўвалі Рыму ідэю царкоўнай уніі ў іх дзяржаве. Брат літоўскага падскарбія Аляксандра Солтана Івашка быў тады ў складзе пасольства ў Рыме, якое даставіла Рымскаму папе гэты ліст, датаваны 14 сакавіка 1476 году.

**М**інула паўстагоддзя, і каля 1560 году здараецца бяда — агонь нішчыць царкву. Адшукаўся маленькі абразок ізноў праз цуд. Дзеці, што гуляліся непадалёку ад пажарышча, раптам заўважылі пад гарой на камені сьвечку, якая гарэла, а ля яе — незвычайнае прыгажосьці жанчыну, якая малілася. Уражаныя, яны пабеглі да настаўніка-сьвятара. На ўказаным дзецьмі месцы ён знайшоў згублены абраз Усячыстай Дзевы Марыі, а на камені, дзе гарэла сьвечка,— сьлед нагі Багародзіцы. З вялікай пашанаю жыхары мястэчка перанесьлі ў хату сьвятара цудоўна адшуканы абраз, дзе ён захоўваўся да часу, пакуль не была адноўлена царква.

**В**а ўсім гэтым паданьні пра зьяўленьне Маці Божай у Жыровіцах яўна адчуваецца трагічная гісторыя нашай Беларусі, гарады і вёскі якой ня раз у тыя часы палалі ў агні пажарышчаў пасьля нападаў крымскіх татараў з поўдня і маскоўцаў з усходу, а часам бывалі яшчэ і ўнутраныя сутычкі ды ўзброеныя змаганьні. Ня так хутка і далёка ня ўсе паселішчы маглі аднавіцца пасьля такіх спусташэньняў. Не забудзьма й пра наступ ідэяў кальвінізму ў першай палове XVI ст., якімі захапіліся многія багатыя роды ВКЛ, вынікам чаго стала замена праваслаўных сьвятыняў на кальвінскія зборы, адкуль выкідаліся ўсе абразы. (Напэўна, таму й ня варта дзівіцца, што так мала ў нас сёньня захавалася іконаў, напісаных да XVI ст.). А спакутаваная душа прагнула ачышчэньня чакала міру і злагоды, і тады на дапамогу прыходзіла Божая Маці. Менавіта Яна, Нябесная Маці, стала той «апорай хрысьціянаў», «нашых ворагаў прагнала», «беззаконных пакарала» — як вось ужо шмат стагоддзяў сьпяваецца ў песьні ў гонар Маці Божай Жыровіцкай. З 1587 году ў Жыровіцах засноўваецца манаская абіцель. Але сапраўдны росквіт Жыровіцаў і шырокі культ Жыровіцкага абраза Маці Божай прыпадае на часы Уніі, калі сюды прыйшлі манахі-базыльяне. Слава цудоўнага абраза Маці Божай пачала прыцягваць у мястэчка шматлікіх

вернікаў.

**У**ладальнік Жыровіцаў смаленскі кашталян Ян Мялешка і Даніла Солтан запрасілі сюды ў 1613 годзе манахаў-базыльянаў, зрабілі вялікую фундацыю для манастыра. Першым ігуменам манастыра стаў Язафат Кунцэвіч, пазьнейшы архібіскуп Полацкі — мучанік і сьвяты. Менавіта пры Язафаце Кунцэвічы на месцы першага зьяўленьня абраза пачаў узводзіцца новы велічны мураваны храм для цудатворнага абраза Маці Божай, які быў названы ў гонар Усьпеньня Багародзіцы. Сьвяты Язафат і ягоныя наступнікі сьвядома імкнуліся стварыць у Жыровіцах моцны цэнтр Уніі, каб тут, пад апекай Маці Божай, умацоўваць еднасьць хрысьціянаў у нашым Краі. Адданая і пабожная праца айцоў базыльянаў знаходзіла водгук як у простага люду, так і ў шляхты ды магнатаў. Ня раз ля Жыровіцкага абраза Божай Маці маліліся канцлер ВКЛ Леў Сапега, які падараваў манастыру шмат зямлі, карчму і звон для царквы; узносілі свае малітвы і атрымлівалі ацаленьні магнаты з роду Астрожскіх, Агінскіх, Войнаў Палубінскіх, Радзівілаў, Сангушак, Сапегаў, Солтанаў, Сьлізьняў, Хадкевічаў і іншыя. Слава маленькага цудатворнага абразка з Жыровіцаў дайшла і да Варшавы да самога караля. 9 сьнежня 1644 году ў Жыровіцкай сьвятыні два дні быў на ўрачыстых набажэнствах кароль і вялікі князь Уладзіслаў IV з каралеваю. Дзеля праслаўленьня Багародзіцы 21 чэрвеня 1652 году кароль Ян Казімімр надаў Жыровіцам — яшчэ зусім нядаўна ціхаму мястэчку на ўскрайку пушчы — магдэбургскае права.

**Ж**ахлівая па колькасьці разбурэньняў і чалавечых ахвяраў вайна з Масковіяй не абмінула і Жыровіцы.У 1655 годзе 20-тысячнае казацкае войска на чале з Залатарэнкам спаліла Жыровіцы, зьнішчыла амаль усіх жыхароў. Асабліва жорстка захопнікі расправіліся з манахамі базыяльнамі, частка якіх была закатавана, іншыя ж ураталіся ўцёкамі. Сьвятыня Маці Божай была абрабавана і моцна разбурана. Некаторы час сьвятыняй апекваліся слонімскія бернардыны, бо ў час вайны з Масковіяй, перасьледаваная непрыяцелем, Уніяцкая Царква была так зьнішчана, што многія думалі — яна ўжо не адродзіцца. 28 чэрвеня 1660 году непадалёку ад Жыровіцаў, пад Палонкай (сёньня — Баранавіцкі р-н), адбылася вырашальная бітва з маскоўскімі захопнікамі. Цудоўная перамога ў гэтай бітве нашых продкаў пад кіраўніцтвам Паўла Сапегі і Стэфана Чарнецкага над больш колькасным праціўнікам адбылася, як тады ўсе аднадушна лічылі, выключна дзякуючы заступніцтву і апецы Маці Божай Жыровіцкай. Перамога гэтая зьмяніла ўвесь ход вайны. З гэтага часу зноў пачалі адбудоўваць сваю сьвятыню айцы базыльяне.
19 траўня 1667 году ў Варшаве кароль Ян Казімір выдаў Жыровіцкаму манастыру прывілей, у якім ён дзякуе Ўсемагутнаму: «За Яго сьвяты Провід, за падараваны нам ласкі поўны Абраз Найсьвяцейшай Божай Маці ў Жыровіцах як месцу памілаваньня і апекі». У прывілеі кароль адзначае: «Мы павінны вечна шанаваць гэты Абраз Божае Маці, бо праз Яе заўсёды атрымліваем блаславеньне і посьпех дзяржаве, асягаюцца добрыя вынікі, дзеля чаго ён, кароль, абвяшчае вынятковую сваю ўвагу усім, хто служыць і моліцца й хто шануе ды славіць гэты абраз Божае Маці». Вось жа маліліся ў Жыровічах, прасілі заступніцтва Маці Божай і дзякавалі Ёй пазьней і іншыя каралі: Ян III Сабескі — перад бітвай пад Венай (1683), другі раз, разам з каралевічам Якубам — у 1688; Аўгуст II Сас, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

**А**рхітэктурны ансамль Жыровіцкага манастыра склаўся ў XVII-XVIII стст. Асаблівымі апекунамі і фундатарамі манастыра сталі прадстаўнікі роду Сапегаў. Да пачатку 1680-ых гадоў было скончана аднаўленьне галоўнай сьвятыні манастыра — Усьпенскага храму, дзе знаходзіцца цудатворная ікона і крынічка з гаючай вадою. Адначасова пачалося ўзьвядзеньне Яўленскай царквы, якая пабудавана на месцы каменя, дзе другі раз зьявіўся

цудатворны абраз Маці Божай пасьля пажару. Паводле некаторых зьвестак, яна была ўзьведзена ў 1672 годзе, аднак іншыя крыніцы падаюць 1769 год. У 1769 г. было закончана будаўніцтва трэцяй манастырскай царквы ў гонар Узвышэньня Сьвятога Крыжа — храма Кальварыі, дзе на столі і сьценах царквы паказаны сцэны з гісторыі мучаніцтва, сьмерці на крыжы і пахававаньня Збаўцы. Асаблівасьці архітэктуры гэтага храму мелі сымбалізаваць для вернікаў паломніцтва ў Ерусалім, на Галготу. Ад уваходных дзьвярэй аж да сярэдзіны царквы пабудаваны дробныя сходы, на кожнай прыступцы якіх у асобных алтарыках знаходзіліся мошчы сьвятых, закрытыя шклом. Зьнятыя пазьней, пасьля скасаваньня Уніі, яны былі схаваныя ў галоўным алтары. Калісьці гэты шлях малельнікі праходзілі на каленях. Праваслаўнымі гэтая царква рэдка выкарыстоўвалася. А ў міжваенны час яна была нават перададзена каталікам.

**Ё**сьць яшчэ чацьвёрты храм — драўляная царква сьв. Юрыя на могілках. У ёй знаходзяцца астанкі царкоўнага пісьменьніка а. Плакіда Янкоўскага.

**У** адным з бакавых скляпеньняў Усьпенскай царквы і сёньня знаходзіцца труна з нятленным целам вялебнага Якіма (Цеханавецкага), уніяцкага біскупа Пінскага і Тураўскага, які адзначаўся суровым правілам манаскага жыцьця і памёр у сьвятасьці ў Пінску 4 красавіка 1719 году. Паводле жаданьня Ўладыкі, пасьля сьмерці цела яго было перанесена з Пінску ў Жыровічы і пахавана ў агульным брацкім склепе. Праз нейкі час, як кажа мясцовае паданьне, ён зьявіўся ў сьне аднаму з старцаў манастыра, а потым таксама ігумену ды братам-манахам. Было вырашана адчыніць труну, і, на вялікае зьдзіўленьне прысутных, цела аказалася нятленным. І ў пазьнейшыя часы гэты факт у вачах праваслаўнага люду быў асаблівым сьведчаньнем сьвятасьці спачылага тут біскупа-базыльяніна, хоць многія нават і ня ведалі, што ён быў уніятам. Вядома, што ў перыяд пасьля скасаваньня Уніі і да ІІ Сусьветнай вайны праваслаўныя зьверхнікі манастыра з пашанай ставіліся да яго і двойчы на год — 4 красавіка і 9 верасьня — сьпецыяльна адпраўлялі набажэнствы за супакой душы багалюбнага біскупа Якіма. (На жаль, невядома, ці захавалася такая практыка цяпер.) Такім чынам гэты сьвяты Ўладыка стаў нязвыклым зьвяном, якое яднае ў манастыры сучаснае праваслаўе з яго ўніяцкім мінулым і, напэўна, гэта можна назваць яшчэ адным цудам, учыненым Маці Божай Жыровіцкай. Вялікая слава Жыровіцкага абраза дайшла нават да Рыму. Калі ў жніўні 1718 году ў царкве сьв. Сяргея і Вакха, якую Папа Рымскі аддаў айцам базыльянам нашай Літоўскай правінцыі, падчас рамонту пад тынкам у адной з сьценаў будынку выпадкова выявілі абраз Маці Божай, яны не сумняваліся — да іх зьявілася такім цудоўным чынам Маці Божая Жыровіцкая. Абраз у рымскай царкве айцоў базыльянаў зьяўляецца копіяй выявы на камені ў Жыровіцах. Гэтая ікона ў Рыме, вядомая сярод мясцовага люду як Madonna del Pascolo, таксама стала вельмі шанаванай, бо дзякуючы заступніцтву Маці Божай атрымалі цудоўныя ацаленьні многія італійскія вернікі.

19 верасьня 1730 году цудатворны абраз Маці Божай у Жыровіцах быў каранаваны залатымі папскімі каронамі, а Маці Божая Жыровіцкая з блаславеньня Папы Рымскага Клімента XII, які асабліва шмат клапаціўся пра Ўсходнюю Царкву, была ўрачыста абвешчана Каралевай беларускага народу. Каранаваць абраз меў намер 8 верасьня 1728 году яшчэ мітрапаліт Леў Кішка, аднак тагачасная сітуацыя ў краіне не спрыяла гэтаму, і каранаваньне адклалі; зьдзейсьніў яе ўжо наступнік гэтага мітрапаліта.

**Б**агата аздобленыя каштоўнымі каменямі залатыя кароны, выкананыя ў Рыме, ахвяравала для абраза княгіня Ганна Радзівіл з роду Сангушкаў, а з Рыму іх даставіў яе сын Геранім Радзівіл. Вось жа 19 верасьня 1730 году (8 верасьня па старым стылі, у сьвята Нараджэньня Багародзіцы) уніяцкі мітрапаліт Кіеўскі Апанас Шаптыцкі ў прысутнасьці пасланьніка папы,

двух біскупаў (Тэафіла Гадэбскага, уладыкі Ўладзімірскага і Берасьцейскага ды Юрыя Булгака, уладыкі Пінскага і Тураўскага), духавенства абодвух абрадаў і дзясяткаў тысячаў вернікаў зьдзейсьніў урачысты акт каранацыі слыннага ласкамі абраза Маці Божай у Жыровіцах. Падчас урачыстасьці працэсія прайшла праз шэсьць трыюмфальных брамаў, пабудаваных на шляху з Слоніма ў Жыровіцы. На працягу тыдня ля цудатворнага абраза не спыняліся набажэнствы, каля 140 тысячаў вернікаў абодвух абрадаў прыйшлі за гэты час спавядацца і прычашчацца Сьвятымі Тайнамі. У гэты ж час былі нават занатаваны сем цудоўных здарэньняў. У памяць пра гэтую вялікую ўрачыстасць у Жыровіцах былі адліты памятныя медалі.

**Ж**ыровіцкі абраз двойчы пакідаў сьцены манастыра. Першы раз гэта здарылася ў 1660 годзе, у час «Патопу» — вайны з Масковіяй, калі абраз, каб ўратаваць ад чужынскіх захопнікаў, манахі вымушаны былі вывезьці ў манастыр базыльянаў у Быцені. Другі раз — у 1915 годзе, калі пачалася сусьветная вайна. Яго вывезьлі ў Маскву, а адтуль Жыровіцкі абраз вярнуўся ўжо бяз большасьці аздобаў.

**Г**алоўная сьвятыня беларускага народу — абраз Маці Божай Жыровіцкай на камені — сёньня належыць праваслаўным. Аднак у Жыровіцкі праваслаўны манастыр памаліцца да Маці Божай часта прыязджаюць і грэка-каталікі. У часы Уніі сярод усіх абразоў Маці Божай, якія былі ва ўніяцкіх сьвятынях Беларусі, найбольш пашыраныя былі якраз копіі з Жыровіцкай іконы. Сёньня варта асабліва адзначыць сярод розных копіяў Жыровіцкага абраза дзьве цудатворныя іконы, якія належаць каталікам. Адна з гэтых сьвятыняў дагэтуль знаходзіцца ў Рыме ў царкве Madonna del Pascolo (сьв. Сяргея і Вакха айцоў базыльянаў), якой цяпер карыстаюцца ўкраінскія грэка-каталікі. Час ад часу ў гэтым храме ля цудатворнай іконы Маці Божай Жыровіцкай моляцца і беларускія грэка-каталікі. Цікавая гісторыя й лёс другой цудатворнай копіі. Сёньня яна знаходзіцца ў рыма-каталіцкім касьцёле сьв. Андрэя ў Слоніме. Аднак мала хто ведае, што і гэтая ікона мае грэка-каталіцкае мінулае...

**Г**эты абраз Маці Божай Жыровіцкай даволі вялікі, намаляваны на палатне, і зьяўляецца копіяй як раз таго, што ў Рыме, у царкве базыльянаў. У 1738 годзе нашыя базыльяне, што жылі ў Вечным горадзе, вырашылі падараваць на Бацькаўшчыну базыльянам у Жыровіцы копію свайго цудатворнага абраза Madonna del Pascolo. Падобна, што іх замову выконваў нейкі італійскі іканапісец, бо ў надпісу на царкоўна-славянскай мове вакол выявы Маці Божай з Дзіцяткам Ісусам з прычыны няведаньня гэтае мовы ён дапусьціў пэўныя недакладнасьці. Гэтая копія з рымскай цудатворнай іконы Маці Божай Жыровіцкай была першапачаткова зьмешчана айцамі базыльянамі ў царкве сьв. Юрыя на могілках у Жыровіцах, і там яна знаходзілася ўвесь час да скасаваньня Уніі ў 1839 годзе. Пазьней яна належала праваслаўным, ажно да пачатку 1939 году. Менавіта тады праваслаўныя перадалі гэтую рымскую копію рыма-католікам, якія тады валодалі храмам-Кальварыяй — царквой Узвышэньня Сьвятога Крыжа ў Жыровіцкім манастыры. Цяпер гэты храм зноў належыць праваслаўным, а падараваная базыльянамі рымская копія іконы Маці Божай Жыровіцкай сёньня знаходзіцца над галоўным алтаром уфундаванага некалі Сапегамі цудоўнага касьцёлу сьвятога апостала Андрэя, якім апякуюцца айцы капуцыны.

**В**ось такім дзіўным спосабам Маці Божая Жыровіцкая лучыць наш беларускі народ, вызнаўцаў праваслаўя і каталіцтва, вернікаў візантыйскага і лацінскага абрадаў. І таму ікону Маці Божай Жыровіцкай можам называць яшчэ й Маці Божай Еднасьці. У 2003 годзе, зьвяртаючыся да каталіцкіх ярархаў Беларусі падчас іх візіту «ad limina Apostolorum», менавіта Яе апецы даручыў Папа Рымскі Ян Павел ІІ Беларусь: «Даручаю ўсіх апецы

Найсьвяцейшай Панны Марыі, якая ўшаноўваецца на вашай зямлі пад імем Маці Божай Жыровіцкай. Прашу Яе быць заступніцай вас, вялебныя і любыя Сабраты, і вашых бліжэйшых памочнікаў — сьвятароў, законьнікаў і законьніц, семінарыстаў і сьвецкіх асобаў, якія актыўна займаюцца апостальскай дзейнасьцю, і ўсёй каталіцкай грамады, што жыве ў Беларусі. Няхай на ўсіх і на кожнага прасьцягне Яна разам са сьвятымі Заступнікамі вашай зямлі, сваю матчыну апеку».

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

Малітва перад Жыровіцкай іконай
Маці Божай

О, Міласэрная Ўладарка, Дзева Багародзіца! Якімі вуснамі дакрануся да сьвятыні абраза Твайго? Якімі словамі выкажу пачуцьці аб міласьці Тваёй да людзей, што прыходзяць да Цябе? Ніхто ж ад Цябе не адыходзіць без памілаваньня.

Ад пачатку жыцьця чалавек адчувае ласку маці свае, якая вучыць славіць Цябе, Багародзіца, Уладарка душаў нашых. Аддаемся пад апеку Тваю, стоячы на каленях перад цудатворным вобразам Тваім. Не пакінь нас бяз помачы ў дзень смутку, у дзень жалю, пры нягодах жыцьця нашага. Будзь радасьцю і надзеяй збаўленьня нашага.

Міласэрная Ўладарка, прасьвяці розум мой і ўсіх тых, хто да Цябе зьвяртаецца!

Захавай Царкву Сына Твайго ў еднасьці! Архіпастырам нашым пашлі помач Тваю ў апостальстве Евангельля! Дапамажы ўладам нашым кіравацца Праўдаю Сьвятою і розумам ясным, а суддзям – чыніць праўду і справядлівасьць. Яшчэ молім Цябе, Міласэрная Багамаці, глянь на зямлю нашую й народ ды ўкрый ад бяды, войнаў, голаду й чужога прыгнёту волі нашае. Дай шчасьце й супакой у жыцьці ў свабодзе, каб з хрысьціянскім сумленьнем жыць і славіць Цябе малітвамі і песьнямі на зямлі нашай на векі вечныя. Амін.

Песьня Маці Божая ў Жыровіцах

У Жыравіцах нам зьявілась, о, Марыя,
Бо нас грэшных палюбіла, алілуя!

Прыпеў:
Радасьць вам, херувімы,
Сьпявайце, серафімы,
Радуйся, радуйся,
О, Марыя.

Туды дзеці скот ганялі, о, Марыя,
Дзе цяпер сьвятыню славім, алілуя!

На грушовым стаяў дрэве, о, Марыя,
Абраз Найсьвятое Дзевы, алілуя!

І апорай хрысьціянаў, о, Марыя,
Стаў абраз Твой, Богам даны, алілуя!

Няхай будзе Табе слава, о, Марыя,
Што да нас Ты завітала, алілуя!

У Жыравіцы людзі ходзяць, о, Марыя,
Там свае малітвы ўзносяць, алілуя!

Мы Цябе ўсе велічаем, о, Марыя,
Свае сьлёзы праліваем, алілуя!

Ты нябесная нам Маці, о, Марыя,
Да Цябе мы будзем зваці, алілуя!

Няхай будзе Табе слава, о, Марыя,
Што да нас апорай стала, алілуя!

Нашых ворагаў прагнала, о, Марыя,
Беззаконных пакарала, алілуя!

Каб жыла наша Краіна, о, Марыя,
Адганяй ворагі злыя, алілуя!